Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 32 (4678) 10 жніўня 2012 г.

Віктар ГАРДЗЕЙ

## Беларускім алімпійцам

*Так, мабыць, продак*
*выкарчоўваў ляда*
*І сонца падымаў у вышыню,*
*Як нашу Беларусь Алімпіяда*
*У Лондане вітае ўпершыню.*

*Здзівіўся свет:*
*сярод шматлікіх нацый*
*У беларусаў свой імпэт і дух.*
*За нас у захапленні ад авацый*
*Туманны Альбіён*
*ледзь не аглух.*

*Увесь Уімблдан трэсся*
*рэхам стрэлаў,*
*Хоць тое рэха*
*заглушыла даль.*
*Удача тут Мартынава*
*сустрэла:*
*Здабыў ён першы*
*залаты медаль.*

*Азаранка і Мірны —*
*чэмпіёны,*
*Фурор такі на цэлы белы свет!*
*І золатам славутыя імёны*
*Адсвечваць будзе*
*пераможны сет.*

*Зацвердзіла і свой рэкорд*
*галоўны*
*Лёгкаатлетка Надзя Астапчук:*
*Ядро штурхнула —*
*дык не мела роўных*
*І золата не выпусціла з рук.*

*Ды ганарымся мы Герасіменяй —*
*Сярэбранай ёй сталася вада.*
*Чакалі болей, ну,*
*а выйшла меней:*
*Два медалі — якая ж тут бяда?*

*Прынесла бронзу*
*Шкерманковай штанга —*
*Дзяржаве гонар, радасна сабе.*
*Што ні спартсмен, глядзіш,*
*высокі рангам,*
*Характар ёсць і воля*
*ў барацьбе.*

*Здаецца, лірнік закранае струны,*
*І коцяцца слязінкі незнарок.*
*Наш Гімн віталі, стоячы,*
*трыбуны,*
*Наш Сцяг дзяржаўны*
*ўзвіўся на флагшток.*

*Не проста дзеляцца*
*сусветнай славай*
*І корт спакусны, і грабны канал,*
*Ды Беларусь, адвечная дзяржава,*
*На алімпійскі ўзнята*
*п’едэстал.*

# Купала ідзе да Коласа…

## (да 100-годдзя першай сустрэчы народных песняроў)

Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ,
дырэктар Дзяржаўнага
літаратурна-мемарыяльнага
музея Якуба Коласа

**Сёння ў філіяле “Мікалаеўшчына” Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа (Мінская вобласць, Стаўбцоўскі раён) ладзяцца святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. На мемарыяльнай сядзібе Смольня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага знака ў гонар 100-годдзя першай сустрэчы народных паэтаў Беларусі, а таксама адкрыццё выстаўкі “Шляхам Янкі Купалы да Якуба Коласа” з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**



Фота з фондаў музея Якуба Коласа.

Так было наканавана лёсам, што ў адзін год з’явіліся на свет два немаўляткі, якія сталі голасам свайго народа, яго вачыма, яго думкамі і сэрцам. І ўжо пры нараджэнні нябачная повязь злучыла будучых геніяў: жыццё ім далі маці-зямлячкі — карані Ганны Юр’еўны і Бянігны Іванаўны ідуць са Стаўбцоўшчыны. І ў далейшым некаторыя жыццёвыя абставіны Купалы і Коласа супадалі, пераклікаліся.

Нягледзячы на рознае сацыяльнае паходжанне і веравызнанне, іх галасы зліваліся ў адну песню-гімн свайму народу, узвышаліся над рэчаіснасцю, як промні святла, прабіваючыся праз цемру і нягоды.

Першая сустрэча Янкі Купалы і Якуба Коласа стала тым моцным падмуркам трывалага і надзейнага сяброўства, якое яны пранеслі праз усё жыццё.

У фондах музея захоўваюцца нешматлікія, але вельмі каштоўныя дакументы, рукапісы, фотаздымкі, якія сведчаць пра ўзаемаадносіны песняроў.

Якуб Колас неаднаразова ўзгадваў першую сустрэчу з Янкам Купалам у Смольні. У артыкуле “Янка Купала” да 70-годдзя з дня нараджэння паэта ён пісаў:

“Абставіны майго жыцця складаліся так, што я не мог паехаць да Янкі Купалы, каб сустрэцца з ім «вока на вока», паехаць як да друга, якога я глыбока палюбіў за яго творы. Я быў пад нядрэмным вокам паліцыі. За кожным крокам маім яна пільна сачыла. У тым жа 1908 годзе, у канцы лета, мне была ўручана павестка — прыбыць на суд Віленскай судовай палаты ў г. Мінск 15 верасня. Суд адбыўся. Засудзілі мяне на тры гады зняволення ў крэпасці. Такім чынам, стаў я арыштантам царскага астрога.

Выпадкам, нелегальным шляхам — не дужа дарагім подкупам царскіх чыноўнікаў з астрожнай адміністрацыі — удавалася пераслаць сёе-тое з напісанага ў мінскім астрозе для друку. Тым жа шляхам зрэдку прыходзілі да мяне беларускія друкаваныя выданні, у якіх змяшчаліся творы Янкі Купалы. Мае сябры па вязніцы ў крэпасці з вялікім задавальненнем чыталі яго вершы.

Мая першая непасрэдная сустрэча з Янкам Купалам адбылася толькі летам 1912 года, амаль праз год пасля майго вызвалення з астрога. Аб гэтай сустрэчы мне аднойчы ўжо даводзілася гаварыць. Але яна такая светлая, радасная, такая яркая і жывая ў маёй памяці, што і зараз хочацца сказаць пра яе некалькі слоў.

Я жыў у сваіх родных на Нёмане, паўтара кіламетра ад в. Мікалаеўшчына. Якраз на тую пару я быў у сяле у аднаго са сваіх прыяцеляў. І раптам прыбягае адна з маіх сясцёр. Усхваляваная, стаміўшыся ад шпаркай хады, яна адразу з запалам сказала: «Да цябе прыйшоў Янка Купала!» Гэтыя словы моцна ўразілі і мяне. Я зараз жа развітаўся з прыяцелем і хутка падаўся дахаты на сустрэчу з паэтам, якога я ведаў даўно, але ні разу яшчэ не бачыў, і якога так моцна хацелася пабачыць.

Купала сядзеў за сталом. Згледзеўшы мяне на парозе хаты, ён, не спяшаючыся, падняўся з месца і накіраваўся насустрач мне. Лагодная усмешка, ясны малады твар, вясёлыя светла-карыя вочы з ледзь улоўнай хітраўінкай — такі быў у маіх вачах Янка Купала. Такім жыве ён і па сённяшні дзень у самым запаветным куточку мае памяці”.

На мемарыяльнай сядзібе Смольня філіяла музея шмат што нагадвае пра знакавую падзею: хата, дзе адбылася сустрэча, стол, за якім вялася гутарка маладых людзей, самавар як атрыбут гасціннасці, гумно, дзе, па ўспамінах Якуба Коласа, паэты начавалі на сенавале.

У 2011 годзе ў Смольні па ініцыятыве старшыні Дабрачыннага савета музея А. Грэкава і кіраўніцтва музея закладзены сквер “Дрэва жыцця”. З 18 рэгіёнаў Беларусі прывезены і пасаджаны дрэвы ў знак памяці пра славутых людзей. Сярод іх тры дрэўцы з Акопаў, Вязынкі, Яхімоўшчыны. Шапочуць ля хаты ліпы, пасаджаныя ў 1911 годзе Якубам Коласам пасля вяртання з астрога, а побач з імі, пасаджаныя праз 100 гадоў, падрастаюць дрэўцы Купалы. І калі прыслухацца, то ў іх шэпце можна пачуць словы-прысвячэнні сяброў:

*Шмат сцежак з табою*
*прайшлі мы,*
*Адзін пракладаючы след,*
*І слухалі голас радзімы,*
*Каб несці той голас у свет.*
**Якуб Колас**

*Хай сонца след табе карчуе*
*Да новых песень каласістых,*
*Хай кожны знае, хай пачуе,*
*Як мы йдзём сцежкай*
*залацістай.*
**Янка Купала**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку СССР, народную артыстку Украінскай ССР, народную артыстку Малдаўскай ССР, Героя Украіны Сафію Ратару з юбілеем. "Вашы цудоўныя песні — гэта невычэрпная крыніца пяшчоты, радасці і дабра для мільёнаў людзей", — сказана ў віншаванні.

✔ У Беларусь прыбыла першая частка скарбаў брытанскіх каралёў з калекцыі лонданскага Музея Вікторыі і Альберта. Неўзабаве будзе дастаўлена і другая частка калекцыі. Пабачыць 80 унікальных экспанатаў перыяду 1600 — 1800 гадоў можна будзе ў Нацыянальным мастацкім музеі і Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку "Нясвіж". Арганізавала паказ Міністэрства культуры Беларусі пры падтрымцы пасольства Беларусі ў Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі.

✔ Сёння заканчваецца прыём заявак на ўдзел у конкурсе маладзёжнай песні фестывалю "Моладзь — за Саюзную дзяржаву". Сам фестываль, ужо сёмы па ліку, запланаваны на 16 — 21 верасня ў Растове-на-Доне (Расія). На яго правядзенне са сродкаў бюджэту Саюзнай Дзяржавы выдаткавана больш як 9,5 мільёнаў расійскіх рублёў.

✔ На сцэне "Артэка" пачаліся рэпетыцыі фіналістаў міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў папулярнай музыкі "Детская Новая волна-2012", які пройдзе 15 — 17 жніўня. Беларусь на конкурсе прадставіць дзевяцігадовая Ілія Федарцова, якая выступіць з кампазіцыяй "Something's Got a Hold on Me", вядомай у выкананні Эты Джэймс і Крысціны Агілеры.

✔ У Кастрамской вобласці завяршыўся міжнародны фестываль "Нашы старажытныя сталіцы", на якім са сваёй творчасцю пазнаёмілі лепшыя калектывы Расіі, Беларусі і Украіны. Прымеркаваны фестываль да 1150-годдзя зараджэння расійскай дзяржаўнасці. Беларускую культуру на ім прадставіў Нацыянальны акадэмічны хор імя Г. Цітовіча.

✔ 4 жніўня ў Маскве на Новадзявочых могілках адкрыты помнік Людміле Гурчанцы, які ўсталяваны на магіле народнай артысткі СССР. Яго аўтары — Юрый Хароўскі і Юрый Шабельнікаў.

✔ Навагрудак стаў пляцоўкай для здымак дакументальнага фільма "Побег!", прысвечанага ўцёкам вязняў Навагрудскага яўрэйскага гета ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Падзеі, што склалі аснову кінастужкі, адбыліся 26 кастрычніка 1943 года. Аўтар праекта і кіраўнік здымачнай групы — вядомы ізраільскі рэжысёр-дакументаліст Дрор Шварц.

✔ У Магілёўскай вобласці стартаваў штогадовы літаратурны конкурс памяці К. Сіманава, які ладзяць гарадское аддзяленне "Русское общество" і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі. Конкурсам прадугледжаны дзве намінацыі — "Малая проза" і "Паэзія" — у трох узроставых групах. Вынікі будуць падведзены падчас Сіманаўскіх чытанняў.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У літаратуры ёсць будучыня

**Прэс-канферэнцыя на тэму "Работа Саюза пісьменнікаў Беларусі па павышэнні ролі кнігі і папулярызацыі чытання" прайшла ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь. З прадстаўнікамі айчынных мас-медыя вялі гутарку старшыня пісьменніцкай арганізацыі Мікалай Чаргінец, сакратар Георгій Марчук і намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталія Касцючэнка.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

Узгадаўшы такія важныя ў жыцці творчага саюза падзеі, як апошні пісьменніцкі з'езд і кастрычніцкая сустрэча з Прэзідэнтам Беларусі, падчас якой былі агучаны самыя надзённыя і набалелыя праблемы творцаў, а таксама выпучаны тэндэнцыі развіцця сучаснай айчыннай літаратуры, Мікалай Чаргінец праінфармаваў журналістаў пра вынікі працы.

Па-першае, пісьменнікі зноў апынуліся ў цэнтры ўвагі грамадскасці. Гэтаму шмат у чым паспрыяла абвяшчэнне 2012 года Годам кнігі і здзейсненыя па ініцыятыве Прэзідэнта паездкі пісьменніцкіх дэлегацый на лепшыя прадпрыемствы, гаспадаркі і навучальныя ўстановы Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцей. Атрымаўшы магчымасць пабачыць тое, што рэальна адбываецца ў краіне, пазнаёміцца з героямі нашага часу, літаратары натхніліся на стварэнне выдатных твораў пра сучаснікаў.

Зрушылася, здаецца, справа і ў ганарарнай палітыцы айчынных выдавецтваў. Раней пісьменнікі наракалі на тое, што нават такія невялікія ганарары, якія налічваюцца сёння аўтарам за выдадзеныя кнігі, часта чакаліся па 5, 6 і нават 9 гадоў. Творцы спадзяюцца, што ў краіне зменіцца сітуацыя з ПДВ (падаткам на дабаўленую вартасць) на кнігі: сёння ў нас ён большы, чым у суседняй Расіі, і, адпаведна, беларускія кнігі аказваюцца даражэйшымі. Што ж абярэ масавы чытач? Безумоўна, больш танную кнігу. Але гэта толькі адна з акалічнасцей, якая аддаляе айчынных пісьменнікаў ад чытачоў. Саюз пісьменнікаў узняў пытанне пра наяўнасць кніг сучасных літаратараў Беларусі ў бібліятэках. Падчас паездак па краіне высветлілася: шмат у якіх бібліятэках айчынных выданняў апошніх гадоў амаль няма. Беларуская літаратура прадстаўлена ў асноўным класікамі XX стагоддзя. А пасля мы здзіўляемся, калі аказваецца, што некаторыя чытачы імёнаў сучасных пісьменнікаў не чулі. Нават тых, хто плённа працуе і выдае кнігу за кнігай. Папулярнасці пісьменнікаў і цікавасці да іх творчасці могуць вельмі паспрыяць айчынныя СМІ. Між іншым, Прэзідэнт Беларусі выказваў такое пажаданне: прадстаўляць майстроў пяра, часцей даваць ім слова на старонках газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанні. Аднак пакуль з гэтым не ўсё гладка. Мікалай Чаргінец папрасіў журналістаў дапамагчы данесці слова пісьменніка, які можа быць і добрым настаўнікам, і мудрым дарадцам, і тонкім дыпламатам, да суайчыннікаў.



Таксама на прэс-канферэнцыі ішла гутарка пра дзіцячую літаратуру. Занепакоенасць развіццём гэтага кірунку выказаў пісьменнікам Прэзідэнт. І сёння ўжо можна сказаць: дзіцячай літаратуры ў краіне ствараецца дастаткова. Гэта і творы ўжо вядомых пісьменнікаў, і цікавыя аповесці, казкі, кнігі вершаў, напісаныя аўтарамі новага пакалення. Прычым, ёсць кнігі і для самых маленькіх, і для малодшых школьнікаў, і для падлеткаў, і для старшакласнікаў. Наяўнасць добрай дзіцячай літаратуры проста не можа не даць пэўны вынік у выхаванні літаратурнай змены. І вось на слыху ўжо новыя імёны. Сёння маладым талентам значна лягчэй пракладваць дарогу да прызнання. Рэальную дапамогу атрымліваюць яны ад пісьменнікаў-прафесіяналаў у Школе юнага літаратара "Маладзік". А ў мінулым годзе на базе выдавецтва "Чатыры чвэрці" была распачата серыя "Мінскія маладыя галасы", у якой выдаюцца падрыхтаваныя прафесіяналамі да друку зборнікі найбольш перспектыўных пачаткоўцаў.

Адначасова выдавецтва "Харвест" працягвае грунтоўную серыю кніг "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі", у якой ужо выдадзена 120 тамоў, што прадстаўляюць сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Ацэньваючы айчынную літаратуру апошніх гадоў у цэлым, можна адзначыць, што ў ёй заўважны пэўны ўздым. Мабыць, час пераасэнсавання падзей, сведкамі якіх мы сталі на мяжы XX і XXI стагоддзяў, ужо скончыўся. Думкі выспелі, прымусіўшы ўзяць у рукі пёры нават тых, хто доўга маўчаў у літаратуры. А некаторыя аўтары ярка заяўляюць пра сябе, асвойваючы новыя жанры. Многа цікавых, незвычайна глыбокіх твораў нашых пісьменнікаў было апублікавана апошнім часам у мастацкіх часопісах "Нёман", "Полымя" і "Маладосць" (Мікалай Чаргінец назваў у якасці прыкладу творы Валянціны Кадзетавай і Алы Жур). І ў айчыннай літаратуры ёсць будучыня, бо рэдакцыйныя партфелі гэтых выданняў не пусцеюць.

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**РАДНОВА**
**(Кашуба)**
**Ганна**
**Адамаўна**

***Паэтэса***

Нарадзілася 1 верасня 1953 года ў в. Леткаўшчына Капыльскага раёна. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. У апошнія гады працавала старшым рэдактарам Беларускага радыё і тэлебачання, рэдактарам аддзела часопіса "Нёман".

Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках. Аўтар кнігі "На струнах вятроў" (2005). Кіраўнік гуртка "Аўтарскі літаратурны тэатр «Слова»" ў сярэдняй школе № 186 г. Мінска.



**ЯВІЧ**
**Яна**
**Паўлаўна**

***Паэтэса***

Нарадзілася 26 лістапада 1983 года ў Мінску. Скончыла факультэт рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Працуе ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва".

Актыўна друкуецца ў беларускай літаратурнай перыёдыцы. Аўтар паэтычнага зборніка "Сувязь жыццяў" (2011).

# "Zabor" карцін у Мінску

**На працягу двух месяцаў мінчане і госці сталіцы змогуць азнаёміцца з незвычайнымі рэпрадукцыямі карцін вядомых беларускіх мастакоў у рамках арт-праекта "Zabor". Выстаўка размешчана на агароджы сталічнага парку Чалюскінцаў.**

**Дар'я ШОЦІК**

Арт-праект "Zabor" уключае сорак цікавых работ, якія стварылі сапраўдныя майстры сваёй справы. Сярод іх — Віктар Альшэўскі, Сяргей Каваль, Руслан Вашкевіч, Уладзіслаў Стальмахаў. Арганізатарамі ўнікальнай выстаўкі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, кампанія "Зубр Капітал". Галоўная ідэя праекта — наладзіць дыялог паміж мастацтвам, якое часам здаецца надзвычай далёкім, і жыхарамі горада. Адсюль тэма экспазіцыі — Беларусь і беларусы. Кожная дробязь, якая адлюстроўваецца на карцінах, складае жыццё чалавека.

На ўрачыстым адкрыцці міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка падкрэсліў:

— Гэта крэатыўны праект у сферы мастацтва і культуры нашай краіны. Ён з'яўляецца адным з першых, які праходзіць у такім выглядзе.

На адкрыццё імпрэзы завіталі таксама генеральны дырэктар кампаніі "Зубр Капітал" Алег Хусаенаў і намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Карпенка.

— Арт-праект "Zabor" — унікальны для Беларусі, па сваім маштабе і змесце ён не мае аналагаў, — зазначыў Алег Хусаенаў.

— Прыемна, што супрацоўніцтва дапамагло рэалізаваць задуму: выстаўка карцін сучасных мастакоў — для шырокага кола гледачоў.

*Літабсягі*

# Патрыярх беларускасці

**Чалавек-энцыклапедыя ды чалавек-аркестр, патрыярх сярод даследчыкаў — толькі малая частка эпітэтаў, якімі яго ўзнагароджвалі. Афіцыйна — Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук, прафесар, стваральнік навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, супрацоўнік колішняга Інстытута літаратуры Акадэміі навук, старшыня камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры, выдатны этнограф... І гэта зноў жа толькі невялікая частка.**



**Алеся БАЦЮСЬ,**
**фота Кастуся Дробава**

Адаму Мальдзісу 7 жніўня споўнілася 80. Адметна, што шматлікія госці, якія прыйшлі павіншаваць Адама Восіпавіча, сустракалі юбіляра гучнымі апладысментамі і стоячы — з павагай, з захапленнем яго працай, зробленым і ўведзеным упершыню. Гэтае словазлучэнне найбольш часта сустракаецца, калі гавораць пра яго ўнёсак: ён адкрыў, вярнуў і ўвёў у навуковы ўжытак шэраг імёнаў і твораў беларускай культуры. Гэта ён цягам гадоў акрэсліве месца беларусаў у еўрапейскім і сусветным кантэксце, даследуе сувязі нашага народа з польскім, літоўскім ды адначасова паказвае нам нашу багатую спадчыну. Чаго толькі варты даведнік "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах", які расказвае амаль пра шэсцьсот выбітных асоб. І гэта праца не скончана. Так, пры Інстытуце культуры Беларусі рыхтуецца яшчэ адно выданне такога кшталту — даведнік "Сузор'е блізкага памежжа. Беларусы, народжаныя ў суседніх краінах", якое раскажа пра паўтары сотні нашых выбітных суайчыннікаў, што жывуць у іншых краінах — Літве, Расіі, Казахстане…

Не менш цікавымі і значнымі падаюцца выданні пра У. Караткевіча, жыццё нашых продкаў у XVIII стагоддзі, беларускія скарбы за мяжой (а іх, як сцвярджае А. Мальдзіс, раскідана па іншых краінах каля 90 працэнтаў).

Зрэшты, юбілейная вечарына больш нагадвала жыццяпіс — аповед самога А. Мальдзіса, успаміны пра юбіляра яго землякоў, аднакурснікаў, сяброў, калег. І так эпізод за эпізодам у цэльную карціну жыцця ўпісваліся асобныя аповеды, што сведчылі і пра непаўторнае пачуццё гумару навукоўцы, і надзвычай высокую працаздольнасць, і пра вялікі талент. Зрэшты, партрэт атрымаўся па-сяброўску цёплым.

Прыемна, што гэты заняты чалавек, у якога і сёння шмат спраў і задумак, знаходзіць час пісаць і дасылаць свае артыкулы і нам. Вось і сёння "ЛіМ" з гонарам можа прапанаваць чытачам цікавы матэрыял пра Маю Львовіч. І яго варта пачытаць, бо подпіс "Адам Мальдзіс" — гэта знак якасці!

*Артлінія*

# Пуцявінамі гадоў

**Персанальная выстаўка ў цэнтры сталіцы — не такая ўжо частая, а таму асабліва значная падзея для мастака, тым болей калі жыве ён далекавата ад Мінска. Прымяркоўваецца яна, як правіла, да юбілею творцы. Вось і вернісаж Сямёна Абрамава ў Палацы мастацтва таксама ладзіўся да знамянальнай даты: Сямёну Ціханавічу споўнілася 75. Аднак экспазіцыя пад назвай "Мастацтва — маё жыццё" зусім не ўспрымалася як руцінная рэтраспектыва.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Сем дзясяткаў графічных і жывапісных кампазіцый, паказаных на выстаўцы, — нібы чарада адметных сустрэч і назіранняў, неадступных успамінаў, імгненняў роздуму і захапляльных адкрыццяў, якія суправаджаюць С. Абрамава на творчых пуцявінах.

За кароткімі радкамі біяграфіі — неспакойнае і яркае жыццё. Родам Сямён Ціханавіч з вёскі Слабада, што на Смаленшчыне. Скончыў Горкаўскае мастацкае вучылішча, з 1961-га пачаў удзельнічаць у выстаўках. Сярод яго разнажанравых работ ёсць тэматычныя цыклы і серыі, прысвечаныя будаўніцтву Саяна-Шушанскай ГЭС, натхнёныя ўражаннямі ад вандровак у Вялікабрытанію, Грэцыю, Іспанію, Італію, Мальту, Партугалію, Польшчу, Францыю. Акварэлі, аб'яднаныя назвай "Гісторыя аднаго жыцця", — гэта больш як 300 сюжэтаў, прысвечаных А. Пушкіну. А партрэты касманаўтаў, вайсковых лётчыкаў, артыстаў, мастакоў, дзеячаў навукі, блізкіх і проста знаёмых людзей складаюцца ў шматгранны вобраз сучасніка.

Жыве С. Абрамаў у Бабруйску. Калі ж гаварыць пра "месца жыхарства" яго твораў, дык варта назваць некалькі вядомых адрасоў: Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П. Масленнікава, сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва, Бабруйскі гарадскі краязнаўчы музей, Заслаўскі мастацка-этнаграфічны музей, фонды Беларускага саюза мастакоў. І яшчэ — у Расіі: Чалябінская карцінная галерэя, Цэнтральны музей найноўшай расійскай гісторыі ды Цэнтральны Дом мастака ў Маскве, Музей-сядзіба А. Пушкіна ў Міхайлаўскім.

У творчых прафесіях няма паняцця "заслужаны адпачынак", і С. Абрамаў актыўна ўдзельнічае ў калектыўных сталічных праектах Беларускага саюза мастакоў. На грандыёзнай рэспубліканскай выстаўцы "Зямля пад белымі крыламі" (2010) вылучылася яго акварэль "Партрэт акадэміка М. А. Савіцкага". Вернісаж, наладжаны да Дня Перамогі вясной 2011-га, запомніўся новымі работамі: кранальным абліччам сямейнага дуэта — народнага мастака БССР В. Грамыкі ды мастацтвазнаўцы Э. Грамыкі ("Саюз двух сталіц"), сімвалічнаю вывай жывапісца-франтавіка Л. Шчамялёва ("Лісты з 1945 г."). А на сёлетняй выстаўцы мастакоў-ветэранаў "Фарбы пераможнай вясны" Сямён Ціханавіч паказаў акварэльныя партрэты і сваіх маладых сучаснікаў (адзін з аркушаў датаваны нават 2012 годам). Так што яго юбілейную выстаўку можна лічыць працягам знаёмства мінскай публікі з творчым светам чалавека, чыё жыццё — мастацтва.



*Акварэль Сямёна Абрамава "У свеце мастацтва (сын Ціхан)". 2012 г.*

*Повязі*

# У Ніверы ведаюць, любяць і чакаюць

**У час стажыравання ў Францыі Таццяна Данільчанка прадставіла свой рэгіён і горад Мазыр так, што абудзіла непадробны інтарэс да Беларусі ў французскіх калег, які выліўся ў плённае і доўгатэрміновае супрацоўніцтва ў галіне літаратуры і краязнаўства.**

**Ганна БУЛАШ**

Таццяна Данільчанка спачатку працавала інжынерам-тэхнолагам, а пасля набыла яшчэ адну спецыяльнасць у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце — выкладчык французскай мовы. З 1998 года працуе настаўніцай у СШ № 12 г. Мазыра. У час стажыравання ў 2006 годзе ў Францыі ёй давялося пазнаёміцца з пісьменніцай, музыкантам, дырэктарам школы з горада Нівера Мішэль Піа-Боне.




У 2009 годзе Мішэль упершыню наведвае Мазыр і так зачароўваецца нашай краінай, людзьмі і горадам, што вырашае напісаць цыкл казак пра беларускую прыроду і нацыянальныя традыцыі для землякоў, якія не маюць магчымасці прыехаць у Мазыр. Тады ж сустрэча з вядомай французскай пісьменніцай прайшла і ў Мінску, у Прэзідэнцкай бібліятэцы. Падчас канферэнцыі з чытачамі Мішэль Піа-Боне перадала ў бібліятэку 17 сваіх кніг. Дарэчы, многія з іх ужо выйшлі ў перакладзе на рускую мову ў друкарні "Калор" (г. Мазыр). А сёлета ў Кіеве ўбачыла свет першая частка цыкла казак Мішэль Піа-Боне па-руску (пераклад Т. Данільчанкі) — "Весёлого Рождества". У яе ўвайшлі казкі "Рождественские сумочки", "Шуба Деда Мороза", "Рождественские ели", "Настоящий или фальшивый Дед Мороз", "Осенние или зимние сказки", "Коза и Баран, которые хотели увидеть Пингвина", "Медведь и Северное сияние", "Дьяволёнок и Сурок".

"Я хачу данесці да маіх вучняў, сяброў і дзяцей чароўны скарб маёй французскай сяброўкі Мішэль, — кажа Таццяна Данільчанка. — Я шчаслівая, што беларускі фальклор зразуметы, прыняты і па вартасці ацэнены французамі!"

Але на гэтым сяброўства французскай пісьменніцы з беларускім чытачом не спынілася. Так, Мішэль Піа-Боне хутка зноў наведае Мазыр. 21 жніўня ў гарадской бібліятэцы-філіяле № 12 пройдзе сустрэча аўтаркі з чытачамі. Падчас імпрэзы будзе прэзентаваны другі цыкл казак Мішэль Піа-Боне на французскай і рускай мовах (пераклад Т. Данільчанкі). Дарэчы, плануецца, што гэтая кніга ў Францыі стане своеасаблівай чытанкай для дзяцей, якія вывучаюць рускую мову.

*З-пад пяра*

➤ Калектыў філіяла гомельскай гарадской бібліятэкі № 8 вырашыў асвоіць новыя метады абслугоўвання насельніцтва. Па ініцыятыве загадчыцы Антаніны Уваравай бібліятэкары арганізоўваюць "Чытальную залу пад адкрытым небам". Жыхарам мікраёна непасрэдна на вуліцы альбо каля Любенскага возера прапаноўваюць пазнаёміцца з навінкамі мастацкай літаратуры. Асабліва цікавая перасоўная кніжная выстаўка, дзе размешчаны кнігі мясцовых паэтаў і празаікаў. Як прызналася А. Уварава, такі выхад "у людзі" дае добры плён. І чытачоў адразу стала значна болей, і адбываецца своеасаблівая прапаганда творчасці мясцовых аўтараў. Як высветлілася, гамяльчане не страцілі цікавасці і прыхільнасці да беларускай мастацкай літаратуры, перыядычных выданняў.

**Галіна МІКАЛАЕВА**

➤ Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча ў Год кнігі паспяхова ажыццяўляе цікавую і надзвычай карысную акцыю. Так, беларускім пісьменнікам ды іншым ахвочым прапануецца падараваць бібліятэцы колькі выданняў з асабістага кнігазбору — безумоўна, не забыўшыся пра дарчы подпіс. А напрыканцы года выданні, што папоўнілі фонды бібліятэкі, будуць прадстаўлены на адпаведнай выстаўцы. Пасля, мяркуецца, імі змогуць карыстацца чытачы бібліятэкі. Ды яны будуць чытаць не проста кнігі — а падораныя пісьменнікамі, з іх аўтографамі. Упэўнены, гэта дапаможа пазнаёміцца з творчасцю беларускіх аўтараў, і абудзіць больш паважлівае стаўленне да папяровага выдання.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

➤ Выстаўка "Абраз у дрэве" адкрылася ўчора ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. Лічыцца, што сапраўдны і гарманічны выраб атрымліваецца толькі тады, калі ў душы майстра пануе супакой. Аўтар прадстаўленых работ гамяльчанін Уладзімір Дзядкоў больш як два дзесяцігоддзі спрабуе сябе ў разьбе. Хобі захапіла яго і стала прафесіяй. Праз свае мастацкія творы Уладзімір імкнецца раскрыць душу гэтага адмысловага прыроднага матэрыялу, як мага менш урываючыся ў яго энергетычную прастору. Пры гэтым дрэва заўсёды служыць для яго крыніцай натхнення.

**Міра ІЎКОВІЧ**

➤ Дабрачынная фотавыстаўка-продаж "Мастацтва дорыць жыццё" адкрылася ў ДК "La мора". Больш як 100 работ упрыгожваюць невялічкае памяшканне. Усе яны напоўнены спакоем, гармоніяй, цеплынёй, радасцю кожнага дня, таму наведвальнікі не спяшаючыся padоўгу з захапленнем разглядаюць фотадзымкі.

**Дар'я ШОЦІК**

Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае шчырыя спачуванні сям'і літаратуразнаўцы, фалькларыста Янкі САЛАМЕВІЧА ў сувязі з напаткаўшым іх горам — стратай дарагога чалавека. Плённае супрацоўніцтва з даследчыкам было значнай старонкай у гісторыі музея. Нашая ўдзячнасць і светлая памяць вялікаму руплівцу беларускай культуры.

Мас-медыя


Россійская Соціалъ-Демократическая Рабочая Партія.
ЗВѢЗДА
Органъ Минскаго Комитета Р. С.-Д. Р. П.
№ 1. Еженедѣльная газета. № 1.
Товарищи!
Отъ редакціи.

# Люстэрка жыцця краіны

## "Звязда" адзначае сваё 95-годдзе

**По яе матэрыялах можна вывучаць гісторыю Беларусі. У газеты — славутая біяграфія і слаўныя традыцыі, якія маюць вельмі нямногія выданні на постсавецкай прасторы. Без перабольшвання, "Звязда" стала інтэлектуальным, рэсурсным цэнтрам нацыянальнай культуры і навукі, гістарычнай спадчыны беларусаў. Яна заўсёды была газетай, з якой людзі даведваліся пра навіны — і добрыя, і кепскія; пра весткі, ад якіх, як кажуць, вырасталі крылы і ад якіх сціскаліся сэрцы… Газета была і застаецца люстэркам жыцця.**

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Амаль стагоддзе "Звязда" жыве тым, што і краіна. Яе гісторыя — гэта 95-гадовая гісторыя беларускага народа. І якія б выпрабаванні ні выпадалі на лёс Беларусі, яе народа — былі яны і лёсам "Звязды". І журналістаў, і чытачоў газеты хвалявалі адны і тыя ж пытанні, праблемы, таму ёй верылі. І калі, напрыклад, краіна задыхалася ад страху ў гады агульнага недаверу, у часіны сталіншчыны — ад гэтага цярпела і "Звязда", ахвяруючы жудаснай рэпрэсійнай машыне сваіх рэдактараў і супрацоўнікаў. У фае 5-га паверха Дома прэсы, дзе размясцілася "Звязда", усіх гасцей сустракае стэнд з партрэтамі тых, хто рэдагаваў яе ў розны час, пачынаючы са жніўня 1917-га. Дык вось, многія рэдактары ўзначальвалі рэдакцыйны калектыў усяго 2-3 месяцы. Далейшы іх лёс быў трагічны. Вільгельм Кнорын, Аляксандр Мяснікоў, Вульф Нодэль, Уладзімір Валынскі, Валерый Шафранскі і іншыя загінулі падчас рэпрэсій. Трагічна склаўся і лёс Міхаіла Фрунзэ, які таксама рэдагаваў "Звязду".

Ва ўнікальную гісторыю "Звязды" асобнай гераічнай старонкай упісана Вялікая Айчынная вайна. Газета фактычна не спыняла свой выхад нават ва ўмовах фашысцкай акупацыі. Уявіце сабе: тэксты набіраюцца ў друкарні, падуладнай немцам. У горадзе што ні дзень — арышты, расстрэлы, павешанні. І раптам як гром сярод яснага неба "Звязда" абвяшчае: "1942 год павінен стаць годам поўнага разгрому ворага! Смерць нямецкім акупантам!" Другі нумар газеты выходзіць пад шапкай "Беларусь была і будзе савецкай!"

У гэтыя святочныя дні звяздоўцы абавязкова ўспомняць імя Уладзіміра Амельянюка, які кіраваў падрыхтоўкай і выданнем падпольнай "Звязды". Студэнт Камуністычнага інстытута журналістыкі, выдатнік вучобы, ён праходзіў практыку ў Беластоку ў абласной газеце. У чэрвені 1941 г. вярнуўся ў Мінск, яму была даручана арганізацыя падпольных друкарняў. Літаральна праз некалькі дзён пасля адраджэння "Звязды" ў падполлі Уладзімір Амельянюк загінуў. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 8 мая 1965 г. Уладзіміру Сцяпанавічу пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Ён — адзіны рэдактар у былым СССР, удастоены такой узнагароды. На месцы яго гібелі (сёння гэта галоўная плошча беларускай сталіцы — плошча Незалежнасці) устаноўлены помнік яму і дзясяткам звяздоўцаў-падпольшчыкаў, якія былі па-зверску закатаваныя ворагамі.

Дзясяткі нумароў "Звязды" выдаваліся ў партызанскай зоне на востраве Зыслаў, што на Любаншчыне. Увогуле, народ Беларусі ва ўдзячнасць сваёй газеце ўзвёў некалькі помнікаў, што таксама стала ўнікальным выпадкам у Савецкім Саюзе. А ў год святкавання 60-годдзя Вялікай Перамогі Мінгарвыканкам прысвоіў імя "Звязды" аднаму з прыгожых праспектаў беларускай сталіцы. Яшчэ раней імёнамі некалькіх звяздоўцаў былі названы вуліцы Мінска. Чым не прызнанне, не шанаванне выданню, якое жыло аднымі клопатамі са сваімі чытачамі і сваёй краінай?

За доўгія гады існавання газета здолела захаваць лепшыя традыцыі айчыннай журналістыкі і на гэтай аснове выпрацаваць свой адметны стыль. Высокі прафесіяналізм супрацоўнікаў прынёс аўтарытэт і павагу чытачоў. Высновы і меркаванні, што гучалі з яе старонак, былі аўтарытэтнымі, нярэдка кладзіся ў аснову важных дзяржаўных рашэнняў. Барыс Стральцоў, Віктар Карамазаў, Аркадзь Тоўсцік, Раіса Самусенкава, Уладзімір Наркевіч, Ларыса Цімошык, Мікалай Амельчанка, Анатоль Кляшчук (спіс можна доўга працягваць) — знакавыя імёны не толькі "Звязды", але і ўсёй беларускай журналістыкі.

Газета, без перабольшвання, адкрыла шлях у вялікую літаратуру многім паэтам, пісьменнікам, крытыкам. На яе старонках друкавалі свае творы Янка Купала і Якуб Колас, Кандрат Крапіва і Пімен Панчанка, Іван Мележ і Янка Брыль, Іван Шамякін і Васіль Быкаў… Ды і сёння "Звязда" — чулы настаўнік і дарадца маладых аўтараў, пра што яскрава сведчыць штогадовы конкурс на лепшае апавяданне, а таксама нізкі вершаў, што час ад часу з'яўляюцца на яе старонках. Традыцыя захоўваецца: свае лепшыя набыткі літаратары нясуць у "Звязду", бо ў газеты — шырокая чытацкая аўдыторыя.

Янка Купала стварыў класічныя радкі пра тое, што "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына", і перш за ўсё — гэта спадчына духоўная, а яна выяўляецца ў самых розных жанрах творчасці, якую адлюстроўвае газета. Яна беражліва ставіцца да роднага слова, прапагандуе матчыну мову. Увогуле "Звязда" з яе шматграннымі набыткамі — таксама наша спадчына. Сюды ідуць журналісты, якіх не трэба прымушаць гаварыць на матчынай мове, якія любяць і цэняць роднае слова.

У гісторыі газеты нямала загадак. У 1927 годзе яна пачынае выходзіць на беларускай мове. Такое рашэнне — вынік ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі, якую праводзіў ЦК КП(б)Б. Мауляў, беларуская мова з'яўляецца мовай асноўнай масы насельніцтва нашай рэспублікі. Беларуская мова — мова вёскі. Для ўмацавання сувязей горада з вёскай, у інтарэсах узмацнення кіраўніцтва пралетарыяту сялянствам неабходна, каб рабочы клас авалодаў беларускай мовай. А для партыі як авангарду пралетарыяту гэта асабліва важна.

Сёння "Звязда" актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні інфармацыйнага поля Беларусі. Хутка ў рэдакцыі з'явяцца новыя дадатковыя магчымасці: "Звязда" ўзбуйняецца структурна. На яе базе ствараецца выдавецкі дом "Звязда", у які ўвойдуць не толькі беларускамоўныя грамадска-палітычныя СМІ, але і шэраг літаратурна-мастацкіх і культуралагічных часопісаў. У гэтай сувязі "Звязда" мае ўсе шанцы стаць крэатыўным цэнтрам нацыянальных і культурных ініцыятыў, карысных для ўсёй краіны і грамадства.

**Калектыў рэдакцыі "ЛіМа" далучаецца да шчырых віншаванняў старэйшай газеце краіны, зычыць яе супрацоўнікам, аўтарам, чытачам новых творчых удач. Свяці, "Звязда"!**

# "Зярняты застаюцца для нашчадкаў…"

Віктар ГАРДЗЕЙ

Злева ад газетнага загалоўка, акурат пад ордэнамі "Працоўнага Чырвонага Сцяга" і Вялікай Айчыннай вайны, якімі ўзнагароджана "Звязда", увагу прыцягвае запамінальны грыф: "Выдаецца з 9 жніўня 1917 г." Сёння ж мне асабліва прыемна, што, бадай, ці не шэсцьдзясят гадоў з лішнім я пастаянны чытач, аўтар і прыхільнік "Звязды". І ніякай прыдумкі тут няма, бо ў сэнсе знаёмства з друкаваным словам мне пашанцавала больш, чым каму-небудзь з сяброў-равеснікаў. Мая цётка Альжбета ўвесь цяжкі пасляваенны перыяд працавала вясковым паштальёнам, кожны дзень спяшалася за чатыры вярсты ў суседнюю вёску на пошту і вярталася назад з вялізнай брызентавай сумкай цераз плячо, бітком набітай газетамі, часопісамі, пісьмамі і ўсялякай іншай карэспандэнцыяй. Па глыбокім снезе і гразі бегла ад хутара да хутара, ад двара да двара, раздаючы людзям адрасаванае ім, па дарозе не мінала дзеда з бабуляй, каб трохі супачыць, пагрэцца ў хаце або перачакаць дождж. Неверагодных памераў брызентавая сумка, пакуль цётка Альжбета апавядала вясковыя навіны, нейкі час заставалася без нагляду, і ніхто не перашкаджаў мне калупаццa сярод тугіх скруткаў газет, з цікавасцю разглядаць каляровыя малюнкі ў тым жа "Огоньке", сам-насам пацяшацца з нязграбных і смешных чалавечкаў у "Вожыку" і "Крокодиле", з прыемнасцю ўдыхаючы водар свежай друкарскай фарбы, які, здаецца, помню і сягоння.

Тут, дзеля паўнаты карціны, я павінен агаварыць істотную дэталь. У той час, калі адбываліся гэтыя падзеі, я, шасцігадовы бэйбус, яшчэ не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, але на дзіва лёгка, па абрысах літар, па контурах шрыфтоў адрозніваў назвы газет і добра ведаў, якія выданні чытаюць мае суседзі і хутаранцы вёскі Малыя Круговічы. Калі не ў кожную хату, то цераз адну, паштальёнка насіла "Калгасную праўду", "Красную звезду", маленькую раённую газетку "Сялянская праўда", і ўжо сапраўды найбольшае месца ў паштарскай сумцы займала любімая ў маіх землякоў газета "Звязда". Яна, мусіць, падабалася людзям за тое, што выходзіла на роднай беларускай мове і шмат пісала пра невялікія радасці і пастаянныя згрызоты пасляваеннага вясковага жыцця. Сёння, праз дзесяцігоддзі, шчыра прызнаюся: з-за мяне, ёлупня, былі ў цёткі Альжбеты і непрыемнасці, і дробныя сутычкі з падпісчыкамі. Скажам, прыбяжыць яна на нейкі хутар, шась у сумку, а "Звязды" няма. Норавы тады былі строгія: можна забыць пра пазычаны рубель, а выпісаную газету трэба аддаць. "Дзе мая «Звязда»?" — падступаў, як помніцца, раззлаваны дзядзька Антось. Балазе, паштарка не кволілася на здароўе і язык ёй, як кажуць, цяляты не жавалі. "«Звязда» звяздою, а гвязда гвяздою", — адгаворвалася на польскі лад цётка Альжбета, але сваю каштоўную сумку больш не ставіла ў парозе, а трымала ў сябе каля ног. Ведала, напэўна, куды знікла "Звязда" і чыіх рук гэта шкодніцтва. Як цяпер можна прасачыць па дакументах, у тыя дні на пачатку кастрычніка 1952 года ў Маскве праходзіў XIX з'езд КПСС, і я, зусім не думаючы пра вынікі, тайком рэквізоўваў "Звязду", выразаў партрэты членаў Палітбюро і наклейваў іх на сцяне за бабуліным куфрам. Цётка Альжбета, каб убачыла, самлела б ад жаху, а мне хапіла занятку на цэлы год: хімічным алоўкам падмалёўваў вусы няздалым членам Палітбюро, у якіх такіх прыгожых вусоў, як у Сталіна і Будзённага, не было. Канечне, добра, што ніхто не заўважыў нявінную дзіцячую забаву і ўсё абышлося ціха і мірна, аднак жа і газета "Звязда" засталася ў маёй памяці.

З вясковымі паштальёнамі, бо цётка Альжбета ўсё ж стамілася бегаць ад хаты да хаты, я сябраваў і пазней, ужо будучы падлеткам, і заўсёды з нецярпеннем чакаў, калі на вуліцы затрашчыць, прытармазіўшы, матацыкл — гэта азначала, трэба выбегчы ў двор і забраць з рук Івана Мухі сваю любімую "Звязду". Гадоў пяць таму прытармажваў каля брамкі сіні мінскі матацыкл, "Звязда" перадавалася з рук у рукі, і за гэты час мы сталі з паштальёнам сапраўднымі сябрамі. Іван Муха радаваўся маім літаратурным удачам, бо ўсё ведаў і бачыў, і нават зрэдку мне, яшчэ школьніку, прывозіў сякітакі ганарар. Паклаўшы руку на сэрца, я не магу паскардзіцца на няўвагу старэйшых літаратараў да сябе. Можа, таму, што "Звязду" я палюбіў з дзяцінства, хутчэй па законе ўзаемнасці, менавіта гэтая вельмі сур'ёзная і паважаная рэспубліканская газета ўзяла маю творчасць пад сваё крыло. Тады, у далёкім юнацтве, калі бязлітасна даймаў пісьменніцкі сверб, на працягу двух ці трох дзесяцігоддзяў "Звязда" друкавала мае творы і на літаратурных старонках, і асобнымі падборкамі, з маімі вершамі чытачоў "Звязды" знаёміў паэт Віктар Шымук, цэнтральная газета брала ў мяне, малавядомага, інтэрв'ю. Скажу шчыра: хто з літаратараў не жадаў бы мець такую ўвагу? Прычым, вершы ў "Звяздзе" друкаваліся не з разраду якойсці палітычнай схаластыкі, а звычайныя лірычныя вершы, як вось і гэты, апублікаваны ў нумары за 27 чэрвеня 1968 года, які я дазволю сабе прывесці цалкам:

*Далёкі продак вырастаў,*
*як Колас:*
*Яго і ў трубку гнала,*
*І ў трубу*
*Круціла доля.*
*І схіляўся долу*
*Ён з асцюкамі гора на гарбу.*

*Хоць гнуўся ён,*
*Ды выстаяў пад ветрам,*
*А ў сэрцы грэліся зярняты*
*дабрыні,*
*Каб прарасці*
*І праз стагоддзяў нетры*
*Прыйсці і каласіцца ў нашы дні.*

*Рунее ніва,*
*І жыццё ашчадна*
*Прасуе дні пражытыя ў цюкі.*
*Зярняты застаюцца*
*для нашчадкаў,*
*І сыплюцца на вецер асцюкі.*

Трэба сказаць, апошнія дзесяцігоддзі над беларускай зямлёй шумелі не проста вятры — круцілі бураны, грымелі ўраганы. І заўсёды ў час жорсткіх выпрабаванняў "Звязда" была разам са сваім народам — сумленная і непадкупная, родная газета на роднай мове, а самае важнае тут тое, што, адзначаючы сваю далёка не першую і не апошнюю дату, "Звязда" клапоціцца ў першую чаргу пра жыццё і спадзяванні нашчадкаў, хаця асабіста для мяне мера ацэнкі патрэбнасці — велічыня пастаяннага: гэта таксама і мая газета.

Дарожныя нататкі

# Дыялог са Стамбулам

Ірына ТУЛУПАВА,
фота аўтара

**Беларускія пісьменнікі — члены Мінскага гарадскога аддзялення СПБ — наведалі Стамбул. Мэта паездкі — працяг распачатага дыялогу ў міжнародным інфармацыйным полі.**



*Музей Ая-Соф’я — былая Канстанцінопальская Сафійка, па падабенстве з якой, лічаць, пабудаваны Сафійкі Кіеўская, Наўгародская і Полацкая. Перабудаваная пад мячэць ў XV ст.*

## Феномен горада

Стамбул прыцягальны нават сваімі маштабамі. Мегаполіс, у якім жыве, па сцверджаннях, каля 18 мільёнаў жыхароў (амаль дзве Беларусі!), раскінуў свае абшары на плошчы каля 7 500 кіламетраў. Яго даўжыня — 150, а шырыня — 50 кіламетраў! Аддаўшы ў нашым веку палітычнае першынство Анкары, Стамбул праз усе стагоддзі лёгка ўтрымлівае статус культурнай сталіцы Турцыі. І жыхары гэта цэняць: штогод у горадзе з’яўляецца каля тысячы новых вуліц, насельніцтва імкліва прырастае (за кошт міграцыі таксама) і павялічваецца на 5 працэнтаў у год. Гэта значыць, праз кожныя 12 гадоў яно падвойваецца!

Стамбул — адзіны горад у свеце, які размяшчаецца адначасова на двух кантынентах: у Еўропе і Азіі. Водападзел паміж імі — праліў Басфор. Ён злучае Чорнае і Мармуровае моры. Зрэшты, выключнае геаграфічнае становішча абумовіла росквіт горада яшчэ ў дагістарычную эпоху: першыя пасяленні на гэтай мясцовасці адносяць да 680 года да нашага часу (калі мегарэйцы пабудавалі Калхедон). У 660 годзе каланісты мегарэйцы на чале з камандуючым Візантам размясціліся насупраць тых пасяленняў, пасля горад знаходзіўся пад гегемоніяй персаў,



*Беларускія пісьменнікі на перамовах у фондзе “Ёсць хто-небудзь?”*

Афін, перажыў спартанскі перыяд, уваходзіў у склад Рымскай імперыі. У 330 годзе імператар Канстанцін разгарнуў тут буйное будаўніцтва, і горад перайменавалі ў Канстанцінопаль, які стаў сталіцай Усходняга Рыма (альбо Візантыйскай імперыі). Яго неаднаразова імкнуліся захапіць. У канцы XIVст. асаду горада распачалі асманцы. І ў 1453 годзе (падчас асманскай імперыі) горад атрымаў сваю сучасную назву.

У Стамбуле безліч мячэцяў. Мінарэты, з якіх адмысловы глашатай 5 разоў у дзень заклікае да набажэнства, сваімі шпілямі скіраваныя ў неба, але вельмі хораша глядзяцца і на зямлі: куды ні кінь вокам. Такое адчуванне, што іх па некалькі ў кожным квартале, і, сфатаграфаваўшыся каля адной, можна крыху павярнуць аб’ектыў і адлюстравацца сябе на фоне іншай.

Стамбул шматлюдны: акрамя карэнных гараджан тут шмат турыстаў. Асноўныя віды транспарту, як падалося, — цеплаход (карабель), на якім досыць хутка можна перабрацца з еўрапейскай часткі горада на азіяцкую і наадварот, і трамвай, вельмі падобны да метро: такі ж хуткасны, пяцівагонны.

Тут вялізны аэрапорт: у яго парку — каля трох сотняў крылатых машын (толькі сваіх, а колькі “гасцей” прылятае з замежных авіяліній!). Самалёты ўзнімаюцца ў неба кожныя 5 хвілін!

Дык вось, гэты ў многім унікальны горад знаходзіцца ў цэнтры дыялогу прадстаўнікоў розных краін. Дыялогу, які вядзецца ў сацыяльнай сферы. Тут — офіс аднаго з найбуйнейшых дабрачынных міжнародных фондаў — платформы “Дыялог Еўразія” (“Diyalog Avrasya”). Скарочана — ДА!

> *“У Турцыі існуе найцікавейшы праект: паводле праграмы турэцкага міністэрства адукацыі ў першыя тры гады навучання дзеці павінны прачытаць 300 кніг! Тоненькіх альбо больш тоўстых — усё роўна. Але — 300! Для дзіцячай літаратуры гэта добрая падтрымка. Таму тут досыць актуальны тэзіс: “Дзіцячая літаратура — гэта модна і выгадна”!*

### ДА!

Прадвеснікам “Дыялогу Еўразія” ў Турцыі стаў фонд, заснаваны журналістамі і пісьменнікамі ў 1993 годзе. Галоўнаю мэтай дыялогу першапачаткова было сабраць за адным сталом прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Краіна перажыла тры ваенныя перавароты (1960-я, 1970-я і 1980-я гг). Яны ажыццяўляліся, зразумела, праз армію — так патлумачыў нам у фондзе намеснік Генеральнага сакратара платформы “Дыялог Еўразія” Ібрахім Селек. У арміі — пераважна людзі маладыя, з неакрэсленай пазіцыяй. Таму так важна выхоўваць сваю, айчынную інтэлігенцыю, якая шукае адказы на самыя складаныя пытанні. Пераменам у сацыяльнай сферы ўдзячныя перш за ўсё пісьменніку і грамадскаму дзеячу Гюлену, які ініцыяваў дыялог: “Калі ўдалося сабраць турак за адным сталом, многае стала магчымым”. Членам дэлегацыі першым было пачуць падзякі беларусам, якія “расказалі свету пра Гюлена лепш, чым мы, туркі”. Насамрэч, у Мінску адбылася прэзентацыя кнігі “Социально-философские аспекты учения Ф. Гюлена: взгляд белорусских учёных”.

У 1998 годзе была створана міжнародная арганізацыя, актыўны ўдзел у якой бяруць вучоныя, грамадскія дзеячы, пісьменнікі, журналісты, дзеячы мастацтва больш як 12 краін Еўразіі. Да прыкладу, у іх ліку быў Чынгіз Айтматаў. На міжнароднай платформе стала магчымым супольна абмяркоўваць самыя злабадзённыя праблемы.

Што да Беларусі, то мы ўвайшлі ў платформу 4 гады таму, але працуем нароўні з усімі. На платформе кожныя два гады праходзяць дэмакратычныя выбары старшыні.

Ва ўсіх краінах-удзельніцах “Дыялогу Еўразія” ёсць маладзёжныя платформы. У гэтым годзе моладзь сустракалася ў Вільнюсе. Акрамя грамадскай дзейнасці на базе платформы выходзіць штоквартальнік “ДА”, які паслядоўна сцвярджае гуманітарныя прыярытэты. Да прыкладу, быў ініцыяваны конкурс сярод аспірантаў “Культура — сузіснаванне народаў”. Альбо задуманы новы праект — “100 імёнаў Еўразіі”. У іх спісе, між іншым, значыцца наша Еўфрасіння Полацкая. А яшчэ ёсць задума выдаць пад аднайменнай серыяй 100 твораў пра культуру і літаратуру. Менавіта прадстаўнікі фонду — Іхсан Дылекчы і Зафэр Элдэм — былі нашымі гідамі і добрымі дарадцамі ў падарожжы па Стамбуле.

Адзін з кірункаў платформы — даведацца як мага больш адно пра аднаго і зразумець! Іншы — паказаць талерантнасць народаў, мастацтва дыялогу рэлігій, творчасці, літаратур…

### Літаратура

Што б ні сцвярджалі скептыкі, ініцыятарамі на дзіва прадстаўнічага і дзейснага фонду сталіся пісьменнікі і журналісты. У Турцыі гэта адзін Саюз — пісьменнікаў і журналістаў. Мы наведалі некалькі творчых буйных і ўплывовых арганізацый. Праблемы зніжэння цікавасці да чытання і наступстваў інтэрнэту — агульныя. Вырашаюць іх супольна выдавецтвы, газеты, навучальныя ўстановы.

“Было заўважана, — сказаў нам адзін з удзельнікаў перамоў, — людзі больш цікавяцца тымі выдавецтвамі, якія мэтанакіравана выдаюць спецыялізаваную літаратуру”.

У склад беларускай дэлегацыі ўвайшлі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, старшыня секцыі прозы Наталля Касцючэнка, таксама Лізавета Палеес, Яніна Жабко, Аліна Легастаева, Валерый Чудаў, Зіновій Прыгодзіч і аўтар гэтых радкоў. Бясспрэчна, найперш цікавіліся літаратурнымі працэсамі, што адбываюцца ў сучаснай Турцыі.

Мы наведалі холдынг, дзе знаходзіцца 27 выдавецтваў. Адно — выключна па Гюлену. Ёсць часопісы, якія выдаюцца на 8 мовах: турэцкай, англійскай, рускай, арабскай, нямецкай ды інш. Часопісы штомесячныя, акрамя звычайных спосабаў распаўсюджвання прадаюцца на канферэнцыях, існуюць у электронным варыянце. Найбольш часты тыраж — каля 100 тысяч.

Што да дзіцячай літаратуры, то тут выдавецтвы вылучаюць групы па ўзростах. Ад 4 да 7, да 12 год і па інтарэсах. У Турцыі выходзіць 108 дзіцячых часопісаў. Назвы — “Дождж”, “Бутон ружы”… Многія з іх — не айчынныя, а перадрукі з замежнай прэсы. Для перакладаў выкарыстоўваюць часопісы з Амерыкі, Англіі, Германіі. Аднак падкрэсліваюць: мы не паварочваемся на Захад, а імкнёмся ўзяць нешта карыснае. І прадуцыраваць сваё. “Мы не хочам, каб нашы дзеці плакалі як англічане, смяяліся як немцы і апраналіся як амерыканцы. Хочам, каб дзеці ведалі нацыянальнае. Таму расказваем пра свае традыцыі, культуру”. Важная роля адводзіцца аповедам пра Каран, прарока.

Паводле вынікаў афіцыйнага даследавання, дзеці ад 7 да 15 гадоў каля 5 гадзін у дзень праводзяць за камп’ютарам. А некаторыя — нават 10 гадзін і болей. Яшчэ статыстыка: падлеткі адпраўляюць па тэлефоне ў дзень каля 450 sms-паведамленняў. “Імкнёмся і ў такіх умовах дастукацца да дзяцей!” — не губляюць аптымізму творцы. І выпускаюць электронныя часопісы. А яшчэ ў Турцыі існуе націкавейшы праект: паводле праграмы турэцкага міністэрства адукацыі ў першыя тры гады навучання дзеці павінны прачытаць 300 кніг! Тоненькіх альбо больш тоўстых — усё роўна. Але — 300! Для дзіцячай літаратуры гэта добрая падтрымка. Таму тут досыць актуальны тэзіс: “Дзіцячая літаратура — гэта модна і выгадна”!

Пачулі мы і пра прэферэнцыі выдаўцам: калі дзіцячая кніга выходзіць аб’ёмам да 18 старонак — на яе вытворчасць не выплачваецца падатак.

Што да выданняў літаратурных, да прыкладу, існуе часопіс “Ярмур” (“Дождж”), у якім друкуецца шмат маладых аўтараў. Увогуле ж у Турцыі налічваецца каля трох сотняў літаратурных часопісаў. Ёсць тыя, дзе друкуюцца толькі вершы. Шмат (і пераважна!) паэтаў-жанчын. Самыя чытаемыя і шанаваныя паэтэсы вядомыя з XV стагоддзя. Іх вывучаюць у школах. Ёсць асобныя бібліятэкі жаночых твораў (так званая жаночая літаратура).

### “Заман” — значыць “Час”

Офіс адной з вядучых газет Стамбула ўражвае нават звонку: гэта высачэзны будынак з міні-басейнам і штучным каналам з вадой перад уваходам. Вялікі і шматлюдны. Падчас нашага прыезду тут працавалі двухтыднёвыя курсы па перападрыхтоўцы журналістаў — іх слухачамі сталі 400 карэспандэнтаў з усіх куткоў свету. Пачыналі, набіраючы ўсяго толькі 35 стажораў. На пытанне, навошта такія курсы газеце (прыватная!), адказалі як зразумелае: каб былі свае карэспандэнты ва ўсім свеце. Нават калі чалавек не ў штаце, пабываўшы на курсах, кантактаў з газетай ён не парывае. Рускамоўныя аўтары таксама ёсць: карэспандэнцкі пункт, як сказалі б у нас, базуецца ў газеце “Известия”.

Зрэшты, гэта таксама не газета, а холдынг. Газета мае сваё інфармацыйнае агенцтва, якое рыхтуе штодзённыя навіны на 4 мовах (турэцкай, арабскай, англійскай і рускай), і ўласную студыю: яе праграмы купляюць звыш ста (не толькі айчынных) тэлестудый. На першым паверсе будынка — друкарня: усё падпарадкавана як мага хутчэйшаму выхаду навін у свет. Газета — грамадска-палітычнага характару, выходзіць штодзённа на 24 палосах, тыраж лічаць мільёнамі, а друкуецца ў 35 краінах на 10 мовах. Яе называюць “глабальнай газетай з Турцыі”. Два гады таму “Заман” атрымала тытул самага якаснага выдання і цяпер, у 2010 — 2012 гадах, займае месца сярод 109 членаў Міжнароднага клуба каляровых газет вышэйшай якасці. Асноўныя рубрыкі: “навіны”, “грамадства”, “турызм”, “палітыка”, “эканоміка” (менавіта ў такой паслядоўнасці) і г. д. Вёрстка — свабодная. Якасныя фота часам займаюць палову паласы, матэрыялы — не “ўціскаюцца”, і позірк можа выхапіць любы сказ, зацікавіцца ім, каб пасля лёгка прачытаць увесь артыкул, не напружваючы зрок. Прычым, вярстаецца так, як быццам кожны матэрыял на паласе — галоўны. Таму кожнае друкаванае слова — заўважнае і зразумелае. І пачуццё павагі да журналісцкай працы і аўтарытэту карэспандэнтаў, пра які адразу ўзгадваеш, зірнуўшы на будынак мас-медыя, толькі ўзрастаюць.



*Гістарычная частка Стамбула.*

# Як стаць шчаслівым...

**Тарас ЛЯЎКОВІЧ**

Часопіс “Вожык” чытаю даўно. Прытым — з найвялікшым задавальненнем. Асабліва апошнім часам, калі гэтае выданне, паспяхова перажыўшы “новаўвядзенні” — як вядома, то кніжкай выходзіла два разы ў год, то стала штоквартальнікам, — нарэшце зноў вярнулася да свайго ранейшага выгляду. Стаў “Вожык” такім, якім і быў нядаўна. Аднак гэта датычыць не толькі яго перыядычнасці — сустрэча з часопісам наноў адбываецца кожны месяц, — а і мастацкага афармлення. Больш за тое, яно дзякуючы мастаку Аляксандру Каршакевічу стала больш удалым, сучасным. А яшчэ, што не менш прыемна, “Вожык”, адметны высокай мастацкасцю, надзённасцю сваіх матэрыялаў, паспяхова даказвае: менавіта такім і павінен быць часопіс гумару і сатыры.

Дык вось, чытаючы гэты часопіс даўно, я, бадай, як і кожны, хто можа лічыць сябе ў гэтым сэнсе старажылам, добра запомніў прозвішчы шмат якіх пастаянных аўтараў. Асабліва тых, чые творы даюць магчымасць ад душы пасмяяцца. Аднак не магу не адзначыць: гэта не смех дзеля смеху, а такі смех, што прымушае і над жыццём задумацца. Дый часам суаднесці свае ўчынкі з учынкамі літаратурных персанажаў.

> *Кніга “Шчаслівыя людзі” у Ю. Зарэцкай першая, але адначасова гэта і свайго роду выбранае. Разам з тым гэта і аўтарская творчая справаздача.*

У шэрагу такіх аўтараў для мяне заўсёды была, дый ёсць, Юлія Зарэцкая. Часам нават аддаваў ёй перавагу перад іншымі, хто выступаў у тым ці іншым нумары. Вельмі ж цікавыя атрымліваюцца ў яе гумарэскі, мініяцюры. Прыцягваюць да сябе тонкім і абавязкова дасціпным гумарам. А яшчэ вабіць нязменным уменнем выхопліваць з жыцця такія выпадкі, якія, выклікаючы жаданне ўсміхнуцца, разам з тым пры ўдалай падачы і адпаведным аўтарскім асэнсаванні здольныя даць належны выхаваўчы эфект.

Пазней ужо даведаўся, што Ю. Зарэцкая як гумарыст дэбютавала ў часопісе “Вожык” гумарэскай “На вакзале”, будучы яшчэ студэнткай-першакурсніцай і маючы за плячыма ўсяго васямнаццаць гадоў. Як і некаторыя маладыя аўтары, ва ўсякім разе тыя, хто талентам не абыдзены, аказалася сарамлівай, таму свой твор не занесла ў рэдакцыю, а даслала па пошце. Прайшло яшчэ колькі часу, і Ю. Зарэцкая стала для “Вожыка” сваім аўтарам. Не толькі працягвала друкавацца на яго старонках, але і праходзіла ў гэтым выданні вытворчую практыку на апошніх курсах універсітэта. Таму пасля заканчэння вучобы ёй не давялося доўга выбіраць паміж педагогікай і журналістыкай, бо ў журналістыцы яна ўжо адчувала сябе ўпэўнена. Да ўсяго мела неблагія літаратурныя набыткі. Гэта і паўплывала на тое, што рэдакцыя “Вожыка” даслала запыт, каб пры размеркаванні Ю. Зарэцкую накіравалі на работу ў часопіс. Пачала працаваць у самым сур’ёзным аддзеле — фельетонаў і пісьмаў. Потым была намеснікам галоўнага рэдактара, а цяпер — галоўны рэдактар “Вожыка”.

Аднаго не ведаў. Таго, што Ю. Зарэцкая не толькі аўтар многіх гумарэсак (з гумарэскамі “таямніцы” няма, усе яны падпісаны яе сапраўдным прозвішчам), а і шмат якіх іншых гумарыстычна-сатырычных матэрыялаў, змешчаных у “Вожыку”. Не здагадваўся да таго часу, пакуль сама пісьменніца не раскрыла гэты сакрэт у прадмоўцы да сваёй кнігі “Шчаслівыя людзі”, што выйшла ў “Бібліятэцы «Вожыка»”: “У “Вожыку” напісаны ўсе творы, сабраныя ў гэтай кнізе. (Але, вядома, не ўсе, што ўвогуле напісала: як кажуць, аб’ём не дазваляе.) Кім я толькі тут не была — і Юліяй Хоміч, і Дунькай Шып, і бабкай Любкай. І Антосем Дзеркачом, і Васільком Малым, і бабуляй Агапкай Гапееўнай з вёскі Гускі, і Іаанам Дунілавіцкім!..”

Сапраўды ўжо: калі талент маеш, то пры неабходнасці і чужым голасам “заспяваеш”. Ды так хораша, праўдзіва, пераканаўча, што тое, пра што расказваецца, бярэ за жывое. Такое пераўвасабленне дапамагае яшчэ лепшаму пранікненню Ю. Зарэцкай у сутнасць паўсядзённага жыцця, спрыяе выкрыццю некаторых яго заган, а таксама прыкмячэнню таго, з чаго хочацца незласліва пасмяяцца. Яно і не дзіўна, бо глядзіш на ўсё гэта, без перабольшання, вачыма самога народа. Дакладней, вачыма тых прадстаўнікоў яго, якім за ўсё гэта баліць, а таму яны і не застаюцца абыякавымі, калі бачаць, што дзе-небудзь “парадачак не ідзець”.

Кніга “Шчаслівыя людзі” у Ю. Зарэцкай першая, але адначасова гэта і свайго роду выбранае. Разам з тым гэта і аўтарская творчая справаздача. За той перыяд, які ў мастакоўскай біяграфіі маладой пісьменніцы з’яўляецца... Прасцей сказаць — пачатковым. Але хіба можа быць пачаткоўцам аўтар, які за кароткі час паспеў дасягнуць такіх значных набыткаў? Не надта падыходзіць і вызначэнне “першы этап”. Таму, бадай, правільным будзе сказаць, што перад намі справаздача Ю. Зарэцкай за той перыяд — жыццёвы і творчы, — калі асабліва дае знаць пра сябе мастакоўскі (дый жыццёвы) задор, нястрымнае натхненне, лёгкасць думкі і смеласць яе палёту.

А паколькі гэта свайго роду выбранае, то ў кнізе прадстаўленыя розныя жанры. Творчае “меню” Ю. Зарэцкай вельмі багатае. Што ні “страва” ў ім, то абавязкова такая, якую так і карціць пакаштаваць. Зрабіць жа гэта, зразумела, нескладана. Дастаткова толькі зазірнуць у пэўны раздзел кнігі. У “Шарашкінай канторы” можна “паспрабаваць на смак” фельетоны. Хочацца чагосьці гаркава-сатырычнага — калі ласка, да вашых паслуг “Ружовая мара ўнаём”. “Пісьмы наверх” — гэта тое, што часам і аскому выклікае, ды не будзем забываць, што яна і ад добрага яблыка бывае. Канечне, калі яно з кіслінкай, а пачастункі бабулі Агапкі Гапееўны з вёскі Гускі — а гэта яна свае лісты пасылае наверх — інакшымі і быць не могуць.

А яшчэ аўтар “Шчаслівых людзей” прапануе “Думкі ўголас”. Ёсць раздзел “Малюнак у падарунак”, а ў ім “Дарожная азбука” і “Нотная азбука”, якія яна прыдумала сама, “Соннік” — тут не абышлося без дапамогі мастака Паўла Шычко, а яшчэ карыкатуры, выкананыя па яе тэмах мастакамі Вікенціем Пузанкевічам і тым жа П. Шычко. Што ні “пакаштуеш” з прапанаванага Ю. Зарэцкай, апетыт усё больш разгараецца. Яшчэ і з-за таго, што яна належыць да тых, хто ўмее не толькі гатаваць, а і падаваць. У пачатку кожнага раздзела — дзе з гумарам, а дзе ўсур’ёз — аўтар запрашае: не абыдзі ўвагай, абавязкова пазнаёмся з тым, што табе прапануецца.

У раздзеле ж, які даў назву кнізе, ёсць усё, чаго толькі душа пажадае. У ім змешчаны гумарэскі, а яны... Яны, вядома, розныя бываюць. І шмат хто піша іх, але ў Ю. Зарэцкай свой падыход да гэтага старога і пастаянна маладога жанру. Дый як ён можа не маладзець пад яе пяром, калі яна сама маладая? За такія тэмы бярэцца, якія б некаторыя палічылі і не вартымі ўвагі. Маўляў, нявыйгрышныя яны. Толькі гледзячы для каго. Узяць, скажам, тую ж першую гумарэску Ю. Зарэцкай “На вакзале”. Нават не верыцца, што напісана яна на самым пачатку творчага шляху — настолькі ўсё дасканала.

Гумарэска пабудавана як “Маналог сабакі”, што і пазначана ў падзагалоўку. Далей і канкрэтызавана, калі ўсё адбываецца: “Раніца. Вакзал. Людзі. Рэйсы. Шпалы, цягнікі...” Аднаго з гэтых цягнікоў і мусіць чакаць разам са сваёй гаспадыняй чатырохногі бедалага. Так, бедалага, бо гэтае знаходжанне на пероне сабаку не толькі радасці не дае, а яшчэ і нервы яму псуе. Але той да ўсяго ўжо прызвычаіўся, таму і “разважае” пра сваё становішча з гумарам. Падаецца сітуацыя вельмі праўдзіва і пераканаўча, так, быццам наяве бачыш усё, што адбываецца з адным з “братоў нашых меншых”, які, перажываючы стрэсавую сітуацыю, не толькі выгляду не падае, як яму цяжка, а яшчэ і жартаваць можа, а то і, каб мог, падказаў бы, што рабіць: “— Гаў! Хопіць ужо, мужчына, сыдзіце з майго хваста. Вось так лепш. Не трэба так доўга прасіць прабачэння. Ага, гэта мы не ў мяне, а ў маёй гаспадыні. Ну, добра, ідзіце сабе. Не, я не пекінес, я кокер-спаніэль. Не, не англійскі, а амерыканскі. Мужчына, гэта не ваша электрычка падышла? Не чуе. А шкада. Ну і чорт з табой!..” Ці яшчэ: “Выбачайце, а вы сумленне маеце? Мужчына! Мая гаспадыня, безумоўна, прывабная, але праз хвіліну ваша электрычка адыдзе. Вы чуеце? Вы што, думаеце, я ад няма чаго рабіць вас за штаніну цягну? Ды не кусаюся я, не палохайцеся! Я проста вас папярэджваю... Гаў! Цяпер позна ўжо — дзверы зачыніліся...” А тут хіба не смешна?! — “Гаў! Я лепей вушы свае з асфальта прыбяру, а то бачу, нейкі мужык вунь “на аўтапілоце” шкандыбае. Куды толькі наша міліцыя глядзіць?..”

У жанры маналогу напісаны і гумарэскі “Імгненні галубінага жыцця”, “Языкасты рэйс”, у якіх пра сваё жыццё-быццё спавядаюцца голуб і кандуктар. Як і “На вакзале”, на дзіва дасціпныя творы, сюжэты якіх прываблiваюць тым, што гэта нібы злепкі самой паўсядзённасці, якія падаюцца ў гумарыстычным ракурсе. Увогуле, Ю. Зарэцкая па сутнасці нічога не прыдумляе. У тым сэнсе, што ў яе творах абавязкова прысутнічае тое, сведкам чаго даводзілася многім з нас быць неаднойчы. Іншая справа, што пісьменніца дзякуючы багатай творчай фантазіі ад канкрэтных фактаў лёгка пераходзіць да значных абагульненняў, як, скажам, у гумарэсцы “Вясковы «кланітар»”, у якой дзеянне разгортваецца вакол успрымання вясковымі людзьмі паведамлення пра тое, што вучоныя маюць намер заняцца кланіраваннем чалавека. Кожны, канечне, вестку ўспрымае па-свойму, таму і пачынаюць яе горача абмяркоўваць. У эпіцэнтры ж гаворкі аказваецца разважлівы дзед Нупрэй. Падумаць жа ёсць пра што. А як пры кланіраванні быць з прайдзісветамі і жулікамі?

> *Творчае “меню” Ю. Зарэцкай вельмі багатае. Што ні “страва” ў ім, то абавязкова такая, якую так і карціць пакаштаваць. Зрабіць жа гэта, зразумела, нескладана. Дастаткова толькі зазірнуць у пэўны раздзел кнігі.*

Гумарэска ж, якая дала назву кнізе, — узор таго, як трэба пісаць, каб і дасціпна было, і займальна, але і не пазбаўлена глыбокіх думак. Гэтым разам таксама не буду пераказваць сюжэт, бо ў творы ўсё трымаецца на інтрызе. Дый шмат якія іншыя гумарэскі, прынамсі, “Сапраўдная жанчына”, “Сапраўдны мужчына”, “Несалодкі цукар”, “Запісваю, бабуля, запісваю”, “Я — жанчына моцная” — гэта тое, што дазваляе і над жыццём задумацца, і над сваімі учынкамі паразважаць: ці так жывём, як жыць трэба; ці гэтак робім, як рабіць мусім?




Такую магчымасць даюць шмат якія творы Ю. Зарэцкай. Але ў першую чаргу “Зайцава мара” (жанр пазначаны як прытча). У гэтым ніякай нацяжкі, бо навідавоку асноўная прыкмета жанру: наяўнасць павучальна-алегарычных момантаў. Тым самым элементы гумару як быццам адыходзяць на другі план. Хоць усё ж, бадай, правільней сказаць, што яны да пары да часу не даюць пра сябе знаць, а выяўляюцца толькі ў канцы твора.

Змест жа прытчы такі. Заяц, які “жыў у адным лесе”, “дужа ... зайздросціў іншым звярам і птушкам”. Яму вельмі хацелася мець усё, чаго ў яго не было, а яны гэта мелі: “— Эх, каб мне такія іклы, як у ваўка! — марыў Заяц. — Я каго хочаш уміг парваў бы!..” Адразу ж з’яўлялася і яшчэ адно жаданне: “— Ух, мне б сілу мядзведжую займець: мяне ўвесь лес баяўся б! — бліскалі ў Зайца вочы. — Адным махам дрэвы валіў бы!..” Жаданням Зайца не было канца. І да таго хацелася быць падобным. І да гэтага... Так працягвалася, пакуль...

“І... здарыўся цуд. У той жа міг атрымаў Заяц усё, аб чым так марыў: іклы, як у Ваўка, лісінае футра з рыжым хвастом, разгалістыя рогі на савіную галаву, бусліны нос. Стаў ён тады з мядзведжаю сілаю на капытцы і, зразумела, — загнуўся”. Выснова — калі ласка: “Бо ведайце, шаноўныя, што паміраюць не ад таго і не тады, калі нечага не маюць ды мараць аб нязбытным, а тады, калі ўсё жаданае атрымліваюць...”

У пасляслоўі “Людзі і хітрамудрыя клоны” лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей асаблівую ўвагу звяртае на тое, што “сатырычную кашу ў нашай дужа здатнай на жарты Беларусі ўпершыню заварыла пісьменніца-жанчына, бо да яе ў жаночым асяроддзі гумарыстаў і сатырыкаў, бадай што, не назіралася. Юлія Зарэцкая — першая, таму і лепшая. Лепшая па сваіх творчых заслугах. Цяпер яна не адна — у яе ёсць цудоўная кніга “Шчаслівыя людзі”. Ад сябе дадам: гэта такая кніга, якая кожнаму, хто таго пажадае, можа падказаць, як стаць шчаслівым”.

Кажаце, такое немагчыма? Маўляў, у кожнага сваё разуменне шчасця. Яно, канечне, так. Толькі нездарма кажуць: няма правіла без выключэння. Гэта ж акурат такое выключэнне. Несумненна, найперш шчаслівымі адчуюць сябе тыя, хто, пазнаёміўшыся з кнігай Ю. Зарэцкай, удосталь пасмяецца. Аднак будуць шчаслівымі і тыя, хто лішні раз упэўніцца ў тым, што ў літаратуры па-ранейшаму ёсць сапраўдныя таленты. Дый хіба нельга лічыць сябе шчаслівым, калі, прыдбаўшы кнігу “Шчаслівыя людзі”, зрабіў у сваю хатнюю бібліятэку годнае папаўненне?

**"Дзіўнае гэта адчуванне: бяжыш, бяжыш, што ёсць сілы, даганяеш будучыню, але не маеш сілы дагнаць, адно аддаляешся ад мінулага; твая ўласная будучыня аддаляецца ад цябе, а ты — ад свайго ўласнага мінулага. І вось ты ні там, ні тут. Пасярэдзіне. Па-за часам і па-за прастораю…" — гэтыя радкі Анатоля Крэйдзіча, адрасаваныя герою яго дакументальна-мастацкай аповесці "Богаў сон" вядомаму беларускаму мастаку Янку Рамановічу, можна суаднесці з самім аўтарам, адно толькі "з дакладнасцю да наадварот".**

# Пераўвасабленне ў слове

**Ірына САЛОМКА**

Анатоль Мікалаевіч — галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты "Чырвоная звязда", слынны журналіст, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі — арганічна ўпісваецца ў час, чуйна рэагуе на яго павевы, трывала "ўкараніўшыся" ў мінулае, падсілкоўваючыся ім, ён упэўнена стаіць на зямлі і, як і належыць сапраўднаму пісьменніку, творцу, не толькі глыбока асэнсоўвае рэчаіснасць, але і глядзіць у будучыню.

Пераўвасабляць жыццё ў слове стала для Анатоля Крэйдзіча "хлебам надзённым". Ён аўтар зборнікаў прозы "Палескі Напалеон", "Параненыя мары", "Права на ўсмешку", дакументальнай кнігі "Анатоль Клімец. Жыццё і лёс".

Сёлета творчая скарбонка мастака слова папоўнілася яшчэ адной кнігай прозы з красамоўнай назвай "Роднае, шчымлівае", якая пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". У выданне з серыі "Лімаўскі фальварак" увайшлі дакументальна-мастацкая аповесць "Богаў сон", нарысы, нататкі, мініяцюры.

Трымаючы ў руках дарунак Анатоля Мікалаевіча, не спяшаюся адгортваць першую старонку, маю патрэбу проста патрымаць кнігу ў руках, з заміраннем сэрца спрабую адгадаць, якія ж "скарбы" схаваны пад немудрагелістай вокладкай. І ад назвы кнігі, і ад ілюстрацыі на вокладцы з выявою сялянскага пакоя з традыцыйнымі для беларусаў побытавымі рэчамі вее нечым "родным, шчымлівым". І хоць у кожнага чалавека свае адметныя жыццёвыя каштоўнасці, ды ўсё ж ёсць і нешта агульнанацыянальнае, спадчыннае, тое, што родніць і яднае.

Назва кнігі падаецца даволі трапнай — простай і яскравай. Пад якім жа яшчэ агульным загалоўкам маглі б змясціцца такія жанрава і тэматычна разнастайныя матэрыялы? А тут — усё навідавоку: ці аўтар апавядае пра адметных і непаўторных сучаснікаў, ці разважае пра акаляючую рэчаіснасць, ці стварае свет мастацкіх вобразаў — усё гэта аб'ядноўваецца паняццямі "роднае, шчымлівае".

Кніга распачынаецца аповесцю "Богаў сон", прысвечанай асобе надзвычай таленавітага мастака Янкі Рамановіча з Моталя. Нягледзячы на малады ўзрост, Янка Рамановіч заваяваў прызнанне не толькі ў сваёй краіне, але і за яе межамі. Ён актыўна ўдзельнічае ў выстаўках у дзясятках краін свету.

Жыццё героя, пададзенае праз прызму аўтарскага светабачання, уяўляецца Богавым сном, а тое, што мастак творыць, "сніць сам Творца творцаў".

Ужо з першых радкоў аповесць бярэ ў прыцягальны палон, інтрыгуе. Нясцерпна карціць даведацца, як абыдзецца жыццё з героем твора, што апынуўся "па-за часам і па-за прастораю".

Спалучэнне ў творы двух планаў (дакументальнага і мастацкага) — на мой погляд, вельмі ўдалы аўтарскі ход. Гэткае перапляценне рэальнага (біяграфічныя звесткі) і ўяўнага (мастацкі вымысел) стварае адчуванне накшталт чаргавання явы і сну.



Кожная новая старонка твора ўсё болей упэўнівае ў тым, што ў незвычайнага чалавека і жыццё незвычайнае: насычанае, напоўненае глыбокім сэнсам, багатае на цікавыя падзеі. На пачатку твора мы бачым героя падлеткам, які мае цягу да малявання і прыязджае ў сталіцу, каб паступаць у мастацкую школу. Напрыканцы — гэта ўсё яшчэ малады, але ўжо вядомы мастак, аўтар шматлікіх палотнаў, разнастайных паводле жанраў і тэматыкі. А паміж адпраўным і апошнім радком жыццяпісу — дзяцінства героя з уласцівымі ўзросту гульнямі-пацехамі, вучоба ў рэспубліканскай школе-інтэрнаце імя Івана Ахрэмчыка, каханне, спасціжэнне сакрэтаў творчага майстэрства ў акадэміі, сталенне, стварэнне сям'і, нараджэнне дзяцей, вяртанне на малую радзіму, педагагічная праца, пошук свайго мастацкага стылю і — творчасць, творчасць, творчасць.

Яскрава гучыць у аповесці тэма нацыянальнага. Хоць мастак пазбегнуў небяспекі трапіць пад чужы творчы ўплыў, упарта шукаў (і знайшоў!) сваю, індывідуальную, манеру, але ж пры тым ён "не адышоў ад сваёй глыбока, а нават і глыбінна нацыянальнай сутнасці", "знайшоў магчымасць знітаваць, паяднаць у адзінае цэлае неба і зямлю, Боскае і чалавечае, духоўнасць у яе найвышэйшым разуменні і не менней высокім разуменні нацыянальным".

"Аповесць напісана — жыццяпіс працягваецца", — зазначае аўтар у апошняй частцы твора. Ці гэта не інтрыгуючае абяцанне яго працягу?

Яўген Казюля, ацэньваючы творчасць мастака, сцвярджае, што Янка Рамановіч "працуе на будучыню. Бо тое, што ён робіць, безумоўна, ацэняць нашчадкі". Упэўнена, тое ж самае можна сказаць і пра Анатоля Крэйдзіча.

Героямі яго нарысаў з'яўляюцца адметныя людзі Брэстчыны. Сярод іх і механізатары, і старшыні, і брыгадзіры, і журналісты, моладзь і ветэраны вайны і працы, і ў кожнага — свая непаўторная жыццёвая дарога. Пра ўсіх іх аўтар піша з любоўю. Часам нават вяртаецца да напісанага праз шмат гадоў, каб адсачыць далейшы лёс свайго героя — так з'явіліся невялічкія працягі-пасляслоўі да нарысаў.

Нататкі ствараліся ў рамках аўтарскага праекта "150 пісьменніцкіх радкоў", які пачынаючы з 1 верасня 2007 года выходзіў у брэсцкай абласной газеце "Заря" і прыхільна ўспрымаўся чытачамі.

У іх зноў жа на ўсю моц гучыць тэма "беларускасці": на першы план выходзяць пытанні ўсведамлення народам сваёй нацыянальнай прыналежнасці, захавання мовы, традыцыйнай культуры. Гэта ж "грэх хаваць ад сябе і суседзяў уласныя моўныя скарбы", а "пераймаючы ад багацейшых краін Еўропы стыль жыцця, нам усё ж ні ў якім разе нельга забываць пра свой нацыянальны каларыт".

Аўтар шмат разважае і пра літаратуру, якая заклікана быць "апірышчам усяго нацыянальнага".

Завяршаецца кніга мініяцюрамі. Гэта найменшы раздзел, і творы, што яго складаюць, сапраўды "мініяцюрныя" (часцей — у некалькі радкоў). Але ў іх у трапнай кароткай форме адлюстраваны жыццёвыя назіранні, філасофскія роздумы, мастацкае абагульненне рэчаіснасці.

Да прыкладу:

"Біяграфія: так было, але гэта не праўда. Мастацкі твор: так не было, але гэта праўда".

"На паліцах кнігарняў усё болей прозвішчаў і ўсё меней Імёнаў".

Некаторыя мініяцюры "замешаны" на гумары: "У 35 год ён моцна захварэў і сабраўся паміраць. І перад смерцю гэтак закарцела выказацца. І выказваўся 65 гадоў…" Альбо яшчэ: "Ён вельмі хацеў праславіцца. І праславіўся. Тым, што вельмі хацеў праславіцца".

Чытаць напісанае Анатолем Крэйдзічам — зусім не тое, што "праглынуць" бульварны раманчык. Тут хочацца "смакаваць" слова, часам неабходна прыпыніцца, узважыць прачытанае, убачыць падтэкст, спасцігнуць аўтарскую філасофію.

Працэс гэты я параўнала б з тым самым чытаннем "навырост", пра якое піша літаратар у адной з нататкі, калі, каб зразумець напісанае, "цягнуцца трэба". Але ж, "дацягнуўшыся", адчуваеш сябе духоўна ўзбагачаным, мудрэйшым, больш дасведчаным у жыцці, бо створаны моваю любові свет кнігі — гэта не што іншае, як сучасная рэчаіснасць, героі твораў — рэальныя людзі. Канечне, жыццё не стаіць на месцы: змяняюцца рэаліі, сталеюць людзі, адыходзяць пакаленні, нараджаюцца новыя героі кніг. Але ж напісанае — застаецца! "Як спыненае імгненне вечнасці".

# "Тры зары" Маі Львовіч



**Адам МАЛЬДЗІС**

Сярод беларускіх паэтаў, якія сёння жывуць за межамі нашай краіны (налічыў я іх каля пяцідзесяці), Мая Львовіч — асоба ўнікальная: яна звычайна піша на трох мовах, а ў выключных выпадках — на пяці. У вершы "Тры зары", які ўвайшоў у яе новы зборнік "Балагола" (Харкаў, 2012), піша пра гэта так:

*Калі тры нада мной узышлі,*
*Тры зары,*
*А што першая, то украінская,*
*А што другая, то беларуская,*
*А што трэцяя, а што трэцяя,*
*То габрэйская.*

Асаблівая выключнасць асобы Маі Львовіч у тым, што названыя тры родныя мовы (сумненні ў мяне тут ёсць толькі адносна габрэйскай) яна "засвоіла", будучы ўжо асобай сталай. У дзяцінстве ж яна чула пераважна рускую і казахскую мовы. Нарадзілася Мая Давыдаўна 23 красавіка 1933 года ў рускамоўнай Адэсе. Першы вершык напісала, яшчэ ў дзяцінстве, па-руску. У школу пайшла ўжо ў Харкаве, таксама рускую. А ў вайну, калі бацька пайшоў на фронт, маці з дзецьмі эвакуіравалася ажно ў Казахстан.

Да ўкраінскай мовы будучая паэтэса па-сапраўднаму далучылася толькі ў Харкаўскім універсітэце, які закончыла з адзнакай у 1957 годзе. Але ўладкавацца на працу было складана: аперацыя на сэрцы, слабы зрок. Падпрацоўвала ў выдавецтвах, рэдакцыях часопісаў. Пісала ўкраінскія і рускія вершы. Шмат перакладала — найперш з рускай, польскай, чэшскай, нямецкай і сербскай моў. Пасябравала з вядомай паэтэсай Данкай Максімавіч: пачаўся ўзаемапераклад, які закончыўся спробай жыхаркі Харкава і самой пісаць па-сербску.

Але з гадамі ўсё мацней абуджаўся беларускі ген. Справа ў тым, што маці Маі Давыдаўны паходзіла з Гомеля, а бацька — з Мазыра. Дзед быў балаголам, які перавозіў тавары палескімі гасцінцамі. І я падазраю, што бацькі, асабліва маці, гаварылі ў Адэсе не столькі па-габрэйску, колькі "па-літвацку" (літвакамі паўсюдна называлі габрэяў, што выйшлі з беларуска-літоўскіх зямель). Нездарма паэтэса прызнаецца, што маці заўсёды імкнулася наблізіць да яе "гукі і пахі Беларусі", каб яны станавіліся роднымі, каб узрастала далучанасць да каранёў. І яна канкрэтызавалася ў 1971 годзе, калі з дапамогай Аляксея Пысіна Мая Львовіч упершыню прыехала пісаць і адпачываць у Каралішчавічы. Потым у суправаджэнні маці прыязджала сюды штогод.

У Каралішчавічах Мая Львовіч пасябравала з Уладзімірам Караткевічам, Рыгорам Барадуліным, Нінай Мацяш, Варленам Бечыкам, пад іх уплывам усё больш пісала па-беларуску. Калі яе першы зборнік "Земле моя…" (1985) быў толькі ўкраінскі, то наступныя, "Цяпельца=Вогник" (1995), "У Зязюльчыным у Барку" (2002) — ужо двухмоўныя: "у люстраным адбітку" ішлі беларускія і ўкраінскія паэтычныя тэксты.

Двухмоўным з'яўляецца і новы зборнік вершаў паэтэсы "Балагола", куды ўвайшлі як арыгінальныя вершы пераважна на габрэйскую тэматыку, так і пераклады з ідыш. Адкрываецца ён прадмовай дацэнта Харкаўскага ўніверсітэта Аляксандры Кавалёвай "І габрэйскі спеў лунае, украінскі, беларускі…" Такую шматграннасць творчай дзейнасці вучоная называе "нестандартнай", "шматвектарнай". А сама Мая Львовіч у кароткім слове "Ад аўтара" прызнае: "І належу я тром культурам".

Да сказанага трэба дадаць, што Мая Львовіч, нягледзячы на сваю прыкаванасць да жылля, вядзе не толькі творчую работу, але таксама і вялікую грамадскую дзейнасць. У адной з харкаўскіх бібліятэк яна стварыла беларускі аддзел, дзе збіраецца грамада нашай дыяспары. Яе сціплая кватэра ператварылася ў своеасаблівы беларускі клуб.



Казімір Камейша

## Выснова

Ганаду Чарказяну

*Час — мудрэц вялікі і хіцёр,*
*Ён параіў некалі хлапчыне:*
*— Вышыні вучыся толькі ў гор,*
*Каб было не сорамна ў цясніне.*

*Нашаптаў яшчэ такое Час:*
*— Не цурайся і сяброў ніколі.*
*Па цяпле сяброўскага пляча*
*Часта людзі вывяраюць долю.*

*Часу я падзякаваць хачу:*
*Дзе б далёка ні блукаў ад дому, —*
*Цёпла аднаму было плячу,*
*Цёпла, нават горача, другому.*

*Весела шуміць ля Нёмна бор,*
*Бераг мой вадой шчабеча талай.*
*Тое, што ўзвышала там, ля гор,*
*У бары яшчэ вышэйшым стала.*

*Бор шуміць.*
*Зусім не сніць пілу,*
*Роўна сцежка між камлёў ступае.*
*І пляча,*
*І за плячом крылу*
*Цішыні і вышыні хапае!..*

* * *

*За часам,*
*за ракою,*
*за лясамі,*
*І сёння, як і многа год таму,*
*Мне кланяецца жыта каласамі.*
*Адкланяюся ўдзячна і яму.*

*Нічога не схаваеш у паклоне,*
*Хоць і схіляеш нізка галаву.*
*Не вочы, дык дрыжачыя далоні,*
*Усё праўдзівым імем назавуць.*

*Схіляюся ў паклоне непрытворна*
*Да самых ног, да самае зямлі*
*Прад вамі, каласоў даспелых зёрны,*
*Прад вамі, кветкі, пчолы і чмялі.*

*А калі ў чым усё ж я вінаваты,*
*Паклонна прызнаю сваю віну.*
*Страху ў паклоне нахіляе хата,*
*Вітаючы з-за Нёмана вясну.*

*Схіляюцца ў паклоне пушчаў шаты,*
*І родны сад, і каля вокан клён.*
*І той самотны ўзгорачак за хатай*
*Здалёку шле мне ціхі свой паклон.*

## Кляновы ліст

*Няма тут аніякага падману,*
*Ён восенню самой падмаляваны.*

*Усё пазначыў Творца промнем вострым,*
*Дабавіў неба, золата і вохры.*

*Акрэсліў нават кусцікі пражылак*
*І час, што ў пушчы весела пражыты.*

*Чыесьці сцежкі, берагі, прыпынкі,*
*Свае пралікі і чужыя ўчынкі…*

*А сам сарвешся, паляціш праз гоні —*
*Ужо ніякі вецер не дагоніць.*

* * *

*Даўно ты ў сны мае залятаеш,*
*Але не цешаць мяне яны.*
*Калі ўсіх птушак вясна вяртала,*
*Ты адляцела з маёй вясны.*

*Ты пералётна жывеш, як птушка.*
*Па шумных вуліцах і бальшаках*
*Цябе катаюць на легкавушках,*
*А я ж насіў цябе на руках.*

* * *

*У свет, дзе толькі невядомасць,*
*Дзе сцежка ў кожнага свая,*
*Аднойчы разам выйшлі з дому*
*І разышліся, ён і я.*

*Яму з парога шанцавала,*
*Ён нават цешыўся хадой.*
*А мне сцяжыну заламала*
*Адной, пасля другой бядой.*

*І ён, і я,*
*мы не з прапашчых*
*На гэтай грэшнае зямлі.*
*Яго вянок лаўровы лашчыць.*
*А мне цярновы мой баліць.*

## Гарлачыкі

*Вось ён загарэўся зноў на сонцы*
*На сцяблíне ніцістай тугой.*
*Па лістах краплістае далоньцы*
*Пакаціўся белы той агонь.*

*Лёгка калыхнуліся пялёсткі,*
*Быццам напужаныя вяслом.*
*Гэта — як юнацтва адгалоскі,*
*Што ў забытай лодцы адплыло.*

*Бліснулі тычынкі пазалотай,*
*Толькі ветрык ранне пагукаў.*
*Белай лебядзінаю пяшчотай*
*Бераг закалыхвае рака.*

*Цешыць неба,*
*Ясна цешыць вока,*
*Музыкай паўсоннаю гучыць.*
*У агні гарлачыкаў затока*
*Мне прысніцца потым уначы.*

*…Я лаўлю рукамі той гарлачык,*
*Ну а ён няўлоўны, як знарок.*
*Белым птушанём па хвалях скача*
*Ды яшчэ ўсміхаецца здалёк.*



Фота Марыны Бегунковай

Дэбют



Людміла Гуйда

Людміла Гуйда нарадзілася ў 1981 годзе ў в. Абруб Беразвецкі Глыбоцкага раёна. Скончыла Полацкі педагагічны каледж імя Ф. Скарыны і філалагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Працуе на Глыбоччыне ў Азярэцкай сярэдняй школе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.

## Прыгажуня

*Дзяўчына па сцежцы ідзе,*
*Як зорка-краса, — яснавокая.*
*Блакітная стужка ў касе,*
*Валошка ў руках асвячоная.*

*Дзяўчына, як ветразь, плыве:*
*Хада яе вабная, лёгкая.*
*І сэрца спявае, жыве,*
*З прыродаю зліўшыся роднаю.*

*Дзяўчына, дзяўчынка, краса,*
*З вясной ты сваёй — заручоная.*
*Хай будзе і доля твая*
*У маці-зямлі — бласлаўлёная!*

* * *

*Люблю жыццё і ўсе яго праявы:*
*Самотны дождж і магутны гром.*
*Усмешкі родных і сяброў спагаду,*
*Свята заранак і бацькоўскі дом.*

*Люблю жыццё і ўсе яго світанні,*
*Крыніц крышталёвых гучны*
*перазвон,*
*Буслоў на ліпе сполах-клекатанне,*
*Завей выццё і чысціню снягоў…*

*Люблю жыццё, калі ў душы надзея*
*На добрыя памкненні ад людзей,*
*Калі ратуе свет святая вера,*
*Калі і сам становішся дабрэй.*

## Расстанне

*Плывуць на небе аблачыны,*
*Гудуць шалёныя вятры,*
*Дажджы галосяць, сэрца стыне,*
*З каханым я ужо на "вы".*

*Шкада, што восеньская слота*
*Сцяжынкі з любым развяла…*
*Прапала шчасце — і журбота*
*Не зберагла для нас цяпла.*

## Люблю

*Люблю цябе і сэрцам, і душой,*
*І ў сцюжу,*
*У росны ранак*
*І ў грамабой.*
*Гарну цябе у сэрцы і у думках*
*Як самы лепшы скарб душы маёй.*
*Люблю цябе адчайна і аддана*
*Ўсёй сутнасцю жаночаю сваёй.*
*Люблю упершыню*
*Так шчыра, так кранальна,*
*Што свету пракрычаць магу:*
*"Люблю-ю-ю!"*



Міхась Южык

* * *

*Хочацца сном зрабіць яву,*
*яву ж — у сон перайначыць,*
*каб ты глядзела ласкава,*
*без меланхоліі плачу.*

*Гэта магчыма, канечне,*
*спраўдзіць праз моцную веру,*
*хоць непазбыўна я грэшны,*
*хоць і не варты даверу.*

*Вер, тым не менш, я здалею*
*перакуліць час застылы*
*і у далонях сагрэю*
*твар твой халодны і мілы.*

*І пацяплеюць павекі,*
*шчасна расплюшчацца вочы,*
*будуць артэрыяў рэкі*
*грэць сілуэт твой дзявочы.*

*Хочацца бачыць усмешку,*
*што гарманіруе з летам…*
*Вера не ведае межаў,*
*веру, што спраўдзіцца гэта.*

* * *

*Сонейка ранняе свеціць,*
*ветрык цярэбіць траву.*
*Побач гарэзуюць дзеці...*
*Лягу і мірна засну.*

*Сніць буду гэтае ж неба,*
*сонца і тую ж траву,*
*важную ў некім патрэбу,*
*ясную мне аднаму.*

*Ранак і поўдзень праходзяць,*
*вечар імкне наўздагон,*
*сонца павoлі заходзіць,*
*праўдзячы вечны закон.*

*Выспаўся. Позірк па зорках*
*ціха блукае ўначы.*
*Сэрца зававліва-горка*
*стукне і доўга маўчыць.*

*Быццам яно ўспамінае*
*воч непаўторны блакіт,*
*непераможнага мая*
*у дзьмухаўцах краявід.*

*Нават у доўгім маўчанні*
*сэрца свавольнага мне*
*бачыцца свежае ранне,*
*блікі на роснай траве.*

## Сіцылія

*Мрою даўно ідылію,*
*як голас скрозь немату —*
*у сэрцы жыве Сіцылія,*
*над морам сады цвітуць.*

*Бурштынавым ясным раннем*
*спускаемся мы на пляж...*
*Сіцылія — як каханне,*
*як радасць і як міраж.*

*Парой непагоднай стылаю*
*скрозь слоту і вокнаў муць*
*прымройваецца Сіцылія,*
*духмяна сады цвітуць.*

*Здзяйсненне надзей, прыстанак*
*для збеглых ад сцюж людзей —*
*Сіцыліі ясны ранак,*
*калісьці і нас сагрэй.*

*Бяжыць за табою, мілая,*
*блік сонечны па пяску…*
*Над намі вісіць Сіцылія,*
*развейвае ўраз імглу.*

*Накочваюць хвалі плаўна*
*На бераг, цёплы такі.*
*Мы некалі ўсё ж праславім*
*Сіцыліі берагі!..*

# Ярка і крэатыўна




*Генадзь Кузьмінаў са статуэткай, што атрымаюць лаўрэаты расійскай прэміі "Кнігі года" ў верасні.*

**Генадзь Кузьмінаў — кіраўнік прэс-цэнтра Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі — не адзін год прадстаўляе кніжную прадукцыю Расіі падчас міжнародных кніжных форумаў, якія лічыць вельмі карыснымі для абмену вопытам з калегамі розных краін.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**— Генадзь Барысавіч, вы часты госць беларускай сталіцы. Чым яна асабіста вас прываблівае?**

— Калі едзеш у Беларусь, заўсёды добры настрой. Для мяне нават самыя цяжкія дні ў Беларусі — гэта свята і адпачынак. Сустракаю тут вельмі добразычлівых людзей, а атмасфера — самае галоўнае. А яшчэ, нягледзячы на тое, што Мінск — сталіца, тут можна дыхаць свежым паветрам. У Маскве вельмі цяжка дыхаць. Да таго ж прафесійная нагода — удзел у Мінскім міжнародным кніжным кірмашы. Я Мінск за сабою застаўбіў. Тут сустракаю чытача ў чыстым выглядзе. Беларусы — людзі, якія шчыра аддадзены кнізе. Таму нашы бізнесмены, кнігавыдаўцы сюды імкнуцца, яны бачаць, што беларус адмовіць сабе ў нечым іншым, неабходным, але кнігу набудзе.

**— Якія перспектывы дае міжнароднае супрацоўніцтва ў кніжнай галіне?**

— Усе рухі ў напрамку аб'яднання прафесіяналаў павінны выліцца ў штосьці мэтазгоднае, карыснае. Нашымі намаганнямі зноў без усялякіх межаў узнікне адзіная духоўная прастора, кнігі будуць даступныя: беларускія — усім народам Расіі і наадварот. Гэта падаецца мне разумным і правільным. Шкада толькі, што ідзе гэты працэс марудна, нашы спецыялісты толькі намацваюць падыходы. А кніжны бізнес хутчэй можна аднесці да катэгорыі дробнага або сярэдняга.

**— У Францыі кніга з выдавецтва трапляе спачатку ў бібліятэкі краіны. Бібліятэкары расказваюць пра навінкі, а тады людзі ідуць у кнігарню і набываюць выданне. А як ідуць да чытача расійскія выдавецтвы?**

— Па-першае, кожны выдавец спрабуе ўсё ж такі знайсці сваю нішу. Калі знойдзена аўдыторыя, можна вызначыць яе густы і аб'ёмы, якія яна здольна спажыць. (Самае складанае становішча — з дзіцячай літаратурай. Хто чытае ў 5 — 7 гадоў, а хто ў 6 — 9. Ёсць і аўдыторыя, да якой не дастукацца.)

Па-другое, вельмі актыўныя інтэрнэт-тэхналогіі. Ідзе абмеркаванне ўсяго ў блогасферы. Чым паспяхова карыстаюцца некаторыя выдаўцы.

**— Ці адчуваюць вашы выдаўцы падтрымку дзяржавы?**

— Дзяржава — гэта канкрэтныя людзі, якія прымаюць канкрэтныя рашэнні. Для правядзення тых ці іншых рашэнняў неабходна сваё лобі. З гэтым, на жаль, расійскім кнігавыдаўцам не вельмі шанцуе. Не ўдаецца дастукацца да сэрцаў заканадаўцаў і пераканаць іх, што кніжныя выдавецтвы трэба менавіта так падтрымліваць.

Існуе некалькі дзяржпраграм не толькі па лініі Міністэрства культуры, але і па лініі Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях. Ёсць некалькі крытэрыяў, якія дазваляюць меркаваць пра стан хворага: тэмпература, здольнасць гаварыць і да т. п. З кнігай тая самая гісторыя — колькі кніг выдаецца на працягу года? У нас мяжа 100 000 пройдзена чатыры гады таму, цяпер — 120 тысяч, але тыражы знізіліся. Крызісныя з'явы асабліва ў тых рэгіёнах, дзе няма зарплаты ў насельніцтва. Пры гэтым растуць продажы пэўных аўтараў, што сведчыць — калі чалавеку нешта падабаецца і нечага хочацца, ён набудзе гэту кнігу. Мяркую па наведвальніках расійскага стэнда падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу — беларусы проста ўпрошваюць прадаць кнігу, якую мы не можам прадаць, таму што гэта выставачны экзэмпляр. Прапануюць нам і двайную, і трайную цану. Чалавек гатовы чымсьці ахвяраваць. Раней казалі, што друкаваць кнігі выгадней, чым друкаваць грошы. Сёння аналіз кніжнага рынку паказаў, што за чытача трэба змагацца новымі і новымі спосабамі. Якімі? Яркай крэатыўнасцю. Напрыклад, дзіцячыя кнігі-раскладкі, нават для падлеткаў — выданні з элементамі тых тэхнічных навінак, што раней прапаноўвалі толькі для маленькіх: кніга-разгортка, з уклейкамі, ёсць кнігі такога кшталту, якія выклікаюць інтарэс і ў дарослых. Тактыльнае засваенне свету. Мініяцюрныя кнігі таксама запатрабаваны.

Падарункавая кніга — сегмент, які карыстаецца вялікай папулярнасцю. Па-рознаму да яго ставяцца кніжнікі. Хтосьці лічыць, што яны занадта затратныя, пафасныя. Вось "Маскоўскі Крэмль на мяжы тысячагоддзяў", кніга расказвае пра тое, як пасля рэстаўрацыі неверагодна прыгожа выглядаюць крамлёўскія памяшканні. Гэта выданне дорыць адзін прэзідэнт другому, бізнесмены лічаць вартым падарункам калегам.

Нашы выдаўцы ўмеюць рабіць пераплёты ўручную. Звычайныя выданні не вытрымліваюць канкурэнцыі з нямецкімі, а вось ручной работы — калі ласка. Але даходзіць справа да празмернасцей, калі пераплёт металічны і кніга непад'ёмная, аздоблена каштоўнымі камянямі — нашто?

Дзякуючы разнавектарнаму руху кнігавыдаўцы не толькі выжываюць, але і маюць магчымасць рухацца наперад.

*Да 130-годдзя Янкі Купалы*

# Шляхамі Песняра

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылося адкрыццё першай чаргі новай экспазіцыі. Асноўны мастацкі вобраз, што праходзіць праз залы з абноўленай экспазіцыяй і будзе таксама прасочвацца ў другой частцы, якая адкрыецца да канца года, — дарогі і шляхі. Гэта шляхі Купалы па Беларусі і да ўсяго беларускага.**

Марына ВЕСЯЛУХА

Галоўная мэта новай экспазіцыі — больш шырокі паказ жыцця і творчасці першага народнага паэта Беларусі ў нацыянальным, еўрапейскім і сусветным кантэксце, адлюстраванне ролі пісьменніка ў беларускай нацыянальнай літаратуры, культуры і станаўленні беларускай дзяржаўнасці. Падчас урачыстага адрыцця абноўленых залаў музея міністр культуры Беларусі Павел Латушка падкрэсліў:

— 2012 год, год юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, праходзіць у нашай краіне яшчэ і пад знакам музеяў. Так, сёлета мы адкрылі пасля рэканструкцыі Нясвіжскі палац Радзівілаў, адкрылі новы Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, зрабілі значныя крокі ў рэканструкцыі музеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа, пачалі працаваць над новай экспазіцыяй Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, прынята і вельмі важнае рашэнне стварэння музея Васіля Быкава. Сімвалічна, што многія тэхнічныя інавацыі Літаратурны музей Янкі Купалы атрымаў першы, бо Купала — адна з першых фігур у нашай гісторыі, культуры. Думаецца, цяпер музей будзе прыцягваць усё больш і больш наведвальнікаў, праз яго Купала здабудзе новых прыхільнікаў.

Павел Паўлавіч першы наведаў новую экспазіцыю музея песняра і адзначыў, што тут сапраўды прадстаўлены найноўшыя тэхналогіі: можна паглядзець 3D фільм, зняты падчас святкавання "Купалля", на плазменных экранах пабачыць і нават "пагартаць" рукапісы Купалы, якія звычайна не экспануюцца і знаходзяцца ў сховішчах музея. Пашырана і інфармацыйная прастора экспазіцыі. Да прыкладу, цяпер тут прадстаўлена больш шырокая інфармацыя пра род Купалы: архіўныя матэрыялы, якія распавядаюць пра род Луцэвічаў, пачынаючы з XVII стагоддзя, ёсць звесткі, як ён страціў шляхецкае званне і як пасля імкнуліся яго даказаць. Упершыню ў музеі з'явіўся вялікі раздзел, прысвечаны сям'і Уладзіславы Луцэвіч, жонкі песняра.

Цікавым з'яўляецца і дызайнерскае рашэнне экспазіцыі. За акном кабінета Купалы можна пабачыць вуліцу старога горада, а на рубяжах розных жыццёвых перыядаў творцы стаяць стылізаваныя памежныя слупы.

*У падтрымку чытання*




**Святлана ДЗЯНІСАВА, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць":**

## "Люблю «смакаваць радкі»"

Памятаю, як у першым класе прыйшла запісвацца ў школьную бібліятэку. У мяне пытаюцца: "А ты ўжо можаш кніжкі самастойна чытаць?" — "Магу", — адказваю. Побач нейкім чынам апынуўся хлопчык, трошкі старэйшы за мяне, і прапанаваў пачытаць "вось гэту кнігу". Хлопчыка таго я і цяпер успамінаю, а вось што гэта была за кніга, не памятаю…

Але першай для мяне стала бібліятэка ў вёсцы Старыца Капыльскага раёна. Туды прывяла бабуля-настаўніца. Першыя кніжкі з той бібліятэкі і сёння стаяць перад вачыма. З чытанкі Льва Талстога для маленькіх дзетак кожны малюнак памятаю. І тэксты ледзь не ўсе на памяць магу расказаць. *"Старик сажал яблони. Ему сказали: "Зачем тебе эти яблони? Долго ждать с этих яблонь плода, и ты не съешь с них яблочка". "Старик сказал: «Я не съем — другие съедят, мне спасибо скажут»".* Увогуле, чытаць любіла заўсёды. Нават калі ў вочы капалі лекі і чытаць на нейкі час забаранялася, чытала ўпотай ад мамы пра вайну: "Я з вогненнай вёскі", "Бомба ворэ", "Мы з Санькам у тыле ворага"…

Што асабліва ўзрушыла? Першы сур'ёзны пераварот у душы адбыўся пасля прачытання "Плахі" Чынгіза Айтматава. Менавіта тады я зразумела, што большасць можа памыляцца і што найвялікшая сіла, бывае, хаваецца ў слабасці. Віктор Гюго сваімі "Отверженными" прымусіў часцей звяртацца да Бога. Коласаўскія "Новая Зямля" і "На ростанях" узрасцілі ўва мне любоў да сялянскага побыту і зрабілі добрай (усё ж на гэта спадзяюся) гаспадыняй. Гісторыю Беларусі палюбіла праз кнігі Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа.

Я люблю "смакаваць радкі" — перачытваць творы цэлымі кавалкамі па некалькі разоў. З-за гэтай акалічнасці чытаю павольна, і чытаецца мною, увогуле, няшмат. Люблю "прафесійную літаратуру": не так даўно прачытала дапаможнік Джона Морыша "Стварэнне часопіса: ад ідэі да ўвасаблення" — зрабіла шмат адкрыццяў у сабе самой і ў справе, якой займаюся. Бывае, цягне на навукова-папулярнае чытанне, і тады я, біёгы эвалюцыяністаў або кнігі па астраноміі (любімая навука з дзяцінства). Апошнім часам хвалююць яшчэ і працы святароў.

Класікі, з якімі праводжу вольны час, — Караткевіч, Міхась Стральцоў, Чэхаў і Булгакаў. Любімыя пісьменнікі-сучаснікі — Андрэй Федарэнка і Валерый Гапееў. А яшчэ люблю Хмялеўскую. Нават спрабавала яе імітаваць. Асабістыя адкрыцці, зробленыя ў "Маладосці" — Алёна Беланожка (вось хто наша Хмялеўская!) і Уладзімір Мажылоўскі (яго аповесць "Праклён мітрапаліта Феафіла" рыхтуецца да друку).

Да 100-годдзя Максіма Танка

# Калі горыччу перапоўнена сэрца...

**Прыкметнай падзеяй у айчыннай мемуарыстыцы з'яўляецца выданне кнігі "Максім Танк. На камні, жалезе і золаце: успаміны, эсэ, прысвячэнні". Адметна, што яна супала са 100-годдзем з дня нараджэння народнага паэта Беларусі. Укладальнік тома — Уладзімір Казбярук. У шэрагу аўтараў успамінаў (а яны сабраны ў раздзеле "Пад Нарачанскім знакам") — Янка Брыль, Іван Шамякін, Вячаслаў Рагойша, Васіль Вітка, Мікола Аўрамчык, Васіль Зуёнак, Уладзімір Паўлаў, Алесь Пісьмянкоў, Арсень Ліс, Мікола Арочка, Пятро Прыходзька, Радзім Гарэцкі, Леанід Дранько-Майсюк, Дзмітрый Бугаёў, Генадзь Шупенька, Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Калеснік, Сцяпан Александровіч, Рыгор Шырма, Мікола Мятліцкі, Пётра Кузюковіч, Яўген Несцяровіч, Уладзімір Казбярук, Якаў Хелемскі, Людміла Рублеўская, Віталь Скалабан, Алег Лойка. Амаль трыццаць аўтараў.**

*Максіма, па прозвішчу Танка,*
*Забыць я ніяк не магу:*
*Паэзія светлага ранку*
*І нашай зямлі калыханка*
*Квітнее ў яго мурагу.*
*Мурог! Ды што за травіца!*
*І шоўк у ёй мяккі, і лён,*
*І вечная наша крыніца*
*З гаючай жывіцай-вадзіцай*
*Ад бацькаўскіх, дзедаўскіх*
*дзён!*

*Нясі ж ты, мой дружа, народу*
*Жывучасць, гаючасць зямлі*
*І песні складай пра свабоду,*
*І больш паддавай ты ёй ходу,*
*Каб мы к нашым святам*
*прыйшлі.*

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Несумненна, пра Танка маглі б напісаць (мо і напісалі) і іншыя пісьменнікі, дзеячы культуры, ды і прадстаўнікі навукі, вытворчасці, мо нават дзяржаўныя і партыйныя кіраўнікі. Уладзімір Казбярук, прарабіўшы, несумненна, вялікую працу па зборы напісанага пра Паэта, усё ж у асноўным абмежаваўся прадстаўленнем пісьменніцкіх уяўленняў пра Максіма Танка. Шкада, што не патрапілі ў кнігу і ўспаміны блізкіх Яўгену Іванавічу людзей, родзічаў. Так, раней за Танка памерлі яго жонка, дачка, сястра, муж сястры — перакладчык Язэп Семяжон. І тым не меней успаміны сваякоў, а яшчэ старонкі памяці, узноўленыя людзьмі, якія стасаваліся з геніяльным мастаком слова на Мядзельшчыне, у Пількаўшчыне, маглі б упрыгожыць зборнік.

Найбольш грунтоўным нарысам падаецца ўспамін народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна — "На камні, жалезе і золаце". "З Максімам Танкам я не быў так блізка, як з Андрэем Макаёнкам. Але роўна паўстагоддзя мы ішлі плячо ў плячо ў адной шарэнзе, па адной дарозе, да адной і той жа мэты. Не дайшлі. Але гэта ўжо іншая тэма, сумная", — зазначае Іван Пятровіч. І далей: "Галоўнае, што ў асобе Яўгена Іванавіча я з першай сустрэчы і да апошняй бачыў Чалавека з вялікай літары, асобу і паэта, зноў-такі з вялікай літары. Таму напісаць пра яго мяне вымушае і сяброўская вернасць, і абавязак літаратара, які доўгі час знаходзіўся ў эпіцэнтры жыцця і барацьбы вялікага і яркага адрэзка ў гісторыі нацыянальнай літаратуры, культуры". Іван Шамякін падрабязна ўзнаўляе найбольш яркія эпізоды з жыцця творцы. Як правіла, расказвае пра тое, што вядома было толькі яму, уважліваму і да пісьменніцкага жыцця раманісту. А гэта — і яркія фрагменты з сумесных творчых камандзіровак у розныя краіны і савецкія рэспублікі. Вось адзін з тых адрасоў: "Увосень адна тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят пятага года ў Польшчы прайшлі Дні беларускай літаратуры і мастацтва. Камандзіраваны туды былі шэсць пісьменнікаў: Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Піліп Пестрак, Янка Брыль і я. Тэатр Янкі Купалы. Для большасці з нас гэта была першая замежная паездка..." Іван Пятровіч расказвае пра таварыша, паплечніка далікатна, з вялікай павагай. Тым самым падае добры прыклад узнаўлення памяці. Нельга без хвалявання чытаць старонкі пра трагічныя моманты ў жыцці М. Танка, пра страту ім дачкі і жонкі.

Асобна вылучаюцца ўспаміны, эсэ, напісаныя літаратуразнаўцамі, гісторыкамі літаратуры. Выдатна, што выступаюць і тыя, хто прысвяціў творчасці Танка асобныя кнігі, манаграфіі — Вячаслаў Рагойша (пра класіка беларускай паэзіі — яго кніга "Паэтыка Максіма Танка"), Мікола Арочка (у "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" яму належыць раздзел "Максім Танк"; пра паэта ён піша ў сваіх кнігах "Саюз часу і майстэрства", "Галоўная служба паэзіі", "Беларуская савецкая паэма"), Уладзімір Калеснік (аўтар кніг "Максім Танк" і




"Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура"), Алег Лойка, Уладзімір Казбярук, Дзмітрый Бугаёў, Сцяпан Александровіч, Генадзь Шупенька... Але чамусьці няма ўспамінаў Міколы Мікуліча, Уладзіміра Гніламёдава, Анатоля Вераб'я, Валянціны Гапавай і інш. Будзем спадзявацца, што яны знойдуць месца ў новых зборніках успамінаў пра легендарнага паэта.

Максім Танк — паэт-вандроўнік, паэт-інтэрнацыяналіст. Ён шмат ездзіў па свеце, шмат перакладаў. Меў наўздзіў многа сяброў. А вось у раздзеле ўспамінаў з "замежнікаў" толькі Якаў Хелемскі апавядае пра Яўгена Іванавіча ("Поэзии хлеб насущный"). Між тым пра М. Танка пісалі А. Пракоф'еў, Т. Каламіец, М. Бажан, А. Жукаўскас і іншыя, магчыма, гэтыя заўвагі могуць падацца лішнімі. Тым болей што, канечне ж, публікацыі згаданых аўтараў добра вядомыя ўкладальніку. Ды зноў жа заўважым: постаць Максіма Танка, абсягі зробленага ім у літаратуры вартыя шырокага звароту да яго жыццяпісу. І калі публікацыі згаданых аўтараў зроблены яшчэ пры жыцці аўтара паэм "Нарач", "Янук Сяліба", "Мікалай Дворнікаў" і іншых твораў, то ў новых выданнях калектыўных кніг пра М. Танка маглі б з'явіцца новыя, наўмысна напісаныя па замове беларускіх выдаўцоў мемуарныя нарысы. Чаму б не звярнуцца да Найдзена Вылчава (Балгарыя), Гаа Мана (Кітай), Сапара Ураева (Туркменістан), Рамана Лубкіўскага (Украіна), якія перакладалі вершы беларускага класіка, былі знаёмыя з ім?..

І ўсё ж работа Уладзіміра Казберука, які і сам у ліку аўтараў кнігі, з'яўляецца дастаткова сур'ёзным фундаментам для наступных крокаў па стварэнні шырокага, шматаблічнага палотнішча жыцця народнага паэта Беларусі. Істотным дадаткам з'яўляецца раздзел вершаваных прысвячэнняў — "Усё ўзяла душа без берагоў..." Адкрываецца раздзел вершам Якуба Коласа "Максіму Танку" (твор з падзагалоўкам "Экспромтам" напісаны ў 1948 годзе):

Ізноў сярод беларускіх аўтараў — толькі адзін рускі паэт. Якаў Хелемскі . Шкада, што няма вершаў А. Веянса "Партрэт Максима Танка", М. Канановіча "Шукаў я грыбы", А. Северыні "Успамін", Шукруло "Дзякую", А. Юшчанкі "Наш сад"...

У артыкуле І. Шамякіна цытуюцца такія радкі Максіма Танка:

*Калі горыччу перапоўнена*
*сэрца,*
*І дыхаць і жыць немагчыма,*
*здаецца,*
*Заўжды ўспамінаю*
*сасну*
*над абрывам,*
*Падсечаную нарачанскім*
*прылівам.*
*Сасну, што трымаецца*
*рэшткамі карэння*
*За грунт,*
*а вяршыняй сваёю*
*высокай*
*Да сонечнай цягнецца*
*высі праменнай,*
*Над тонню смяротнай*
*калыша аблокі.*

Гэта — ужо з апошняга года жыцця паэта. Але следам за зямным жыццём у вялікага, сапраўднага мастака слова наступае вечнасць. І ўспаміны, якія з любоўю сабраў Уладзімір Казбярук, сведчаць: у вечны вырай паляцела душа аднаго з лепшых еўрапейскіх паэтаў.

# Бандэроль з Душанбэ

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Здавалася б, часы сёння не такія, што дзесьці само па сабе ўзнікае зацікаўленне культурнай, літаратурнай, мастацкай прасторай іншых краін, іншых народаў. Іншыя хуткасці, іншыя інтарэсы становяцца галоўнымі, рухавіком зносін. Прыярытэты часцей грунтуюцца на ўласным, нацыянальным. Альбо — на прыцягненні ў родны свет блізкіх, суседніх культур. Праўда, было і такое, што працэсы яднання, судакранання былі звязаны ў пэўнай ступені з палітычнай кан'юнктурай. Як прыклад — міжлітаратурныя сувязі ў межах стасункаў рэспублік і народаў Савецкага Саюза. Альбо — шырокая работа па прадстаўленні літаратур краін колішняга сацыялістычнага лагера на рускай мове. А яшчэ — і на мовах народаў СССР.

Можна толькі ўзгадваць як пра забытае, што, напрыклад, ранейшыя юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа заўважаліся і ў Таджыкістане, Казахстане, Узбекістане і нават у аўтаномных рэспубліках Расіі. Але і цяпер знаходзяцца энтузіясты, здольныя зазірнуць у далёкую мастацкую прастору, параўнаць сваіх класікаў з іншымі мастацкімі вышынямі… У 2009 годзе ў Бішкеку (Кыргызстан) на форуме Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва краін СНД мне ўдалося пазнаёміцца з таджыкскім літаратуразнаўцам і перакладчыкам Абдувалі Даўронавым. Вучоны з Душанбэ прыехаў у Кыргызстан з дакладам "Паэтыка аповесці Чынгіза Айтматава "Джаміля". У рамках форуму праводзілася канферэнцыя, прысвечаная класіку кыргызскай літаратуры.

У праграме былі і экскурсійныя паездкі. І на магілу Ч. Айтматава, да мемарыяла ў памяць ахвяр 1937-га і іншых сталінскіх гадоў. І, канечне ж, было шмат размоў. Абдувалі расказаў пра свае галоўныя зацікаўленні — таджыкска-армянскія літаратурныя сувязі, присутнасць таджыкскай літаратуры ў Арменіі. Але ўжо тады было і шмат іншага — яго роспыты пра беларускіх пісьменнікаў маштабу Айтматава. Гаварылі пра Васіля Быкава, Алеся Адамовіча. Абдувалі цікавіўся сучаснай беларускай літаратурай. Сёе-тое ён ведаў і ад нашага добрага сябра Ато Хамдама, драматурга, празаіка, перакладчыка, які часта бываў і цяпер бывае ў Мінску. Тады ў Бішкеку ўзнікла і агульная тэма — складанне бібліяграфічнага даведніка па беларуска-таджыкскіх літаратурных сувязях. І работа над гэтым сёння ідзе. Праўда, моцна захварэў Абдувалі… Але шмат што ён паспеў ужо выкласці ў нашай перапісцы, шмат што падказаў. Уважліва прачытаў і нашу з Ато Хамдамам кнігу "Дружба народаў — дружба літаратур" (яна двойчы выходзіла ў Душанбэ) і напісаў грунтоўную рэцэнзію. Увайшла яна і ў кнігу А. Даўронава "Зялёная кніга часоў" (Душанбэ, 2012).

А калі Абдувалі Даўронаў абараняў сваю доктарскую дысертацыю, то адным з рэцэнзентаў выступіў доктар філалагічных навук Іван Фёдаравіч Штэйнер з Гомеля. І гэты факт беларускай прыязнасці добра памятаюць сёння ў Душанбэ… А некаторы час таму Абдувалі даслаў свае кнігі апошніх гадоў: "Зялёная кніга часоў", "Літаратура межаў і талент", "Літаратурная крытыка і літаратурны працэс…", "Хачу, каб у Беларусі ведалі кола маіх зацікаўленняў, — заўважыў у звязку з гэтым наш таджыкскі сябра, — І вельмі спадзяюся, што нашы стасункі будуць развівацца і ў галіне літаратуразнаўства…" І мы таксама на гэта спадзяёмся. І жадаем хутчэйшага выздараўлення добраму сябру беларускай літаратуры Абдувалі Даўронаву.

— Витебск: ВГУ, 2012. — 381 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-517-294-0 (ошибоч.).

### Асноўныя тыпы і прынцыпы навучання

**Актуальные проблемы технологического образования: опыт, проблемы, перспективы**: материалы II Международной заочной научно-практической конференции, Мозырь, 25–26 ноября 2011 г. / [редколлегия: В. Н. Навныко (ответственный редактор) и др.]. — Мозырь: МзГПУ, 2012. — 300 с. — 100 экз. (1-й з-д 52). — ISBN 978-985-477-482-4.

**Актуальные проблемы формирования психолого-педагогической культуры будущих специалистов**: межвузовский сборник научных статей с международным участием / Министерство образования Республики Беларусь, Барановичский государственный университет; [ответственный редактор А. А. Селезнев]. — Барановичи: БарГУ, 2011–

Вып. 2: в 2 ч., ч. 1.: Психология / под научной редакцией Я. Л. Коломинского, ч. 2.: Педагогика / под научной редакцией В. И. Козел. — 2012. — 333 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-498-479-7.

**Арлова, Г. П.** Валеалогія: этнапедагагічны аспект: вучэбны дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па спецыяльнасці «Сацыяльная педагогіка (па напрамках)» / Г. П. Арлова, А. Л. Міхайлава; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. П. М. Машэрава. — Мінск: РІВШ, 2012. — 275 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-500-532-3.

**Арлова, Г. П.** Валеалогія: этнапедагагічны аспект: канспект лекцый / Г. П. Арлова, А. Л. Міхайлава; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. П. М. Машэрава, Кафедра сацыяльна-педагагічнай работы. — Віцебск: ВДУ, 2012. — 50 с. — 60 экз.

**Инновационная деятельность в учреждениях образования столичного региона: опыт, проблемы, перспективы**: тезисы докладов городской открытой научно-практической конференции (17–18 апреля 2012 г., г. Минск) / [редколлегия: Т. И. Мороз и др.]. — Минск: МГИРО, 2012. — 151 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6864-05-9.

**Мастацтва і асоба** = Искусство и личность = Art and the person: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, г. Мінск, 22–23 лютага 2012 г. / [рэдкалегія: Т. С. Багданава (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДПУ, 2012. — 439 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 120 экз. — ISBN 978-985-501-996-2.

**Межкультурное взаимодействие в современной образовательной среде: состояние, проблемы, перспективы**: материалы международной научно-практической конференции, Минск, 4 ноября 2011 г. / [под редакцией Лаптенка А. С., Павильча А. А.]. — Минск, 2012. — 267 с. — 60 экз.

### Дашкольнае навучанне

**Азбука полезных привычек**: хорошие манеры и полезные привычки для самых маленьких: развитие творческих способностей у детей 2–5 лет: [для дошкольного и младшего школьного возраста ; стихи О. В. Федьковой]. — Минск: Букмастер, 2012. — 16 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-219-2.

**Актуальные проблемы и тенденции современного дошкольного образования**: сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка; [под общей редакцией Л. Н. Воронецкой, Т. В. Поздеевой]. — Минск: БГПУ, 2012. — 298 с. — Часть текста на белорусском языке. — 155 экз. — ISBN 978-985-541-058-5.

**Безопасная улица**: правила дорожного движения для самых маленьких: развитие творческих способностей у детей 2–5 лет: [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Букмастер, 2012. — 16 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-220-8.

**Бельская, И. Л.** Я учусь писать: пропись для дошкольников / И. Л. Бельская. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 48 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-7038-69-5.

**Власенко, Н. Э.** Фитнес для дошкольников / Н. Э. Власенко; [художник Н. М. Кособуцкая]. — 3-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 118 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-546-4.

**Дубініна, Д. М.** Родная прырода ў вуснай народнай творчасці: дапаможнік для педагогаў устаноў дашкольнай адукацыі / Д. М. Дубініна, А. А. Страха, Д. У. Дубінін. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 133 с. — 8700 экз. — ISBN 978-985-465-989-3.

**Иващенко, Л. А.** Учу буквы: [прописи для детей дошкольного возраста] / Л. А. Иващенко, Л. В. Нестерович. — Минск: Элайда, 2012. — 33 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7019-11-3.

**Игра в жизни дошкольника**: пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / [Е. А. Панько и др.]; под редакцией Я. Л. Коломинского, Е. А. Панько. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 181 с. — 8600 экз. — ISBN 978-985-559-063-8.

**Омелящик, И. В.** Рисование, аппликация, лепка для малышей / И. В. Омелящик. — 3-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 113 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-544-0.

**Пропись, сказка и штриховка – это к школе подготовка**: [в 2 ч. / И. А. Юматова и др.]. — 4-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — ISBN 978-985-520-549-5.

Ч. 1. — 39 с. — 900 экз. — ISBN 978-985-520-547-1.

Ч. 2. — 35 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-520-548-8.

**Рисование, аппликация, детский дизайн для почемучек пятого года жизни** / [автор-составитель И. В. Омелящик]. — 4-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 124 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-543-3.

**Рисование, аппликация, детский дизайн для фантазеров** / [автор-составитель И. В. Омелящик; под ред. Е. А. Кислой]. — 6-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 137 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-550-1.

**Сиварева, Т. Л.** Пишем и считаем: [читаем и записываем, считаем и сравниваем, веселая гимнастика: развитие творческих способностей у детей 2–5 лет: для младшего школьного возраста и для чтения взрослыми детям] / Татьяна Сиварева. — Минск: Букмастер, 2012. — 15 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-221-5.

**Сиварева, Т. Л.** Читаем и запоминаем: [читаем и обсуждаем, учимся запоминать, составляем рассказ: развитие творческих способностей у детей 2–5 лет: для младшего школьного возраста и для чтения взрослыми детям] / Татьяна Сиварева. — Минск: Букмастер, 2012. — 15 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-222-2.

**Скребцова, О. Е.** Детям о человеке и рукотворном мире: сборник тематических материалов по ознакомлению с окружающим миром и развитию речи дошкольников / О. Е. Скребцова, Г. В. Трафимова. — Минск: Народная асвета, 2012. — 189 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1733-9.

### Пачатковая школа. Сярэдняя школа

**Алгебра в 9 классе**: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Е. П. Кузнецова и др.]. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 207 с. — 2925 экз. — ISBN 978-985-559-028-7.

**Антипова, М. Б.** Русский язык: сборник контрольных работ (списывания, диктанты, диктанты с грамматическим заданием): 2–4-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / М. Б. Антипова, Е. А. Гулецкая; Национальный институт образования. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 95 с.— 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0095-0.

**Антипова, М. Б.** Русский язык: тематический контроль: 2–4-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / М. Б. Антипова; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 80 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0066-0.

**Беларуская літаратура**: зборнік творчых заданняў для тэматычнага кантролю : 5–9-я класы: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / [І. М. Гоўзіч і інш.]; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 159 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0050-9.

**Белая, С. С.** Медицинская подготовка: тестовые задания: 10–11-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / С. С. Белая; Национальный институт образования. — Минск: Сэр-Вит, 2012. — 148 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-419-606-0.

**Білеты для правядзення абавязковага выпускнога экзамену па вучэбным прадмеце «Гісторыя Беларусі» за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі**: 2011/2012 навучальны год / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 6 с. — 7750 экз.

**Білеты для правядзення выпускных экзаменаў на выбар навучэнцаў за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі (у тым ліку для правядзення экзаменаў у парадку экстэрнату) ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання**: 2011/2012 навучальны год / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 76 с. — 8000 экз. — ISBN 978-985-559-023-2.

**Билеты для проведения обязательного выпускного экзамена по учебному предмету «История Беларуси» за период обучения и воспитания на II ступени общего среднего образования** : 2011/2012 учебный год / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 6 с. — 9000 экз. — ISBN 978-985-559-016-4.

**Бледай, Т. Н.** Планы-конспекты уроков по русской литературе: 6-й класс: пособие для педагогов общеобразовательных учреждений / Т. Н. Бледай. — 2-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2012.

1-е полугодие. — 2012. — 198 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-538-678-1.

**Вдовиченко, В. М.** Человек и мир: тематический контроль: 2-й класс общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / В. М. Вдовиченко, Т. А. Ковальчук. — 3-е изд. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 39 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-37-3.

**Верниковская, А. В.** Русский язык: тематический контроль: 2-й класс общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / А. В. Верниковская, Е. С. Грабчикова. — 4-е изд. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 80 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-30-4.

**Верниковская, А. В.** Русский язык: тематический контроль: 3-й класс общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / А. В. Верниковская, Е. С. Грабчикова. — 5-е изд. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 71 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-31-1.

**Воропаева, В. С.** Литературное чтение во 2 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. С. Воропаева, Т. С. Куцанова. — 2-е изд., исправленное. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 141 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-465-990-9.

**Вучэбная праграма для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання** / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2007–

Матэматыка: 5–11-я класы. — 2012. — 51 с. — 3600 экз. — ISBN 978-985-559-049-2.

Фізіка: 6–11-я класы. Астраномія: 11-ты клас. — 2012. — 60 с. — 3300 экз. — ISBN 978-985-559-032-4.

**Вучэбныя праграмы для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання** / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2007–

Чалавек і свет: 5-ты клас. Геаграфія: 6–11-я класы. — 2012. — 87 с. — 3200 экз. — ISBN 978-985-559-060-7.

**Горбунова, М. Б.** Музыка: тестовые задания: 1–4-е классы: пособие для учителей общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / М. Б. Горбунова; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 56 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0070-7.

**Горбунова, М. Б.** Музыка. Художественно-творческие задания: 2–4-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / М. Б. Горбунова; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 63 с. — Часть текста на белорусском языке. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0069-1.

**Грабчикова, Е. С.** Русский язык: тематический контроль : 4-й класс общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Е. С. Грабчикова. — 5-е изд. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-35-9.

**Гришкевич, И. К.** Тетрадь для проведения стимулирующих занятий по русскому языку: 4-й класс: в 2 ч. / И. К. Гришкевич. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — ISBN 978-985-520-456-6.

Ч. 1. — 2012. — 47 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-551-8.

**Грынько, М. У.** Беларуская літаратура. Зборнік творчых заданняў для тэматычнага кантролю: 10–11-я класы: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / М. У. Грынько, А. В. Руцкая, І. М. Гоўзіч. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 79 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0051-6.

**Захарова, С. Н.** Русская литература. Задания для тематического и итогового контроля: 10–11-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / С. Н. Захарова, О. И. Царева, Е. А. Темушева; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2012. — 141 с. — 2800 экз. — ISBN 978-985-03-1748-3.

**Инновационные технологии обучения физико-математическим дисциплинам** = Innovative technologies of physics and mathematics' training: материалы IV Международной научно-практической интернет-конференции, Мозырь, 27–30 марта 2012 г. / [редколлегия: В. В. Валетов (ответственный редактор) и др.]. — Мозырь: МзГПУ, 2012. — 285 с. — Часть текста на белорусском языке. — 122 экз. — ISBN 978-985-477-481-7.

**Кабуш, В. Т.** Гуманизация воспитательного процесса в современной школе: пособие для педагогов учреждений общего среднего образования / В. Т. Кабуш, А. В. Трацевская. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 182 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-559-008-9.

**Логінава, Т. У.** Беларуская літаратура ў 7 класе: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / Т. У. Логінава, Т. І. Мароз. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 199 с. — 3400 экз. — ISBN 978-985-559-059-1.

**Мавлютова, Н. Р.** Перфокарты с разноуровневыми заданиями по математике: 2-й класс / Н. Р. Мавлютова. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 115 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-520-552-5.

**Мир детства в современном образовательном пространстве**: сборник статей студентов, магистрантов, аспирантов / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Педагогический факультет; [редколлегия: И. А. Шарапова (отв. ред.) и др.]. — Витебск: ВГУ, 2009–

Вып. 4, т. 1. — 341 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-517-334-3. — ISBN 978-985-517-335-0 (т. 1).

Вып. 4, т. 2. — 337 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-517-334-3. — ISBN 978-985-517-336-7 (т. 2).

**Осипенко, Е. В.** Умственная работоспособность школьников, проживающих в условиях Гомельского региона / Е. В. Осипенко; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины. — Гомель: ГГУ, 2012. — 386 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-439-618-7.

**Слесарь, И. Э.** Физика: 6–9-е классы: дидактические материалы: [самостоятельные и контрольные работы]: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / И. Э. Слесарь, В. Н. Поддубский. — Минск: Аверсэв, 2012. — 160 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-393-5.

**Спортивные игры и праздники** / [редактор-составитель Л. И. Жук]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 121 с. — 6200 экз. — ISBN 978-985-405-667-8.

**Химия**: Контрольные и проверочные работы. Тестовые задания: 7–11-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Е. Я. Аршанский и др.]; под редакцией Е. Я. Аршанского. — Минск: Аверсэв, 2012. — 271 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0054-7.

**Худенко, Л. А.** Лингвокультурологический подход к обучению русскому языку учащихся 5–11 классов: теоретические и методические основы / Л. А. Худенко. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 275 с. — 230 экз. — ISBN 978-985-465-997-8.

**Худенко, Л. А.** Обучение русскому языку: лингвокультурологический подход: 5–11-е классы: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / Л. А. Худенко. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 127 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-559-057-7.

**Шукелович, Н. К.** Тематические разработки уроков по математике-1: 4-й класс / Н. К. Шукелович. — 2-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 270 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-553-2.

**Яковлева, Н. Н.** Основы безопасности жизнедеятельности: комплекты тестовых заданий к факультативным занятиям: 5–9-е классы: пособие для учителей учреждений общего и среднего образования с белорусским и русским языками обучения / Н. Н. Яковлева, Т. В. Загвоздкина, М. С. Скачков; Национальный институт образования. — Минск: Сэр-Вит, 2012. — 86 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-419-608-4.

### Выхаванне, адукацыя і навучанне спецыяльных груп асоб. Спецыяльныя школы

**Ахременко, И. Н.** Специальная психология: учебно-методический комплекс: [для студентов] / И. Н. Ахременко; [Частное учреждение образования «Минский институт управления»]. — Минск: МИУ, 2012. — 290 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-490-810-6.

### Прафесійная адукацыя

**Абитуриент 2012. Учреждения среднего специального образования Республики Беларусь**: справочник / [составитель П. И. Новодворский]. — Минск: Вышэйшая школа, 2012. — 294 с. — 4500 экз. — ISBN 978-985-06-2081-1.

**Романчик, Н. В.** Лидерство в учреждении профессионального образования: учебно-методическое пособие: [для слушателей] / Н. В. Романчик. — Минск: РИВШ, 2012. — 128 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-500-535-4.

**Справочник для поступающих в учреждения профессионально-технического образования Республики Беларусь, 2012** / [составители: Н. Ф. Левкович, Т. А. Нагачина, Н. П. Бурчиц]. — Минск: Издательство Гревцова, 2012. — 350 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6954-47-7.

**Средние специальные учебные заведения Минска**: абитуриенту 2012: специальности, квалификации, конкурсы в 2011 г., проходные баллы в 2011 г. / Республиканский центр профессиональной ориентации молодежи. — Минск: Букмастер, 2012. — 96 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-549-215-4.

**Средние специальные учебные заведения Республики Беларусь**: абитуриенту 2012: специальности, квалификации, конкурсы в 2011 г., проходные баллы в 2011 г. / Республиканский центр профессиональной ориентации молодежи. — Минск: Букмастер, 2012. — 384 с. — 7550 экз. — ISBN 978-985-549-216-1.

### Вышэйшая адукацыя

**Абитуриент 2012**: пособие для поступающих / Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный технический университет им. П. О. Сухого; [составители: С. И. Тимошин и др.]. — Гомель: ГГТУ, 2012. — 40 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-535-064-5.

**Актуальные проблемы высшей школы по подготовке специалистов в области физической культуры и спорта (менеджмент, право, педагогика)**: материалы международной научно-практической конференции, Минск, 7 февраля 2012 г. / [редколлегия: Г. А. Короленок и др.]. — Минск: БГАТУ, 2012. — 123 с. — Часть текста на польском и белорусском языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-519-451-5.

**Бжоско, Е. Г.** Педагогические технологии формирования профессиональной иноязычной компетенции: методические указания: [для преподавателей] / Е. Г. Бжоско, М. Н. Петрова; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра иностранных языков. — Минск: БГМУ, 2012. — 24 с. — Часть текста на английском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-528-536-7.

**Воспитание в сотворчестве (моделирование и проектирование образовательных систем)**: сборник научных статей. — Минск: РИВШ, 2008–

Вып. 4. — 2012. — 247 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-500-536-1.

**Голембиевский, А. И.** Металлорежущие станки. Технологическое оборудование: учебно-методическое пособие по курсовому проектированию для студентов специальностей 1-36 01 01 «Технология машиностроения», 1-36 01 03 «Технологическое оборудование машиностроительного производства» / А. И. Голембиевский; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2012. — 86 с. — 60 экз.

**Дипломное проектирование**: методические указания для студентов специальности 1-36 20 03 «Торговое оборудование и технологии» / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра «Торговое и рекламное оборудование»; [составители: А. Д. Маляренко и др.; под редакцией А. Д. Маляренко]. — Минск: БНТУ, 2012. — 116 с. — 50 экз.

**Дискурс университета**: материалы международных научно-практических конференций, Минск (2010, 2011 гг.) / [под редакцией А. А. Полонникова]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2011. — 278 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-476-980-6.

**Закружный, А. А.** Как это было / Алексей Закружный. — Минск : Право и экономика, 2005–

Кн. 3: На словах и на деле. — 2012. — 262 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-552-047-5.

**Липай, Т. П.** Организация самостоятельной работы слушателей в системе повышения квалификации работников агропромышленного комплекса: пособие: [для специалистов агропромышленного комплекса] / Т. П. Липай, О. А. Волкова; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет. — Минск: БГАТУ, 2012. — 74 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-519-449-2.

**Мицкевич, Н. И.** Методы активного обучения взрослых: учебно-методическое пособие / Н. И. Мицкевич, И. А. Фурса, Е. М. Андрейковец; Министерство образования Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт высшей школы». — Минск: РИВШ, 2012. — 69 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-500-534-7.

**НИРС в процессе учебных и производственных практик**: сборник материалов научно-методического семинара физического факультета, 30 апреля 2012 г. / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [под общей редакцией В. С. Секержицкого]. — Брест: БрГУ, 2012. — 15 с. — 30 экз.




## Магазін “Методическая книга”, г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Михаил Голденков. Утраченная Русь. Забытая Литва. Неизвестная Московия. Запрещённая Беларусь. — Минск: Современная школа, 2010.
2. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.
3. Эрнст Теодор Амадей Гофман. Путешествие в сказку. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010.
4. Максім Багдановіч. Вянок. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011.
5. Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст. — Мінск: Беларуская навука, 2011.
6. Алесь Якімовіч. Хітрая ліса. — Мінск: Народная асвета, 2011.
7. А. С. Грин. Алые паруса. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011.
8. Агнявыя дарогі да Перамогі. — Мінск: Беларусь, 2010.
9. А па сенцах ходзіць Бай… — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011.
10. Таццяна Сівец. Брык і Шуся шукаюць лета. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012.

*Героі гэтай кніжкі вырашылі аднойчы, што ім надакучыла быць адзінокімі і самотнымі. Ды і ў парку, дзе яны жывуць, з кожным днём становіцца ўсё больш няўтульна. Таму Брык і Шуся збіраюцца на пошукі лета! Праўда, некаторым гэта не падабаецца, але нашы героі пераадольваюць любыя перашкоды. А тое, што знойдуць сябры, можа аказацца нават лепшым і цяплейшым за лета… Хутчэй выпраўляйся ў вандроўку з Брыкам і Шусяй — і сам пра ўсё даведаешся! Кніга адрасавана дзецям малодшага школьнага ўзросту.*

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Аллен Карр. Лёгкий способ бросить курить. — Москва: Добрая книга, 2008.
2. Самуил Маршак. Кошкин дом. — Москва: Астрель, 2012.
3. Владимир Короленко. Слепой музыкант. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
4. Борис Васильев. Завтра была война. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
5. Джон Грэй. Мужчины с Марса, женщины с Венеры. Как улучшить взаимоотношения с противоположным полом. — Москва: София, 2009.
6. Иван Тургенев. Ася. Первая любовь. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
7. Жюль Верн. Дети капитана Гранта. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
8. Полина Дашкова. Чеченская марионетка, или Продажные твари. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
9. Олеся Жукова. Первая книга малыша. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
10. Григорий Остер. Загадочные истории. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.

Маладзічок



# Как рождаются сказки

Александр ЮДИЦКИЙ

Светлеет на душе от встреч с интересными людьми. С Михаилом Туруновским я познакомился на восьмом литературном празднике "Лунінская восень-2011", который по традиции начинался в школе деревни Лунин и продолжился в Лунинецком городском доме культуры, где вручались литературные премии имени Владимира Колесника Брестского областного исполнительного комитета.

Мы беседовали в паузах фестиваля и в автобусе по пути домой о царском и советском времени, сегодняшней жизни в стране и мире. Обменялись телефонами, и вскоре я посетил уютную квартиру в девятиэтажке одного из спальных районов, где приобщился к доброй атмосфере тёплой семейной ауры. Увидел двух его дочерей — старшую Юлию и младшую Марию, которую сразу же ласково хотелось звать Машенькой.

## Для маленькой дочки

В короткой справке об авторе узнаёшь, что Михаил Валерьевич Туруновский родился в 1964 году в городе Казань. Окончил Казанский авиационный институт. С 2001 года живёт в Бресте. Свою первую книгу он посвящает своим любимым дочкам.

В этот же вечер, как говорится, "на сон грядущий, в поздний час" я перенёсся в счастливую пору детства… А вернулся в реальность, будто услышав ласковый голос мамы из того своего далёкого времени, когда прочитал последнюю строчку:

— Ну а теперь закрывай глазки и спи… Спокойной ночи, малышка!

Перевернём обложку с флажками России возле русского названия книги и Беларуси возле белорусского и сказочными персонажами на фоне открытых дверок сказочного теремка. Вместе прочитаем первые строки:

"Пелена вечерних сумерек уже сменилась тёмным покрывалом ночи, и в спальне воцарились покой и тишина.

Маленькая девочка легла в свою кроватку и, накрывшись пушистым, тёплым одеялом, приготовилась слушать вечернюю сказку.

— Папа, — обратилась она к отцу, сидящему около неё. — А правда, что в лесу, среди зверей, всегда побеждает самый сильный?

— Знаешь, — начал папа в ответ, — так бывает не всегда. И чаще, как среди лесных обитателей, так и в нашей человеческой жизни побеждает добрый и мудрый. Вот послушай, я как раз хотел рассказать тебе сегодня такую сказку…"

Эта большого формата книга увидела свет в ОАО "Брестская типография" в 2011 году с параллельными текстами на русском и белорусском языках. Перевод на белорусский Нины Конончук. Красочные цветные разнообразные большие и малые рисунки художника Влады Семёновой опоясывают или встраиваются в тексты, зрительно создавая среду, в которой живут её лесные герои.

Страница за страницей вслушивается дочка в жизнь зайчиков Умника и его младших братьев Пушистика, Ушастика и Хвостика, которые осиротели. Узнаёт она о добром Дедушке Медведе и его помощниках из животного и птичьего мира; вместе они оберегают и спасают зайчишек от злых волков и хитрой лисы Анфиски.

Все четыре сказки — "В сосновом Бору", "Вместе мы — большая сила", "В лесной школе", "Спасибо, доктор Дятел!" — объединяются в единое целое короткими диалогами доченьки с папой перед каждой из них. И вместе они приходят к выводу, что кроме доброты и мудрости ещё в жизни важно прислушиваться к полезным советам. Быть дружными и помогать друг другу. Уметь постоять за себя самому. Не поддаваться отчаянию, как бы ни было страшно. Заниматься спортом, быть сильными и никогда не болеть, а для этого вовремя лечиться и помогать выздороветь тем, кто уже заболел.

## О том, как писалась книга

…За чаем было интересно вместе с папой и Машенькой смотреть семейные фотографии и фотоколлаж генеалогического древа. В нём у папы по отцовской линии переплелись интернациональные исторические ветви русской офицерской семьи и татарские — по материнской. И белорусские ветви мамы Машеньки.

Узнал я и о том, как писалась сказка. Подумалось, что лучше самого автора об этом не скажешь:

*— Родители с раннего детства привили мне любовь к сказкам, а впоследствии и книге. Поэтому моё стремление передать эту любовь своим детям было вполне закономерным. На классических сказках выросла моя старшая дочь Юлия (ей сейчас 17 лет), исключением также не стала и младшая Мария. К моменту, когда Манюне (так называют её домашние) исполнилось четыре года, все известные сказки уже были прочитаны перед сном по нескольку раз. И тогда Маша, перед традиционным прочтением на ночь, потребовала новую сказку.*

*— Да где же я тебе сейчас её найду? — взмолился я. — Мы ведь с тобой прочитали всё, что у нас есть дома, да и в магазине больше купить нечего.*

*— Ну, тогда придумай сам, — продолжала настаивать Маша.*

*Немного поразмыслив, я поинтересовался тем, кого бы она хотела видеть в качестве персонажей, и, получив в ответ: "Зайчиков, которые живут в лесу", начал свой экспромт.*

*В следующий вечер, готовясь ко сну, я по обыкновению приготовил книги, но дочка потребовала продолжения истории. Это было неожиданным для меня, и я попросил её пересказать то, что она услышала от меня накануне. К моему удивлению, рассказанная мною сказка ей действительно запомнилась, и я продолжил сочинять в этот и последующие вечера перед сном.*

*Постепенно я начал ощущать неумолимое желание перенести изложение на бумагу и однажды, сев за компьютер,*




*набрал текст. Когда я понял, что сказка действительно получилась, я сделал на компьютере достаточно простые иллюстрации и, распечатав, собрал первую домашнюю книжку. Манюня была в восторге!*

*И вот, осознав окончательно, что это может стать действительно настоящей книгой, я отправляю материал в Казань своей маме, которая является литературно-техническим редактором по образованию, с просьбой оценить работу. Мама тут же поддержала мою идею создания детской книги сказок и практически сразу отнесла рукопись в издательство "Татиздат", где в этот же год вышел первый тираж книги. Через полтора года, в 2011 году, "Сказки для маленькой дочки" стала победителем конкурса "Книга года — 2009" в Республике Татарстан".*

А на "Лунінскай восені-2011" Михаилу Туруновскому вручена литературная премия имени В. А. Колесника Брестского облисполкома в номинации "Детская литература". Основная часть тиража книги в 3000 экземпляров поступила в школьные, районные, городские и областную библиотеки Брестчины для встречи с юными читателями и их родителями. Имеются эти книги и в книжных магазинах.

# Медвежонок спешит на помощь




Ольга НОРИНА

Взрослому и серьёзному писателю-фантасту Наталии Новаш не зазорно сочинить детскую сказку про медвежонка. Однажды в выходной в квартире медвежонка раздался неурочный звонок из редакции. На его имя пришло письмо, в котором второклассники из Берёзовки писали, что кто-то стучит из-подо льда замёрзшего озера, словно подаёт сигналы: три коротких, три длинных и опять три коротких. Взрослые запретили детям кататься по льду на коньках, сказали, что подо льдом бьёт ключ и лёд может треснуть. Мишутка сразу понял, что означают эти стуки — сигнал SOS. Вместе с другом Чапом он отправляется на место происшествия.

Историю про то, кто и какие интриги затеял против Цмока из Щучьего озера, рассказала Н. Новаш в литературном журнале для детей "Мишуткины сказки" в своём произведении "Мишутка и Цмок".

Сказка получилась вполне современной — Кощей в ней живёт в коттедже, ведьма Кикимора не всё время летает на метле, а в плохую погоду пользуется электричкой, общается с Горынычем по мобильнику, а когда садятся батарейки, просит Бабу Ягу прибегнуть к колдовству и послать сообщение с помощью волшебного зеркала. Только вот зря нечисть недооценила детей: они, мол, только и делают, что сидят за компьютером и играют в стрелялки, даже эсэмэску прочесть ленятся. Пока дети читать не разучились. И помогать тем, кто попал в беду, — тоже.

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК




**Жыгуноў, А. М. Баравічок на скутары / Алесь Жыгуноў; маст. Марыя Лось. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 24 с.**

"Раскажу табе, дачка, / Казку пра Баравічка, / Што на ранішняй зары / Нарадзіўся у бары", — так пачынае сваю казку ў вершах "Чорнагаловы" паэт Алесь Жыгуноў. Яе галоўны герой — Баравічок — вясёлы, цікаўны і знаходлівы. Ад бяздумных, неразважлівых учынкаў (у казцы "Чорнагаловы") ён прыходзіць да разумення таго, што бор трэба бараніць ад гора-грыбнікоў, якія губяць грыбніцу. І пачынае па-свойму змагацца з імі (казка "Баравічок на скутары"). У кніжку ўвайшлі і вершы для дзяцей. Яны раскажуць маленькім чытачам, дзе начуе апетыт, якую калыханку лепш спяваць зайку, чаму нельга збіраць мухаморы.



**Жаўранкі над полем / уклад. А. М. Бадак. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 431 с.**

Гэтае выданне — добры падарунак бацькам, дзядулям і бабулям, а таксама настаўнікам. Бо менавіта яны часта сутыкаюцца з пытаннем: што параіць пачытаць дзіцяці? Як правільна выбраць адпаведны твор з мноства дзіцячых апавяданняў? Цяпер гэтых пытанняў узнікаць не павінна. У новай кнізе выдавецтва "Мастацкая літаратура" сабраны найлепшыя апавяданні для дзяцей. Гэта творы як класікаў беларускай літаратуры: Янкі Брыля, Васіля Быкава, Івана Навуменкі, Івана Пташнікава, так і нашых сучаснікаў: Віктара Гардзея, Пятра Васючэнкі, Андрэя Федарэнкі і іншых выдатных творцаў.



**Новосельский, В. В. История Великого княжества Литовского от рождения до Люблинской унии (1236 — 1569), или 333 года борьбы за возвышение и выживание: Великие князья Кейстут и Ягайло. События в Золотой Орде и Северо-Восточной Руси (1377 — 1382) / В. В. Новосельский. — Минск: Элайда, 2012. — 294 с.**

Чарговая частка даследавання Валерыя Навасельскага апісвае дастаткова кароткі, але надзвычай насычаны падзеямі адрэзак гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Ён змяшчае ў сабе падзеі ад смерці Альгерда ў 1377 годзе да прыходу на княжанне Кейстута (1382 год). Усяго пяць год. Але за гэты час стары свет ВКЛ быў цалкам разбураны. І паміж нашчадкамі Альгерда пачалася барацьба за трон…



**Волков, А. М. Волшебник Изумрудного города / А. Волков; ил. И. Чукавиной, А. Чукавина. — Москва: Астрель, 2012. — 1085 с.**

Думаю, усе дзеці раней ці пазней перажываюць перыяд чытання-захаплення творамі Аляксандра Волкава. Казкі пра дзяўчынку Элі і яе сяброў Татошку, Страшылу, Жалезнага Дрывасека, якія выпраўляюцца ў дальняе падарожжа да ўсемагутнага Гудвіна, захапляюць сюжэтам і зачароўваюць незвычайнымі прыгодамі герояў. Памятаю, і я калісьці з трымценнем несла з бібліятэкі чарговую кнігу, а калі наступнай казкі ў кніжніцы не аказвалася і трэба было пачакаць колькі дзён, пакуль яе верне папярэдні чытач, — гэта было цэлай трагедыяй. Але цяпер трагедыі не здарыцца. Бо ў гэтым выданні пад адной вокладкай сабраны ўсе шэсць кніг, і важкі том абяцае шмат прыемных момантаў.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл.: 385-60-89.**

# Васькава пісьмо

## Апавяданне з нізкі "На цаліне"



Іван Канановіч

Раптоўна і непрыкметна для Валі Змітровіч адквітнелі малінавыя цюльпаны на пузатых сопках, змоўклі перазвоны каласоў на стэпавых палетках разам з маўклівымі сіратлівымі камбайнамі на рамонтнай стаянцы. Стэп спавіла туманамі і няспыннымі, надакучлівымі дажджамі нечаканая восень. Казачна-прыгожае наваколле, яшчэ зусім нядаўна пад бяздонным блакітам і зыркім сонцам, стала сумным і непрыглядным, як заплаканае дзіця.

Валя, шчупленькае нізкарослае дзяўчо з анёльскім тварыкам і кірпата-прыўзнятым носікам, упрыгожаным залацінкамі дробнага рабаціння, кожнага дня рупіцца на кухні — яна нязменная кухарка ў брыгадзе. Стане і любуецца, як хлопцы дружна ўплятаюць яе прысмакі — грэцкую кашу з тушонкай і хрумсткімі салёнымі гуркамі, пасля няспешна п'юць моцную гарбату з алюмініевых кубкаў, пацяшаюцца адзін з аднаго, заказваюць жартам ёй розныя заморскія далікатэсы — крэветкі, вустрыцы, анчоусы і безліч іншага. На што яна адказвае прыязнай усмешкай. Усё будзе зроблена па яе хаценні і сціплых стэпавых магчымасцях: боршч з конскай тушонкай — на першае, макароны ці бульба — на другое, на запівон — традыцыйны ягадны кісель ці гарбата. Прыкінула ў памяці ўсе свае запасы — і ахнула: ці хопіць да канца тыдня? Перадала праз брыгаднага вартаўніка Курэева заяўку на прадукты, ды нешта машына не прыходзіла — можа, шафёр пабаяўся ехаць па такой непагадзі. Таму спытала ў свайго памагатага, які месціўся на крайку стала і маленькімі глыткамі адхлёбваў чай з алюмініевага кубка, трымаючы аберуч:

— Ты, міл чалавек, перадаў у кантору нашу заяўку на харчы?

— Абязацельна перадал, Колку, шафёра, відал, абешчал прывесці, — паслужліва адрапартаваў памочнік, не выпускаючы з абдымкаў кубак — грэў азяблыя, загарэлыя да чарнаты пальцы.

Брыгадны важак Міхась Ігнатавіч спружыніста ўстаў, фарсіста прыгладзіў порсткія вусы з прыкметнай расадай сівізны, уставіўся строгім позіркам у Курэева:

— Тое, што заказаў харчы, добра, малайчына. Мы — на ворыва, а ты, браток, пшаніцу прыхавай ад дажджу — брызент ведаеш дзе.

— Адзін не справіцца, — заступіўся за вартаўніка Венька Ярчук, даўні сябрук яе любімага Ваські, які ўлетку з'ехаў у вайсковае вучылішча і быццам у ваду кануў — ніякай весткі.

Весяльчак-музыка, які ўлетку па выхадных рэзаў на баяне, а цаліннікі танчылі, хацеў застацца на стане і пабыць з Валяй. Пра яго заляцанні ўся брыгада ведала. Ігнатовіч строгім голасам перапыніў задуму:

— Шагам марш у загонку, план па ворыве выконваць. Браў на сябе павіннасць да маразоў узараць поўнне — старайся. А Курэеву і Валя паможа.

Ванька паслухмяна патэпаў да трактара. Ігнатовіч з юначай прыткасцю ўскочыў у кабіну, імкліва рвануўся ў захутаны туманам стэп. За ім следам весела затарахцелі іншыя маторы. Як заўжды, цішком устаў і падаўся на зерняток маўклівы Курэеў.

Валя чула кароткую размову брыгадзіра з Ярчуком, даўнім сябрам яе любімага Ваські, ад якога каторы месяц ніякай весткі, апроч адзінай тэлеграмы, што здаў уступныя экзамены і стаў курсантам ваенна-марскога вучылішча. З тае пары і чакае пісьма…

Валя рушыла на зерняток да сіратлівых, парослых шчыльнай зялёнай шчоткай буртоў пшаніцы, намалочанай цаліннікамі ўлетку. Ды не хапіла часу вывезці на элеватар: неспадзеўкі нахлынула дажджлівая восень.

Непадалёк, сагнуўшыся ў тры пагібелі, пад невялічкім навесам з кавалка паржавелай бляхі, сядзеў на кукішках захутаны ў брызентавы дажджавік яе незаменны памагаты і курадыміў туманны стэп самасадам з піпкі. Піпку з аблічам Мефістофеля падаравала Валя, як ездзілі ўлетку ў горад на кірмаш. Падарунак ён дужа ўпадабаў і радаваўся, як дзіця. З тае пары і не выпускае з рота.

Пакуль разгортвалі задубянелы ад дажджу брызент і накрывалі бурты, у Валі зайшліся ад холаду і пачалі балюча паколваць пальцы. Стылае паветра прабрала да касцей і загартаванага лютымі зімовымі маразамі яе памагатага. Ён схаваў рукі ў кішэні і мыльнуў азяблымі вуснамі:

— Пабежал палчатка браць, — і рухава засемяніў да вагончыкаў.

Праз хвіліну з'явіўся, як на парад, у новых белых спяцоўках, другую пару старанна адзеў на азябла-пасінелыя Валіны ручкі, прыгаворваючы:

— Пратайсь в палчатка. Бальной будэш — ніхто вкусні бешбармак не сварыт.

Валя нечакана прыгадала, як вадавоз аднойчы заказаў нацыянальную страву. Акурат бараніну ў сталоўку прывезлі. Яна пра такую страву і паняцця не мела. Давялося кансультавацца з Міхасём Ігнатавічам, жанатым з казашкай. Той і падзяліўся кулінарным сакрэтам. Бешбармак удаўся — хлопцы дружна ўплялі і наперабой расхвальвалі яго кулінарныя вартасці, а Курэеў двойчы папрасіў дабаўкі і ўдзячна бліскаў вугельчыкамі вачэй.

З той хвалёнай стравы ў іх сяброўства — не разлі вадой. Прывязе на параконцы бочку, напоўніць кухонныя бачкі, выпусціць у стэп кабыл і рупіцца на кухні: абірае бульбу, падкладвае ў пліту дровы, расстаўляе посуд. А ў вольную хвіліну сцішыцца пры цяпельцы, моўчкі дыміць піпкай і думае сваю адвечную думу. Не раз прывозіў з аула, дзе жыла яго сям'я, пачастункі, асабліва падчас Уразы — вяленае мяса, здобныя ляпёшкі, хмельна-церпкі кумыс. Напаўняў піялы і лагодна запрашаў:

— Кушай, Валюшка, куміс ошень палезні, балной не будэш…

Пакуль накрывалі бурты, ціха і непрыкметна падкраліся з пашы мокрыя ад дажджу жарэбныя кабылы, патрабавальна фыркнулі — падавай, гаспадар, харч. З пасохлага кавылю ў стэпе невялікі наедак.

Курэеў хуценька нагроб з бурта і насыпаў у карыта пшаніцы, вярнуўся пад навес, пахваліўся:

— Мой кабыл к весне жарабёнак прыведет, куміс будем делать.

Накрылі брызентам бурты і вярнуліся на кухню. Валя ўзялася гатаваць вячэру, Курэеў раскачагарыў саляркай буржуйку — у бляшаным коміне весела загуло полымя, дыхнула цяплом. Курэеў справіў свае памочніцкія абавязкі і прысеў адпачыць, расфайкаваў Мефістофеля.

Валя сагрэлася і згадала казачныя вясновыя і летнія дні. У нядзелю, узяўшыся за рукі, радасныя і шчаслівыя, бягуць яны з Васькам па бясконцай цюльпанавай прасторы. Твары пяшчотна лашчаць пераліўістыя хвалі паветра: то лагоднацёплага, то асвяжальна-бадзёрага, слухаюць залівістае шчабятанне птушак. З разбегу кідаліся ў бадзёрую плынь Ішыма. Адважваўся паплёхацца ў халаднаватай вадзе і іх заўзяты сябрук Шэры. Але нядоўга. Паплавае хвіліну і спешна вяслуе на сушу і кладзецца на посцілцы побач з імі — ахоўвае.

Пакуль яна лагодзілася пад шчодрым стэпавым сонцам, Васька ўвішна рваў у ахапак цюльпаны, якія хвалямі калыхаліся ад подыху ветру, шчодра абсыпаў яе з галавы да ног і радасна ўсміхаўся:

— Ты мая цюльпанавая каралева!

Загаралі ў абдымках бяздоннага стэпавага блакіту і любаваліся міражамі. У далечыні, дзе блакіт неба цалаваўся з расквечаным стэпам, паўставалі выразныя абрысы крыштальна-празрыстых замкаў, дзіўных гарадоў з незвычайнымі палацамі. Яны то павялічваліся, разлягаючыся ўшыркі і порстка ўзлятаючы ўвысь, то раптоўна знікалі і ў адначассе з'яўляліся зноў з неверагоднымі малюнкамі.

Як дзівосы на небасхіле на нейкі момант знікалі, Васька ўслых марыў:

— Можа, Валюша, і нам з табой пашчасціць пажыць у казачных замках, намаляваных шчодрымі міражамі.

Нешта падобнае ў думках пра будучыню ўяўлялася ім, калі ехалі сюды, на цаліну. На гэта спадзяюцца і бацькі, пытаючыся ў пісьмах пра іх дабрабыт. Для Ваські, разумела яна, яго мары здзейсніліся — стаў курсантам марскога вучылішча, і каторы месяц — ніякай весткі, быццам яны ніколі не зналіся. А яе ўся раскоша тут — панылы, сумны восеньскі стэп з дажджом і туманамі. Згадала каханага — і душа нядобра зашчымела, ад крыўды і бездапаможнасці выкаціліся слёзы.

Ухадзілася на кухні і заспяшалася прыбіраць вагончык — хлапцоўскае жытло: пасцелі не засцелены, на падлозе, каля буржуйкі — недакуркі, фанцікі, крошкі пячэння. Позірк запыніўся на дэрмацінавым футарале брыгаднага веселуна і музыкі Ярчука, Васькавага сябрука яшчэ па вучылішчы механізацыі. Яны і былі завадатарамі ўсёй групай ехаць сюды, на цаліну. А пачалося ўсё з тае знакамітай песні, якая грымела на ўсю краіну:

*Едут новосёлы по земле целинной,*
*Песня молодая далеко летит…*

Часцяком той іграў вечарамі ўлетку на дворыку, а хлопцы з дзяўчатамі танчылі і падпявалі. Валі здавалася, што ўсё гэта было ў дзіўным сне.

Баяна музыка не браў з тае пары, як скончылася лета і зачасцілі дажджы: то праліўныя, то імжыстыя з беспрасветнымі туманамі. Танцавальны пятачок на дворыку, аслоненым вагончыкамі, ператвараўся ў цягучае месіва. Дый сезонных танцорак не стала — пасля жніва раз'ехаліся. Засталася яна, Валя, адна ў чаканні вестак ад Ваські…

На століку музыкі — хлапцоўскі беспарадак: газеты ўперамешку з кашулямі, майкамі і парудзелымі ручнікамі. Узялася парадкаваць — на падлогу ўпаў канверт з да болю знаёмым Васькавым почыркам. Яе раптоўна апаліла гарачыня, кроў кіпенем запульсавала ў скронях, быццам каханага ўбачыла. Дрыготкімі пальцамі разгарнула ліст і пачала прагна чытаць: "Вучоба і служба ідуць сваім парадкам: на караблях і парусніках асвойваем марскую прафесію, у выхадныя даюць увальняльную, ходзім на танцы. Ад дзяўчат няма адбою, і яны не роўня нашым цалінніцам…"

Ад прачытанага нечаканая крыўда ў камяк сціснула душу — слёзы засланілі радкі, сплывалі на вусны — Валя адчувала іх гаркаватую салёнасць. Слёзы яе суняў блізкі гул гусенічнікаў — хлопцы вярталіся з ворыва.

Вячэрняя шэрань згусцілася ў непраглядны гудрон стэпавай ночы. Змахваючы на хаду слёзы, выбегла на дворык. Яе, як знарок, збіўшыся ў гурт, чакалі гаманкія хлопцы. Убачылі яе паніклую, заплаканую, загаманілі наперабой. Ігнатовіч камандзірскім тэмбрам спыніў шматгалоссе:

— Што, Валянціна, здарылася?

— Нічога. Во пачытайце, — гаротна ўсхліпнула яна.

Ігнатовіч хмура насупіў бровы, падсвяціў ліхтарыкам і прачытаў прозвішча на канверце, незадаволена прабубнеў:

— Здаецца, табе, Ярчук, адрасавана, чытай!

Той услых прачытаў даўні ліст. Ігнатовіч, каб лепш было чуваць, падступіў бліжэй і прымусіў перачытаць нанава: пільна ўслухоўваўся, мыляў вуснамі, быццам паўтараючы пра сябе напісанае, пасля торкнуў у пасланне пальцам:

— Во тута, гад печаны, абразіў нашых дзяўчат, нахапаўся гонару ў марскім вучылішчы, як збрадлівы сабака блох.

— Ошень плёх сказаль пра дэвушак Васка, — падтрымаў брыгадзіра маўклівы Курэеў. У знак згоды з гаспадаром крыху прыўзняў галаву з лап і сцішана гаўкнуў ваўкадаў.

Валя, як здань, прамільгнула на кухню, азвалася:

— Ідзіце вячэраць…

Закурадымленая ад саляркі лямпа цьмяна асвятляла сталоўку і панурыя, сумныя твары цаліннікаў. Не пазнаць было хлопцаў — уранні вясёлых, усмешлівых, жартаўлівых, а цяпер у адначассе сумных і паніклых. Вячэралі моўчкі, як на хаўтурах. Першы спружыніста ўстаў з-за стала Ігнатовіч, прыгладзіў порсткія вусы і вінавата паглядзеў на Валю:

— Мы, Валюшка, ад усёй брыгады начальніку вучылішча петыцыю саставім ды ягоную пісаніну прыкладзём, няхай антыхрысту хвост накруцяць. Мяркую, што з такімі героямі там не цацкаюцца.

Брагадзіраў намер раптоўна насцярожыў дзяўчыну — аж слёзы імгненна высахлі. Яна адважна запярэчыла:

— Не трэба дасылаць у вучылішча скаргу — ён так марыў стаць мараком.

Праз некалькі хвілін у прыцемак сталоўкі ўварвалася зыркае святло аўтамабільных фар. Валя схамянулася ад маркотных думак і зразумела, што прыехала, як і абяцаў Курэеў, прадуктовая машына. Вартаўнік з парога ўзнёсла адрапартаваў:

— Колка Кавыльскі прадукт прывёз, давай, Валушка, людэй груз снять!

Разняволены стэпавым жыццём, заўсёды вясёлы і жартаўлівы брыгадны шафёр Мікола Кавыльскі прышвартаваў свой славуты "ЗіС-5" упрытык да дзвярэй і няспешна адчыніў спрэс пашчапаны ў вайну кулямі і асколкамі задні борт, усмешліва распарадзіўся:

— Бярыце, хлопцы, пакуль я добры, а то суседзям замчу.

Пачалі разгрузку. Першым рухава скокнуў у кузаў Курэеў і пачаў выстаўляць скрынкі, каменціруючы на свой манер прывезенае:

— Лашадкіна, говядкіна тушёнька, барашкін гулаш, густой малако, хлеб, крупа, макароні, саланка — ошень карашо, свіной тушёнька, калбаса… не ошень.

— І, задаволены сваёй работай, скокнуў, як спартсмен, долу.

Мікола выняў скрутак газет з кабіны, разгарнуў іх і на дзіва сур'ёзным голасам звярнуўся да Валі:

— Табе, наша карміліца і паіліца, тут тэлеграма і пісьмо. Танцаваць прымушаць не буду — не той выпадак.

Валя імгненна прабегла кароткі радок тэлеграмы: "Тэрмінова прыязджай, захварэла маці". Ад прачытанага нядобра заныла ў грудзях, ажно дыханне пераняло і трывожна зазвінела ў скронях. Хуценька схавала Васькава пісьмо ў пярэднік, а тэлеграму ўручыла Ігнатовічу:

— Вырашай, брыгадзір, як мне быць.

Той, як заўсёды, спакойна-раважліва заключыў:

— Трэба, Валянціна, ехаць, кухню пакідай на Курэева, пакуль кухарку знойдзем. — І распарадзіўся: — Ты, Мікола, на станцыю яе падкінь, а я з'езджу ў бухгалтэрыю, адпачынак афармлю.

Валя пачала паспешліва збірацца ў дарогу: пераапранулася, склала ў валізку рэчы, асцярожна схавала за пазуху Васькава пісьмо і адчула, як ад доўгачаканага пасланне пабегла па целе лагоднае цяпло.

Паніклыя цаліннікі выструніліся шарэнгай перад машынай, гаротна глядзелі на Валю. А яна, стоячы на падножцы, памахала маленькай, да болю знаёмай кожнаму ручкай і на развітанне паслала адзіны на ўсіх пацалунак. "ЗіС-5" весела запеў слабенькім маторам сваю старэчую песню, натужна варухнуў коламі раскіслы чарназём, бліснуў на развітанне чырвоным, мокрым ад дажджу сіратлівым вокам катафота і знік у шэрым гудроне ночы.

# Сцэнограф — прафесія мужных жанчын

**Імя Ларысы Рулёвай, галоўнага мастака Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, у сферы айчыннай сцэнаграфіі — унікальнае. Гэта адзіная мастачка, якая ўсё сваё творчае жыццё мэтанакіравана і з вялікай любоўю займаецца дзіцячым тэатрам. Год 2012 асаблівы ў яе жыцці: напружаны, насычаны новай працай і да ўсяго — юбілейны.**

Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ



*Эскізы касцюмаў да спектакля "Бэмбі" паводле Ф. Зальтэна.*

Ларыса Рулёва цікава працуе ў кірунку як традыцыйнага, так і эксперыментальнага сучаснага тэатра. З ТЮГам яна пачала супрацоўнічаць у 1980 годзе пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Галоўны мастак гэтага тэатра — з 1993-га. Сярод яе лепшых пастановак — "Як гартавалася сталь" паводле М. Астроўскага (1981), "Нечаканыя госці" Э. Нізюрскага (1988), "Падонкі" Я. Главацкага (1989), "Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча (1995), "Шчаслівыя жабракі" К. Гоцы (1997), "Антыгона" паводле Ж. Ануя і Сафокла (1980), "Марныя намаганні кахання" (2005) паводле У. Шэкспіра. Чарадзейны свет з яркімі фарбамі стварыла мастачка ў пастаноўках казак: "Бэмбі" Ф. Зальтэна (1979), "Кот у ботах" паводле Ш. Перо (1981), "Рыгорка — ясная зорка" А. Вярцінскага (1986), "Ноч на Івана Купалу" Ю. Куліка (1995), "Голы кароль" Я. Шварца (1996), "Сястра мая Русалачка" Л. Разумоўскай (1999), "Дарога на Віфлієм" С. Кавалёва (2000), "Рыцар сонца" П. Васючэнкі (2002) ды іншых.

Сцэнаграфія і касцюмы Ларысы Рулёвай у кожным спектаклі — непаўторныя, яркія, самабытныя, заўсёды прыцягальныя і запамінальныя для гледача. Мастачка ніколі не забывае пра тое, у якім тэатры яна працуе: ТЮГ — не звычайная відовішчная ўстанова, а храм, які наведваюць нашы дзеці. Ад гэтага храма залежыць вельмі многае, хаця мы самі часам не надаём яму вялікага значэння. Шмат для каго ён проста месца, дзе можна бавіць час. Між тым, дзіцячы тэатр — своеасаблівая нябачная лесвіца паміж сённяшнім днём і будучыняй. Сцэнічнае мастацтва здатна ўражваць, здзіўляць, таямнічай мовай размаўляць з дзецьмі і нейкім невядомым спосабам прымушаць іх па-іншаму думаць, самаўдасканальвацца. Значыць, усё ў дзіцячым тэатры павінна быць выключнай вартасці: драматургія, рэжысура, акцёрскае выкананне і, безумоўна, сцэнаграфія — красамоўная і выразная, захапляльная для гледача.



*Касцюм Ваўчыхі да спектакля "Маўглі" паводле Р. Кіплінга.*

"Зімовыя сны Папялушкі" (на драматургічнай аснове Я. Шварца) — адна з шэрагу прыкметных работ Ларысы Рулёвай і ў эскізах касцюмаў, і ў афармленні сцэны. Разам з рэжысёрам Ю. Вутам мастачка імкнулася да традыцыйнага прачытання "Папялушкі" — каб казка на сцэне ТЮГа была адразу пазнавальная і зразумелая гледачу. Ларыса Рулёва па-майстэрску знітоўвае дэкарацыю і казачнае адзенне персанажаў у адно цэлае, аб'ядноўвае іх агульнай колеравай гамай і стылем загадкавай далёкай эпохі. На фоне яркага зорнага неба нечаканай іншапланетнай таямніцай выплывае срэбны шар, магчыма, ён і дарue галоўнай гераіні цудоўныя пераўтварэнні і ўзнёслае незямное каханне. Нібы з далёкага Сусвету — і маленькая цацачная карэта, якая з'яўляецца ля ног сціплай, нешматслоўнай і прывабнай Папялушкі і якая павінна даставіць на баль ужо зусім іншую, бліскучую і амаль недасягальную прыгожую незнаёмку.

У "Русалачцы" Х. К. Андэрсена (рэжысёр Н. Башава) сцэнограф з першай жа карціны спектакля разгортвае перад гледачом казачны падводны свет, у якім гнуткія сіне-зялёна-ружовыя водарасці ўзнімаюцца з дна акіяна і марскія жыхары імкнуцца ў таямнічую глыбіню. Сцэна, задрапіраваная празрыстым цюлем, стварае ўражанне вялікага акварыума, напоўненага дзівоснымі раслінамі і населенага прыгожымі русалкамі. Гэтыя прыцягальныя істоты апранутыя мастаком у ажурныя сукенкі. Іх уборы лёгкія, прылеглыя і толькі ля самых ног ператвараюцца ў веер, нагадваючы хвост казачна-міфалагічных стварэнняў. І ў кожнай з русалак свой парык: сіні, пяшчотна-зялёны, залаты.

Для "Русалачкі" Л. Рулёва стварыла арыгінальную калекцыю касцюмаў. Яны дэманструюцца, як на подыуме, у карціне "Баль прынцэс" дый уражваюць на працягу ўсяго спектакля.

Сцэнічная прастора "Апошняй дуэлі" М. Лявончыка і Н. Башавай (рэжысёр Н. Башава) эфектна, па-майстэрску выпісана Л. Рулёвай. Чорны і белы колеры становяцца галоўнымі ў спектаклі. У чорную прастору ўрываюцца, упрыгожваючы яе, белыя лісты-палотнішчы з чарнавікамі і малюнкамі Пушкіна. Амаль містычнымі з'яўляюцца ў гэтай прасторы чырвоныя кветкі на белай сукенцы гераіні, якая ненадоўга з'яўляецца і нібы патанае ў бездані. Прыцягвае карункавае белае акно па цэнтры сцэнічнай пляцоўкі, здатнае таямніча раскрывацца і знаёміць з новымі і новымі дзейнымі асобамі і здзіўляць нечакана пабудаванымі эпізодамі дзеяння. А яшчэ гледача ўражваюць з любоўю падабраныя і паказаныя "буйным планам" прыгожыя антыкварныя прадметы: маленькі столік з гадзіннікам, распісная адмысловая шкатулка, тонкі падсвечнік, пяро. І такімі ж праўдзівымі ды кранальнымі здаюцца нам чыстыя белыя аркушы і лісты, якія знаходзяцца побач.

У спектаклі "Каліф-башмачнік" паводле матываў усходніх казак (аўтар п'есы і рэжысёр С. Навуменка) полюсам прыцягнення зноў жа, як і ў іншых, становіцца вынаходлівае, маляўнічае мастацкае афармленне Л. Рулёвай. Тут мастак, здаецца, выкарыстоўвае ўсе прыёмы і штукарствы, якімі можна здзівіць гледача. Прыцягальныя абрысы ўсходняга горада, у якім дзейнічаюць галоўныя героі. Дзве карункавыя белыя альтанкі дапаўняюць жывапісны малюнак. У першай жа карціне стварaецца асаблівая таямнічасць і прынаднасць невядомага. Шматпластовыя празрыстыя тканіны з рэдкай вышыўкай і малюнкамі ўвесь час змяняюцца, пазначаючы ўсё новыя месцы дзеяння, утвараюць і шыкоўны палац Цара, і недасяжны будуар Прынцэсы, знітоўваюцца ў прыгожы бязважкі купал над прасторай сцэны… Касцюмы персанажаў прадуманыя да дробязей: расшытыя халаты, галаўныя ўборы, абутак, аксесуары.

Камедыя "Дурнічка" Лопэ дэ Вегі ў пастаноўцы С. Навуменкі ды сцэнаграфіі Л. Рулёвай вартая ўвагі гледача і тэатразнаўчага аналізу. Звярнуўшыся да гэтай п'есы, тэатр пацвердзіў здатнасць да сур'ёзнага эксперыменту і добры густ. Мастачка робіць сцэну эфектнай і прыцягальнай — праз падбор фарбаў і дакладнасць дэталяў. Чырвона-чорна-белыя колеры настройваюць гледача на відовішча незвычайнае і яркае. Лёгкія, амаль бязважкія калоны спрыяюць прыгажосці і дакладнай акрэсленасці мізансцэн. А персанажы спектакля эфектна паўстаюць у своеасаблівай галерэі, па-майстэрску створанай сцэнографам. Мастачка як заўсёды з любоўю стварае іх касцюмы, што відавочна ўплывае на вартасць усяго спектакля.

Гісторыя сцэнаграфіі Беларусі (ды і не толькі нашай краіны) склалася так, што ў гэтай прафесіі пераважаюць мастакі-мужчыны. Іх імёны — на афішах тэатра драматычнага, музычнага, лялечнага. Імя Ларысы Рулёвай годна ўпісваецца ў кампанію лепшых прадстаўнікоў нялёгкай прафесіі. І хто ведае: магчыма, прыклад гэтай паспяховай мастачкі спрыяе таму, што апошнім часам усё часцей прафесію сцэнографа абіраюць жанчыны. Хай жа іх не пакідае адданасць і любоў да тэатра, якую захоўвае ў сабе чароўная жанчына з мужным характарам і пяшчотным імем — Ларыса Рулёва.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі наладзіў першую ў сваіх сценах выстаўку айчыннага абстракцыянізму. Яе аснову склалі творы са збору музея, што адлюстравалі разнастайнасць тэндэнцый у развіцці беларускага абстрактнага мастацтва ад 1920-х гадоў да сённяшняга дня. Экспанаваліся работы 27 аўтараў: Людмілы Русавай, Галіны Васільевай, Зоі Літвінавай, Ігара Кашкурэвіча, Уладзіміра Правідохіна, Міколы Бушчыка, Кастуся Селіханава, Максіма Пятруля ды іншых. Пасля выстаўкі калекцыя НММ папоўнілася сучаснымі творамі, якія экспаненты падаравалі музею.

Падзівіцца на майстэрства еўрапейскіх бранзоўшчыкаў, скульптараў, эмальераў ды мэблеўкоў запрашаюць арганізатары выстаўкі "Нязменныя сведкі часу" ў Гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў. Гэтыя "нязменныя сведкі" — гадзіннікі XVIII — XX стст. Настольныя, насценныя і камінныя, наручныя і кішэнныя, разнастайныя па форме, па спосабе і стылі аздаблення, яны ўяўляюць сабою адметны від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Спачатку выстаўка гасцявала ў Музеі бурштыну Калінінграда (Расія) і вось дэманструецца "дома". Ды гэта толькі частка багатай калекцыі гадзіннікаў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Адмысловыя экзэмпляры з музейнага збору "сведак часу" ёсць у пастаянных экспазіцыях цэнтральнай часткі палаца і яго вежы.

Тры зоркі беларускага мастацтва атрымалі высокія знакі афіцыйнага прызнання сваіх творчых заслуг. Гэта салісткі НАВТ оперы і балета Беларусі, вядучыя майстры харэаграфічнай сцэны Вольга Гайко і Людміла Кудраўцава, ганараваны званнем "Народны артыст Рэспублікі Беларусь". А таксама першая скрыпка нашага Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра, яго канцэртмайстар Юлія Стэфановіч, адзначаная званнем заслужанай артысткі Беларусі.



*Народная артыстка Беларусі Людміла Кудраўцава ў партыі Сільфіды.*

Мінула 90 гадоў з дня нараджэння заслужанага артыста БССР Мікалая Пало. Ураджэнец Краснаярскага краю, ён вучыўся ў Ленінградскім тэатральным інстытуце, працаваў у тэатрах Расіі, а лёс прывёў яго ў Беларусь. З 1963 па 2006 год М. Пало праслужыў на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра і сыграў нямала выразных роляў. Сярод іх — Гастрыт у "Вечары" А. Дударава, Сорын у чэхаўскай "Чайцы", Карандышаў у "Беспасажніцы" А. Астроўскага. Ведаюць яго як празаіка і драматурга. "Легенда пра песню непраспяваную", створаная М. Пало ў садружнасці з рэжысёрам І. Паповым, ставілася ў абласным тэатры.

# Разбураць стэрэатыпы

**Рэжысёр Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Таццяна Траяновіч у 1995 годзе скончыла з адзнакай філфак БДУ (спецыялізацыя "Філолаг і выкладчык беларускай мовы і літаратуры"), у 2004-м — тэатральны факультэт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Рыгора Баравіка. Затым займалася ў асістэнтуры-стажыроўцы пры кафедры рэжысуры БДАМ. Распрацоўвае навуковую тэму "Прастора і час у сістэме выяўленчых сродкаў сучаснага спектакля", мае друкаваныя працы, з'яўляецца аўтарам навучальных праграм. У 2007 г. на сцэне Тэатра-студыі кінаакцёра рэалізавала грант спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі, паставіўшы п'есу А. Астроўскага "На кожнага мудраца даволі прастасці".**



*Сцэна са спектакля "№ 13". Павел Харланчук і Арцём Давідовіч.*

Таццяна ІЛЬІНА

**— Таццяна, як прыйшлі вы ў сваю прафесію?**

— Мае родзічы ніякага дачынення да тэатра не мелі, мама і тата працавалі інжынерамі. Але ў дзяцінстве матуля вадзіла мяне ў тэатр часта. Маё даволі позняе захапленне ім стала для бацькоў шокам. Мама доўга не магла пагадзіцца з рашэннем атрымаць другую спецыяльнасць. Да таго ж у мяне на той час ужо была свая сям'я, дзіця. І мама шчыра меркавала, што я не паступлю. Тата ж да ўсяго ставіўся з гумарам. Калі пасля заканчэння філфака БДУ я атрымала адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, весела запытаўся:



*Таццяна Траяновіч.*

"Здаецца, у медыцынскім ты яшчэ не вучылася. Можа, і туды паступіць паспрабуеш?"

**— Вы працуеце і з вядомымі артыстамі тэатра і кіно, і з маладымі акцёрамі. З кім лягчэй знайсці агульную мову?**

— Часта масціты артыст робіць тое, да чаго ён прызвычаіўся, дзякуючы чаму ўжо меў поспех. І яму здаецца гэта правільным, ён ужо знайшоў каронную "фішку". Часам ён ці яна настойваюць менавіта на такім выкананні ролі. Гэта зразумела: вядомы артыст не дапускае рызыкі, якая можа прывесці да правалу. Але ж бываюць моманты, калі яго трэба пераканаць паспрабаваць іншую манеру выканання, давесці, што менавіта гэткім чынам ён стане цікавейшым і запамінальным. З маладымі — іншыя праблемы. Ёсць прага да працы, эксперыменту. Але падводзіць недахоп акцёрскай тэхнікі. Наогул жа ўсё залежыць не ад узросту чалавека, а ад таго, адна ў нас з ім "група крыві" ці не. Калі мы з артыстам аднолькава глядзім на тэатр, працуем у адным кірунку, дык творчы тандэм будзе. А калі ў нас супрацьлеглыя погляды на пэўныя рэчы, дык яшчэ не вядома, складуцца ўзаемаадносіны ці не. Без паразумення паміж рэжысёрам і акцёрам спектакль паставіць немагчыма. Калі артыст не давярае рэжысёру і сумняваецца ў ім, то, як правіла, не атрымліваецца нічога. Пытанне даверу для мяне першае і самае галоўнае. Таму мне лягчэй працаваць з тымі людзьмі, з якімі я працавала ўжо і ў нас былі агульныя перамогі, удалыя спектаклі, узаемны давер.

**— Наколькі вы дазваляеце акцёрам адчуць свабоду на сцэне?**

— Спачатку ставіцца задача і існуе пэўны "калідор", у межах якога артыст можа імправізаваць, але за іх выходзіць не павінен. Інакш атрымаецца або скажэнне малюнка ролі, або напаўненне яе іншым сэнсам. Калі ідзе чытка і разбор роляў — калі ласка, якія заўгодна прапановы я ўважліва, з павагай выслухаю. Падчас рэпетыцыі даю шмат волі. Апрабоўваецца шмат розных варыянтаў. Але чым бліжэй прэм'ера, тым больш жорсткімі становяцца ўмовы. І тады фраза кшталту: "Я вырашыла паспрабаваць" — непрымальная. Спрабаваць трэба было тады, калі не было рызыкі парушыць цэласнасць спектакля.

**— Пастаўленая вамі камедыя Рэя Куні "№ 13" удзельнічала ў конкурсе на Першую Нацыянальную тэатральную прэмію. Выканаўца галоўнай ролі ў гэтым спектаклі Павел Харланчук перамог у намінацыі "Лепшая мужчынская роля". Хаця прэм'ера пастаноўкі адбылася ў маі 2010 года, "№ 13" і да гэтага часу збірае поўную залу. Кожны раз — смех і шквал апладысментаў. У чым сакрэт?**

— Думаю, у прафесіяналізме пастановачнай групы і акцёрскага ансамбля. Да таго ж, камедыя — найбольш запатрабаваны сучасным гледачом жанр.

**— Затым вы паставілі "Сродак Макропуласа" Карала Чапека. Чым абумоўлены такі выбар?**

— Хацелася адысці ад стэрэатыпу і пасля камедыі паставіць абсалютна супрацьлеглы спектакль, панікліва і шчыры. І нездарма была абрана такая п'еса — глыбокая, сур'ёзная, філасофская. Яна даволі рэдка ставіцца, няма ў яе такога багатага сцэнічнага жыцця, як, напрыклад, у п'ес Астроўскага. Вартая асэнсавання ў гэтым творы тэма жыцця і смерці, бо так ці інакш мы прыходзім да той узроставай мяжы, калі пачынаем задаваць сабе пытанні: што я зрабіў у жыцці, чаго дасягнуў? Вядома, усім хочацца нейкім чынам падоўжыць сваё жыццё. Але часам нават не дні, а гады праходзяць, не пабаюся такога жорсткага слова, бяздарна. Вось і хацелася звярнуць на гэта ўвагу гледачоў, бо справа не ў колькасці пражытых дзён, а ў іх якасці.

**— Ці плануеце прэм'еры на бліжэйшы час?**

— Распачынаю працу ў межах камерцыйнага тэатральнага праекта "Тры Т фармаТ" пры фінансавай падтрымцы "БПС-Банка". Спадзяюся пацешыць гледачоў добрым спектаклем.

**— Магчыма, ёсць задума тэлепраекта ці фільма?**

— Я за прафесіяналізм. Каб здымаць кіно, трэба мець адпаведную адукацыю. Зразумела, што законы рэжысуры агульныя. Але спецыялізацыя існуе нездарма. Я выкладала на курсе кінарэжысёра Аляксандра Яфрэмава, але здымаць фільмы не збіраюся. Што датычыць новых творчых праектаў, дык на сустрэчы Прэзідэнта Беларусі з прадстаўнікамі творчай моладзі я выступіла з ініцыятывай стварэння цэнтра эксперыментальнай рэжысуры пад умоўнай назвай "Адкрытая пляцоўка". Атрымала падтрымку Міністэрства культуры і згоду рэктара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіла Баразны, каб цэнтр адкрыўся на базе БДАМ. Цяпер у акадэміі працягваецца рамонт, а з новага сезона будзе магчымасць ажыццявіць праект. На жаль, эксперыментальнага тэатральнага мастацтва ў нас амаль няма, што перашкаджае развіццю айчыннага тэатра наогул і маладой рэжысуры ў прыватнасці. Адсутнасць эксперыментальнага напрамку — вялікая праблема. Ёсць касавыя праекты, якія сябе акупляюць. Натуральна, што яны нясуць у сабе пэўны забаўляльны элемент, які і спрыяе самаакупнасці. Але ёсць іншыя рэчы, якія рухаюць наперад і мастацтва, і асобу, развіваючы нашу культуру. Тут неабходна і фінансаванне, і падтрымка. І далёка не заўсёды на гэта патрабуюцца вялікія грошы.

**— Як вы ставіцеся да сцвярджэння, што рэжысёр — не жаночая прафесія?**

— Абсалютна з гэтым згодная. Рэжысура ўвогуле складаная справа. Некаторыя ўспрымаюць тэатр як вечнае свята. Так, у нас свята кожны дзень, увесь час весела і выдатная творчая атмасфера. Але мала хто здагадваецца, якая за гэтым цяжкая праца: яе можна параўнаць са складанай фізічнай. А часам ахоплівае і каласальная псіхічная стомленасць. Таму, мабыць, і лічыцца, што рэжысёр — не жаночая прафесія. На шчасце альбо на жаль, я нічым іншым займацца не магу. Праўда, яшчэ выкладаю: акцёрскае майстэрства і рэжысуру ў БДАМ і Інстытуце сучасных ведаў імя Шырокава. Рэжысура для мяне — гэта нават не прафесія, хаця я ўвесь час кажу пра прафесіяналізм, а лад жыцця. Той лад, які мяне цалкам задавальняе.

**— Вы ходзіце на спектаклі сваіх калег?**

— Так, вядома, хаджу. У кожнага рэжысёра можна знайсці выдатны спектакль, які пакінуў след у душы. Ёсць спектаклі, якія вельмі спадабаліся і паўплывалі на далейшае маё развіццё і станаўленне. З беларускіх — самы магутны, на які хадзіла пяць разоў, — "Тутэйшыя" ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна. Яшчэ ўразіў спектакль Аляксандра Гарцуева "Крывавая Мэры".

**— Ці ёсць у вас правілы жыцця?**

— Я жыву паводле сваіх унутраных правіл, і калі яны не супадаюць з агульнапрынятымі, то можа падацца, што я іду насуперак усяму. Бывае, часам кідаюся з крайнасці ў крайнасць. Напэўна, кіруюся прынцыпам — разбураць стэрэатыпы ў сабе і ў іншых. Насамрэч жа надзейныя правілы праясняюць жыццё — пазбаўляюць ад залішніх ваганняў, калі трэба хутка вызначыцца ў складанай сітуацыі. А вось наконт забабонаў… У нумары майго хатняга тэлефона ёсць лічба "13". Выбіраючы мабільны нумар, я шукала такое спалучэнне лічбаў, каб ён максімальна нагадваў хатні. Пасля пастаноўкі камедыі Рэя Куні "№ 13", якая атрымалася вельмі ўдалай, з вялікай павагай стаўлюся да гэтай лічбы. Яна для мяне стала шчаслівай. Перад прэм'ерай лічу за лепшае інтэрв'ю не даваць, і мне не падабаецца, калі на рэпетыцыях робяць фотаздымкі. Лепш не спакушаць лёс.



*Дзея са спектакля "На кожнага мудраца даволі прастасці". Анжэла Караблёва і Алеся Пухавая.*

**Да свята Дзень беларускага пісьменства, якое адзначаецца штогод у першую нядзелю верасня і сёлета пройдзе на Віцебшчыне ў Глыбокім, традыцыйна прымеркаваны і міжнародны "круглы стол".**

**Тэма сёлетняй размовы — "Пісьменнік. Кніга. Час". Плануецца, што да яе далучацца госці з Расіі, Сербіі, Чарнагорыі, Таджыкістана, Азербайджана і Казахстана. "ЛіМ" прапануе сваім чытачам пазнаёміцца з творчасцю сучасных замежных аўтараў.**

Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ

# Параскева: крыж у пустыні

## *(Урыўкі з рамана)*



**Шырокавядомая сербская пісьменніца Ліляна Хаб'янавіч-Джуравіч у беларускую літаратурную прастору ўляцела, можна сказаць, як маланка. Адбылося гэта дзякуючы яе незвычайнаму твору — "Параскева: Крыж у пустыні". Яго надрукаваў па частках часопіс "Полымя", у фрагменце — "ЛіМ" і часопіс "Праваслаўе", а затым Мінскі сабор святых Пятра і Паўла выдаў асобнай кнігай. Сёння мы прапануем яшчэ два ўрыўкі з неардынарнага рамана — жыція прападобнай Параскевы Сербскай.**

### Яўфімій, епіскап Мадзіцкі, брат Петканы

Дзівоснай была мая сястра Петкана! Галубка Гасподняя! З самага маленства жыла яна паводле закону Божага, як быццам такую навучанасць прынесла з сабою на гэты свет. Яна адорвала бедных і тады, калі тыя не прасілі, заўжды знаходзіла добрае слова для гаротных — да кожнага выказвала спагаду, калі не чым іншым, то хоць слязою.

Сваю хваробу яна зносіла ціхамірна, як быццам ведала пра яе больш за слаўных лекараў Усходняга царства. "Пройдзе", — казала. І гэта ж яна, сама не могучы рухацца з-за слепаты, суцяшала і падбадзёрвала нашу спакутаваную маці.

Ужо ў раннім дзявоцтве яна адчула, як слёзы малітвы становяцца слязьмі любові — у тыя цудоўныя моманты, калі душа цалкам аддаецца Госпаду. Хоць доўга, доўга яна гэтага не ўсведамляла. І я таксама.

Дзівоснай была мая сястра Петкана! Часам здавалася мне зусім звычайнай дзяўчынкай, а часам нагадвала істоту з іншага свету, хіба што ў тленнае цела змешчаную. Цяпер я ведаю, што яна заўжды была аднолькавай. Толькі я не здольны быў бачыць, якая яна ў сапраўднасці. Бо глядзеў часцей за ўсё не тымі вачыма. Проста як старэйшы брат.

А бацька з маці гэтага тым больш не бачылі! Бог сапраўды міласцівы да іх, таму што не даў ім зразумець, якую дачку яны атрымалі і дзеля чаго. Не даў ім Гасподзь гэтага разумення і такім чынам ахіліў.

Яны, бадай, памяталі пра Іаакіма і Анну, пра тое, як з'явілася позняе дзіця ў Сары, пра тое, што ў старасці ўжо радаваліся Елізавета і Захарыя. Аднак у сціпласці сваёй ды богабаязнасці і не думалі нават параўноўваць сябе з імі. А тым больш — прызначанае ім і іх дзецям шукаць у тым, што было прызначана гэтым абраннікам Божым. Сціпласць і пакорлівасць ахавала іх ад пакут.

"Думаеце, выпадкова нарадзілася яна ў пятніцу і атрымала імя па дні крыжовых пакут Ісуса?" — мог я задаць ім пытанне. Але не задаваў. Каб іх не напалохаць.

Справа ў тым, што нават самыя набожныя бацькі сваім дзецям не хочуць долі поснікаў і пустэльнікаў, якія гараць жаданнем жыць толькі ў Госпадзе і дзеля Госпада.

Я ведаў, куды вядзе шлях Петканы. Гэтксама, як ведаў і сваю мэту. Я здагадваўся, наколькі цяжка ёй жыць сярод сваіх як чужая. А яна была такой далікатнай і цярплівай! Падобна да тых, хто значна больш ведае і разумее. Нібыта дзесьці ў глыбіні душы сваёй адчувала: усё, што прыносіць нам боль і пакуты — гэта толькі чарговае выпрабаванне, якое мы павінны прайсці, набліжаючыся да Бога.

Як яна даглядала нашу маці! Чуткі пра яе самаахвярнасць у гэтым і пра любоў дайшлі нават да нас — тых, якія прысвяцілі сваё жыццё малітвам і падзвіжніцтву ў Студыцкім манастыры.

Сваім адыходам у лепшы свет маці пакінула ёй расчыненыя дзверы: ідзі туды, куды павінна. І яна пайшла. "Ідзі, усё, што маеш, прадай і раздай бедным; і будзеш мець скарбы на небе; і прыходзь, следуй за Мною, узяўшы свой крыж", — сказаў Ісус юнаку з краёў іудзейскіх, па той бок Іардана. Якраз так зрабіла мая сястра, якая голас Усявышняга ў сабе насіла. І яна прыйшла ў Царград, прагнучы падзвіжніцкага жыцця дзеля Хрыста.

Чаму яна не пайшла адразу ў манастыр, не ведаю. Мы ніколі пра гэта не гаварылі. А я часта задаваў сабе пытанне, што ёй Богам наканавана. Вагаўся, што ёй раіць, куды яе скіраваць, калі папросіць парады. Я адчуваў, што манастыр — не месца для яе, галубкі Гасподняй. У манастырах, асабліва жаночых, разам з адданымі і шчырымі шукальніцамі Бога жылі таксама і прымусам зняволеныя, пакараныя, і выгнанніцы, пакінутыя жонкі, звергнутыя царыцы, адвергнутыя царэўны. Тыя, у каго браты падманам адабралі бацькоўскую маёмасць, і тыя, што ў дзявоцтве спатыкнуліся, — чые таямніцы маглі заплямiць гонар сям'і. Пасля пастрыгу жылі яны ў келлях і пастоў прытрымліваліся, аднак бывала, што і зняважалі Бога, калі не пазбаўляліся прагі свецкага жыцця і помсты. З-за гэтага манастыры маглі быць і цэнтрамі змоў, і асяродкамі плётак, і ачагамі ліха. Яны былі дамамі плачу, але не абавязкова плачу, звернутага да Бога. Ну а такія манастыры былі не для маёй чыстай і да Бога памкнёнай сястры. Таму я і турбаваўся: што сказаць ёй, калі папросіць парады? І калі не ў манастыр, то куды яе скіраваць?

Але яна парад не прасіла ў мяне. Бог пакліпаціўся пра ўсё. Вёў яе крок за крокам, павольна і асцярожна, каб не напалохаць, — і вывеў на шлях, прайсці па якім ёй было наканавана.

### Сімяон Богабаязны, старац Студыцкага манастыра

Слава Богу, Які праяўляе вялікую міласць да тых, хто любіць Яго!

Як гэта мне, грэшнаму рабу Божаму, расказваць пра Параскеву? Хоць я і быў яе духаўнікам, цяпер лічу сябе недастойным штосьці пра яе гаварыць. Аднак нешта скажу, каб людзі, якія Бога шукаюць і да Бога імкнуцца, з аповеда пра гэтую роўнаангельную дзеву маглі настаўленне атрымаць. А мне Бог няхай дапаможа знайсці патрэбныя словы і выкласці праўду, якой яна была. І не дай Гасподзь, каб нешта засланяла святло гэтай праўды.

У той час, калі імкненне жыць толькі ў Хрысце і дзеля Хрыста прывяло яе ў Царград, наш Студыцкі манастыр быў адным з многіх. Але стаў шырока вядомы, і да нас пачало сцякацца многа хрысціян. Брацтва склалася шматлікае, а ў ім нямала падзвіжнікаў, якія адракліся ад розных спакус мірскога жыцця. З любоўю да Хрыста яны праходзілі ўсе манастырскія паслушанні, удасканальваючыся. Трымаліся правілаў, якія да іх выпрацавалі дасканалыя манахі, і не забываліся на вучэнне Хрыстова. Незалежна ад таго, ці стаялі, ці ляжалі, ці рабілі нешта рукамі, ці елі — ніколі не пераставалі згадваць словы Божыя і славіць Бога. "Праца ў руках, а імя Божае на вуснах" — такі быў наш закон.

Быў сярод нас іераманах Яўфімій, брат Параскевы. Адораны і вельмі здольны малады чалавек, які ў кароткі час засвоіў прамудрасць Свяшчэннага Пісання, спазнаў нікчэмнасць і мінучасць зямных рэчаў, а вечнасць нябесных. Ён паўтараў словы Усявышняга: "Будзьце і вы дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны!" І жыў ён так, каб дасягнуць таго, што лічыў галоўнай мэтаю свайго існавання.

Яўфімій прывёў да мяне Параскеву. Калі яны зайшлі ўдваіх пасля богаслужэння, сэрца маё затрымцела ад удзячнасці Богу, што так хораша, як толькі Ён можа, спалучыў іх, даўшы адно другому на радасць.

Я пазнаў яе, як толькі ўбачыў. Гасподзь, па міласці Сваёй, у відзенні аб'явіў яе прыход.

Маё жыццё прайшло ў веры і сярод веруючых. Многія прыходзілі да мяне шукаць духоўнай падтрымкі і рабілі ўсё, што дапамагала наблізіць душу да Бога. Але такую, як яна, істоту я ведаў яшчэ адну толькі. Гэта юнак, які таксама аздобіў маё жыццё, обжываючыся бліз мяне. Ён будзе праслаўлены як Сімяон Новы Багаслоў — самы значны паэт, багаслоў і містык візантыйскага свету. Таму і кажу: Слава Богу, Які праяўляе вялікую міласць да тых, хто любіць Яго!

Але вярнуся да Параскевы.

Яна пасялілася ў Іраклійскім прадмесці, пры царкве Пакрову Прасвятой Багародзіцы, і там прабыла пяць гадоў. Служка Божая, яна працавала ў лячэбніцы для беднякоў і дапамагала ім, як толькі магла. Была адданай служэнню Богу і людзям. Сціплая і пакорлівая, яна размаўляла ціха, любасна. У адносінах з людзьмі была маўклівая, але душа яе бязупынна з Госпадам размаўляла. Штодня і шточасу яна знаходзіла новую нагоду Яго велічаць. Бачыла Госпада ва ўсім і ва ўсіх, што рэдка каму дадзена.

Рэгулярна прыходзіла да мяне пагаварыць і павучыцца. Яна прагла Бога і ўсіх ведаў пра Яго. Радавала мяне мудрасцю сваіх пытанняў і развагаў, шчырым жаданнем ісціны. І часам здавалася, што мне яе няма чаму вучыць, што яна ўжо ведае ўсё. Прычым гэта веды жывыя.

Яна ведала, што шлях да Бога — праз пакаянную споведзь, пост, малітву, міласэрнасць. Яна па-сапраўднаму пасцілася. Малілася за спасенне душы сваёй, а таксама іншых. На споведзі мне казала: "Чалавек павінен сам сабе не прабачаць грахі, калі хоча, каб яму Бог прабачыў. І павінен сам сябе асуджаць, калі хоча, каб яго Бог не асудзіў. Хто сам сабе прабачае, таму Бог не прабачыць!" І плакала, просячы накіраваць яе, каб яшчэ больш дабрадзеямі ўпрыгожвацца. Бо і грахі, і дабрадзецелі множацца. Грэх з грахом спалучаецца. А дабрадзецель з дабрадзецеллю. Гардыня і ленасць суправаджаюцца гневам. Сэрбралюбнасць выклікае зайздрасць. Краdзеж спалучаны з падманам. Самахвальству спадарожнічае паклёп. А вось дабрадзецель працягваецца дабрадзецеллю. Як у лесвіцы святога Іаанна — паступова да Царства Нябеснага.

Усё гэта яна ведала, прычым не з кніг, як многія. Не. Яна гэтыя веды насіла ў сабе як пачуццё. Ёй было вядома і найважнейшае: "Калі я слабы, тады дужы!" — як пісаў карынфянам апостал Павел. Калі чалавек усведамляе нікчэмнасць сваю і ўсемагутнасць Божую і калі аддае сябе на міласць Богу, тады ён дужы. Бо яго міласць Божая вядзе.

Я ведаў многія дзівосныя душы, якія шматлікім пакутам падвяргаліся і ўсё жыццё праводзілі, навучаючыся, як адолець тую ці іншую заганy, каб можна было з чыстым сэрцам сказаць: "У мяне, Госпадзі, няма іншых жаданняў, акрамя як выконваць Твае жаданні!" І Параскева гэта ведала.

Між тым яна з жалем прызнавалася, што не ўпэўнена, ці па-сапраўднаму дагаджае Богу. І ўвесь час пыталася ў мяне, што яшчэ павінна зрабіць, каб Яму дагадзіць. Але ныбта і здагадвалася, што я адкажу. А мой адказ быў такі: "Даведаешся, калі прыйдзе час". Я ведаў, калі той час надыдзе і які ён будзе. Але не смеў ёй казаць пра гэта раней, чым азавецца Той, Каго яна даўно прыняла як Адзінага ў сваёй веры, любові і надзеі.

З часам мянялася яе аблічча. Твары, якія часта абліваюцца слязьмі гневу і жалю, хутка старэюць. А яе слёзы былі слязьмі пакаяння, слязьмі любові да Госпада, Маці Яго і ўсіх святых. Такія слёзы — чыстыя не толькі ўнутрана, але і вонкава. Таму твар яеззяў, станавіўся яшчэ далікатнейшым. І яна прыгажэла. Гэта нават я, старац, заўважаў.

Мабыць, з-за гэтай асаблівай прыгажосці многія нашы жанчыны ставіліся да яе непрыхільна: агаворвалі, адзываліся варожа, з насмешлівай зларадасцю. Марна я іх пераконваў, што яна — роўнаангельная душа. Гэта, як быццам, яшчэ больш іх злавала.

Хто не жадае верыць у дабро, таму ніякія словы не дапамагаюць. Сэрца, напоўненае зайздрасцю, падобна да каменя. Розум, захмураны самалюбствам і зласлівасцю, не можа асвятліць нават усё нябеснае святло. Таму намаганні мае заставаліся марнымі.

Калі ж Параскева сабралася на Святую Зямлю, я ведаў, што назад яна ўжо не вернецца. Ведаў, куды яна адпраўляецца, дзе будзе падвізацца, якія пакуты прыме, каб да Бога наблізіцца і годна стаць перад Ім.

Калі яна папрасіла майго благаслаўлення, я засаромеўся, што гэтага не варты. Як саромеюся і цяпер, пра яе расказваючы. Няхай Гасподзь дасць, каб я расказаў усё так, як Ён жадае. І няхай прабачыць, калі я ў нечым памыліўся.

А яна, прападобная Параскева, няхай памоліцца за мяне грэшнага.

*Пераклад Івана Чароты*

# Абраннік роднага слова

## Памяці Янкі Саламевіча

**Ад радаслоўнага дрэва беларускай навукі і культуры, роднага беларускага пісьменства адпала, на жаль, яшчэ адна важкая галіна: 31 ліпеня 2012 г. на 74-м годзе памёр Янка (Іван Уладзіміравіч) Саламевіч. Нарадзіўся ён 29 кастрычніка 1938 г. на Слонімшчыне, у вёсцы Малая Кракотка. Выявіў сябе ў розных сферах гуманітарнай навукі і слоўнай творчасці, але найчасцей яго называлі энцыклапедыстам.**

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар БДУ**

Слова "энцыклапедыст" у сучаснай беларускай мове мае два асноўныя значэнні. Па-першае, так называюць чалавека, які валодае шырокімі і глыбокімі разнастайнымі ведамі. Па-другое, гэта стваральнік нацыянальных энцыклапедычных выданняў, прадаўжальнік справы перадавых мысляроў, аб'яднаных вакол "Энцыклапедыі", што ў 1751 — 1780 гг. выдавалі французы Дзідро і д'Аламбер.

Янка Саламевіч цалкам адпавядае гэтым двум значэнням названай лексемы. Мяркуйце самі. 36 гадоў, большую палову свайго жыцця, ён аддаў працы ў "Беларускай Энцыклапедыі". Прыйшоў туды на пасаду старшага навуковага рэдактара ў 1968 годзе, у першы год яе заснавання, яшчэ тады, калі яна і імя Петруся Броўкі, свайго стваральніка і першага галоўнага рэдактара, не насіла, і на сваім рахунку не мела аніводнага выдання. Маючы неблагі досвед рэдактарскай працы ў выдавецтве, якое сёння называецца "Вышэйшая школа" (1962 — 1964), ён ад старшага рэдактара БелСЭ хутка дарос да вядучага рэдактара, да загадчыка навуковай рэдакцыі народнай асветы і беларускіх слоўнікаў. Янка Саламевіч удзельнічаў у стварэнні, без перабольшання, усіх значных беларускіх энцыклапедый апошняй трэці XX — пачатку XXI стст., ад 12-томнай "БелСЭ" (1969 — 1975), 5-томнай "ЭЛіМБел" (1984 — 1987) да 18-томнай "Беларускай Энцыклапедыі" (1996 — 2004). І ўдзельнічаў не толькі як арганізатар выданняў, навуковы рэдактар дасланых тэкстаў, але і як найбольш актыўны і адзін з самых кваліфікаваных самастойных аўтараў, сапраўдны энцыклапедыст. Толькі для названых энцыклапедый ён напісаў некалькі соцень, а магчыма і тысяч лаканічных, інфармацыйна насычаных і навукова дакладных артыкулаў. А яшчэ ж былі і іншыя энцыклапедычныя выданні, у стварэнні якіх ён прымаў удзел і як аўтар сваіх, і як рэдактар чужых публікацый. Так, адно для энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала" (1986) Я. Саламевіч напісаў 165 артыкулаў, для 2-томнай энцыклапедыі "Беларускі фальклор" (2005 — 2006) — 122 артыкулы і г. д. У святле сказанага падаецца цалкам слушным прысуджэнне ў 1976 годзе Янку Саламевічу, разам з некалькімі іншымі стваральнікамі "БелСЭ", Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне навукі.

Энцыклапедызм Янкі Саламевіча відаць ва ўсім, да чаго б ён ні дакрануўся як творца свайго артэфакта ці даследчык чужога. Чытачы рэспубліканскіх перыядычных выданняў яшчэ з 1957 г. ведаюць яго як даволі актыўнага літаратурнага крытыка, рэцэнзента асобных кніг М. Арочкі, Я. Брыля, Г. Кісялёва, Г. Кляўко, А. Лойкі, М. Мушынскага, Я. Скрыгана і інш. Чытачы асобных выданняў удзячныя Я. Саламевічу як стваральніку многіх арыгінальных кніг — "Хрэстаматыі беларускай дзіцячай літаратуры" (1966; разам з М. Пятровічам і А. Налівайкам), кнігі ўспамінаў, артыкулаў і дакументаў "Максім Гарэцкі" (1984; разам з А. Лісам), выбраных твораў Гальяша Леўчыка "Доля і хлеб" (1980; разам з Н. Ляшковіч), М. Арла "Лірнік" (1991), Я. Чачота "Свіцязь" (1999), анталогій "Беларуская балада" (1978) і "П'есы XIX — пачатку XX ст." (1998), зборніка "Беларускія загадкі" (1982, 1989), кніжкі беларускіх народных скорагаворак "Мама Мышка сушыла шышкі" (1983), літаратурных календароў "Кола дзён 87" і "Кола дзён 88" і інш. Для названых і іншых выданняў Я. Саламевіч адшукаў у беларускіх і замежных архівах і бібліятэках шэраг не вядомых раней матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчасцю Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Лейкі, Г. Леўчыка, З. Верас, Ф. Шантыра, А. Зязюлі, У. Дубоўкі, Р. Зянькевіча, Ч. Пяткевіча, М. Федароўскага і іншых вядомых беларускіх пісьменнікаў і фалькларыстаў. Нельга праміnуць і намаганні юбіляра па ўзнаўленні іншамоўных тэкстаў сродкамі беларускай мовы. У прыватнасці, ён дасканала пераклаў навелы Васіля Стафаніка "Сіняя кніжачка", "Катруся" і "Каменны крыж" ("Полымя", 1971, № 5), апавяданні Марка Чарамшыны "Ласка", "Святы Мікола пад арыштам" і "Чычка" ("Полымя", 1974, № 6) — з украінскай мовы, аповесць В. Гузанава "Адысей з Беларусі" (1993) — з рускай мовы, кнігу М. Федароўскага "Люд беларускі: Вяселле" (1991) — з польскай мовы і інш. Творчы даробак стаў аб'ектыўнай падставай таго, што ў 1989 г. Я. Саламевіча прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР.

Варта толькі ўзгадаць прозвішча Саламевіч, як па асацыяцыі імгненна ўзнікае: "аўтар "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI — XX стст.)" (1983). І гэта не дзіўна. Янку Саламевічу заўсёды была не чужой праца бібліёграфа. Захапіла яна ў свае цянёты яго яшчэ тады, калі ён сваю працоўную кар'еру пачаў у Дзяржаўнай (цяпер — Нацыянальнай) бібліятэцы Беларусі на пасадзе карэктара і рэдактара выдавецкага аддзела (1960 — 1962). Да Я. Саламевіча такога слоўніка псеўданімаў і крыптанімаў, прычым ажно на 4 тысячы адзінак, у нас не было. У рускіх быў 4-томны "Словарь псевдонимов русских писателей, учёных и общественных деятелей" І. Масанава (1956 — 1960), ва ўкраінцаў — "Словник українських псевдонімів та криптонімів (XVI — XX ст.)" А. Дэя (1969), а беларускага не было. Жарсць назапашвання і раскрыцця пісьменніцкіх псеўданімаў не пакінула Янку Саламевіча да самых апошніх дзён яго жыцця. Ён сабраў і расшыфраваў звыш 20 тысяч псеўданімаў і крыптанімаў! Падрыхтаваны да выдання яго новы, вялікі, найбольш поўны слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў. Як самы значны і велічны помнік свайму стваральніку, слоўнік Янкі Саламевіча чакае свайго ўрэчаіснення.

Побач з бібліяграфіяй стаіць і храналогія як дапаможная галіна літаратуразнаўства. У адным з яе жанраў — летапісе жыцця і творчасці пісьменніка — таксама выявіў сябе Я. Саламевіч. Дзякуючы яму мы нарэшце маем даволі поўны "Летапіс жыцця і творчасці Янкі Купалы", які заняў ледзь не ўсю 2-ю кнігу 9-га тома Поўнага збору твораў песняра (2003; С. 43 — 282). Не толькі памесячна, але і падзённа распісаны ў ім розныя факты (публікацыі твораў, паездкі, творчыя сустрэчы і інш.), якія непасрэдна датычаць жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі.

Такім чынам, мы бачым Я. Саламевіча як энцыклапедыста (у шырокім і вузкім значэнні гэтага слова), выдавецкага рэдактара, гісторыка літаратуры, літаратурнага крытыка, перакладчыка, архівіста, бібліёграфа. Канечне ж, нельга не ўспомніць, бадай, галоўную Саламевічаву іпастась — фалькларыста. Трэба падкрэсліць: ён упершыню заявіў пра сябе ў друку менавіта як фалькларыст (маю на ўвазе публікацыі "Да пытання аб беларускім фальклоры" ў "Чырвонай змене" 16 сакавіка 1957 г. і "Пра фалькларыстыку і этнаграфію" ў "Літаратуры і мастацтве" 21 студзеня 1959 г.). Тэма ягонай кандыдацкай дысертацыі таксама была звязана з фальклорам: "Міхал Федароўскі — фалькларыст". Дысертацыю ён паспяхова абараніў у 1971 г., а ўжо на наступны год выйшла пад такой жа назвай яго салідная манаграфія пра аўтара капітальнага "Люду беларускага". На манаграфію з'явілася каля дзясятка станоўчых рэцэнзій у беларускім і польскім друку. Да сёння яна найбольш поўная і адзіная не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы крыніца звестак пра гэтага, еўрапейскай вагі, збіральніка і даследчыка беларускай вусна-паэтычнай творчасці.

Вывучэнню і прапагандзе розных відаў і жанраў беларускага фальклору прысвечана некалькі дзясяткаў артыкулаў Я. Саламевіча, змешчаных у перыядычных і асобных выданнях, у энцыклапедыі "Беларускі фальклор", у штогодніх календарах "Родны край" (1993 — 2003). Свой погляд на некаторыя праблемы, звязаныя з вывучэннем скарбаў вуснай народнай творчасці, ён выказаў у шэрагу рэцэнзій на фалькларыстычныя выданні (навуковыя манаграфіі, фальклорныя зборнікі).

Шырыня энцыклапедычных падыходаў да розных з'яў культуры выявілася і ў іншых сферах дзейнасці Я. Саламевіча як фалькларыста. У прыватнасці, як бібліёграф ён уклаў першы ў Беларусі даведнік "Беларускі фальклор (1926 — 1953)" (1964). Даведнік зафіксаваў ажно 1206 публікацый і затым стаў добрай асновай для больш грунтоўнага паказальніка М. Грынблата "Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка" (1972). Як перакладчык і прапагандыст лепшых дасягненняў фалькларыстыкі Я. Саламевіч пераклаў з рускай мовы і пасадзейнічаў выданню ў Мінску двух выдатных кніг незаслужана высланага ў 1949 г. з Беларусі прафесара Башкірскага ўніверсітэта Льва Барага — "Беларуская казка: Пытанні вывучэння яе нацыянальнай самабытнасці параўнальна з іншымі ўсходнеславянскімі казкамі" (1969) і "Сюжэты і матывы беларускіх народных казак: Сістэматычны паказальнік" (1978).

Да думкі Я. Саламевіча-фалькларыста заўсёды ўважліва прыслухоўваліся і ў студэнцкай аўдыторыі, і ў рэдакцыйна-выдавецкіх кабінетах. Падчас сваё веданне вусна-паэтычнай творчасці і народных абрадаў, любоў да іх ён не толькі выказваў непасрэдна, але і дэманстраваў на практыцы. Як, у прыватнасці, ён не раз выказваў у 1979 — 1988 гг., калі вёў тэлечасопіс "Роднае слова". Альбо калі ў 1987 — 1997 гг. чытаў на філфаку БДУ курс лекцый па беларускім фальклоры, падчас якіх мог, ілюструючы думку, і заспяваць народную песню, і станцаваць народны танец. Як дэманстраваў, зрэшты, арганічную засвоенасць вясельных абрадаў на тых ледзь не сарака вяселлях, дзе давялося быць жаданым сватам…

Любоў да роднага слова прывяла Янку Саламевіча на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён скончыў беларускае аддзяленне філфака (1955 — 1960), аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры (1964 — 1967). У БДУ ён у 1971 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, напісаную пад афіцыйным кіраўніцтвам прафесара М. Ларчанкі і пры непасрэднай кансультацыйнай дапамозе свайго земляка прафесара А. Лойкі. На філфаку знайшоў ён лепшую сяброўку на ўсё жыццё — жонку Ніну (1935 — 1999). На філфак, а менавіта — на беларускае аддзяленне, ён скіраваў сваіх дзяцей — дачку Вераніку і сына Аляксандра. Філфак не так даўно закончылі ўнук Павел і ўнучка Каця (цяпер супрацоўніца Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы)…

Шкада, вельмі шкада, што Янкі Саламевіча не стала. Але годна працягваць справу бацькі і дзеда ёсць каму. Пра гэта мудра і своечасова паклапаціўся ён сам. Крыніца роднага слова не абмялее!

*З пошты "ЛіМа"*

# Краязнавец, журналіст, архітэктар

У Маладзечанскім раёне яго добра ведалі як добрасумленнага, таленавітага журналіста і архітэктара. А ў тройцы шырокавядомых даследчыкаў-гісторыкаў Ермаловіч-Каханоўскі-Ляшковіч ён хоць і быў звеннявым, але неяк заўсёды заставаўся ў цені, за імі. Напэўна, яго стрымлівала адказная партыйная пасада — сакратар райкама. А ён любіў гісторыю роднага краю і быў краязнаўцам ад Бога. Гісторыю Маладзечаншчыны, яе герояў, працаўнікоў горада і вёскі ніхто лепш, чым Вячаслаў Ляшковіч, не ведаў. І зусім не выпадкова, што ён быў асабістым гідам і экскурсаводам па раёне ў шматлікіх знакамітасцей: дыктара Ю. Левітана, кампазітара А. Пахмутавай і паэта М. Дабранравава ды інш. Вячаслаў Антонавіч сябраваў з многімі пісьменнікамі, артыстамі, вучонымі — Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Адамам Мальдзісам, Валянцінам Ерашовым, акадэмікам-гісторыкам Самсонавым, скульптарам Анікейчыкам… І спіс гэты далёка не поўны.

У яго было незвычайнае і нават блізкім людзям незразумелае захапленне — ён збіраў камяні і добра ведаў, дзе, на якім полі які ляжыць. Калі ў Акадэміі навук БССР складалі Атлас ледавіковых камянёў — з ім раіліся, тэлефанавалі, рабілі даведкі. А ў сваёй кнізе "Камень пры дарозе" В. Ляшковіч так расказвае пра ледавіковыя камяні: быццам звычайны ледавіковы камень быў для яго жывой істотай. І ён скарыстоўваў яго паўсюдна. Кожны маладзечанец ведае помнікі каля Палаца культуры і гасцініцы "Маладзечна", створаныя ў гонар знакамітых землякоў, "Пакутнікам Беларусі", рускім войскам у знак перамогі над Напалеонам на выездзе з горада на Вілейку.

В. А. Ляшковіч быў узнагароджаны ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны І і ІІ ступеняў, Чырвонай Зоркі, медалём "За адвагу", ордэнам Працоўнай Славы, 4 граматамі Вярхоўнага Савета БССР…

Але ў 1993 г. здарылася зусім непрадбачанае: на пешаходным пераходзе каля эканамічнага каледжа В. Ляшковіча збіла іншамарка і ў духу нашага часу вадзіцель уцёк з месца здарэння, а ў наступны год да ветэрана вайны наведаліся злодзеі. Яны прыйшлі быццам для таго, каб запрасіць на сустрэчу з навучэнцамі адной навучальнай установы горада. І ён паверыў ім, яшчэ і чаем пачаставаў. А тым часам злодзеі выкралі ўсе ордэны і медалі. Усё гэта было для ветэрана горш, чым нажом па сэрцы. Выжыў на страшнай вайне, а тут здароўе рэзка пачало здаваць…

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ**

# Экспромты ў "тэкстыльным дворыку"

Яўген ШУНЕЙКА

**Беларусы — "тэкстыльная" нацыя. Як зор у небе, не злічыць усіх вышываных, тканых, вязаных вырабаў народнай творчасці, якімі спрадвеку славяцца нашы таленавітыя майстры. Ужо не адзін год Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт, іншыя навучальныя ўстановы рыхтуюць выдатных спецыялістаў у галіне розных відаў тэкстыльнай творчасці. Але толькі сёлета ўпершыню быў праведзены прысвечаны ёй эксперыментальны пленэр "Метафары і метамарфозы-1".**

Унутраны дворык Рэспубліканскай галерэі Беларускага саюза мастакоў "Палац мастацтва". На гэтай утульнай і дастаткова вялікай творчай пляцоўцы можна размясціць самае шырокае кола ўдзельнікаў пленэру, нават прыняць замежных калег. Але на першы раз вырашылі проста паспрабаваць, як гэта будзе, злучыўшы намаганні сталых і зусім маладых беларускіх мастакоў-тэкстыльшчыкаў. Галоўнымі арганізатарамі сталі вядомая мастачка, адзін з лідараў гэтак званага аўтарскага габелена (які аўтар выявы сам і выконвае) Людміла Пятруль ды аспірантка БДАМ Вераніка Юрэвіч-Малашчук. Сярод удзельнікаў — прадстаўнікі эксперыментальных стылёвых напрамкаў, педагогі і выпускнікі розных творчых ВНУ: Ніна Пілюзіна, Антаніна Гуршчанкова, Людміла Дамнянкова, Наталля Аджзер, Кацярына Разанкова, Ксенія Ралінская, Вераніка Багачова і іншыя.

Як высветлілася, усе ўдзельнікі даўно марылі пра такую творчую магчымасць — працаваць разам на сваім агульным "тэкстыльным дворыку" і рабіць нешта неверагоднае, імправізаваць з матэрыяламі, якія дазваляе стварыць вельмі крэатыўныя фармальныя і шматасацыятыўныя кампазіцыі. Іх можна потым экспанаваць у самых розных выставачных варыянтах, нават падвешваць у вызначанай прасторы. У адрозненне ад іншых відаў выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва, тэкстыльны твор толькі выйграе ад такіх экспазіцыйных інавацый.



Стварэнне тэкстыльнай "складанкі".

Мадэрністычныя ідэі аб'ядноўвалі на працягу некалькіх летніх дзён мастакоў-аднадумцаў, якія паспелі выканаць, што называецца, "у творчым парыванні" шэраг вельмі арыгінальных творчых экспромтаў. Марыя Барысенка і Юлія Зеляная на звычайных рамах саткалі вялікія абстрактныя дываны, Вольга Конева і Марыя Карповіч-Сакалова зрабілі з фарбаванага лямцу сімвалічную "тэкстыльную арку", Алена Обадава на вачах у захопленых гледачоў стварала аб'ёмныя рознакаляровыя формы з трыкатажных палотнаў. Людміла Пятруль таксама здзівіла нечаканай ідэяй, стаўшы аўтарам першай у беларускім эксперыментальным мастацтве тэкстыльнай "Арткнігі". Кожны ўдзельнік і назіральнік пленэру адчуў неверагодны подых інавацыйных магчымасцей, асабліва калі ўсе творы на працягу аднаго дня экспанаваліся ва ўтульным "тэкстыльным дворыку", уражліва эстэтызуючы выставачную пляцоўку. Яна, дарэчы, чамусьці вельмі рэдка выкарыстоўваецца для такіх мэт.



Кацярына Разанкова за працай.

Падчас абмеркавання вынікаў творчага эксперыменту мастацкі крытык Ларыса Фінкельштэйн прапанавала не губляць ініцыятыву і рыхтавацца ў наступным годзе да яшчэ больш наватарскай пленэрнай задумы. Якой? Такой, што дазволіць сканцэнтраваць творчыя намаганні ўдзельнікаў на аб'ёмна-прасторавых вырашэннях з лямцу, тканін, карункаў, — чаго яшчэ не было ў практыцы айчынных тэкстыльшчыкаў. Выказаную ідэю арганізатары ды ўдзельнікі пленэру ўспрынялі з вялікім энтузіязмам. Але ж рыхтавацца да такой маштабнай працы трэба не ў апошні момант. Таму быў створаны аргкамітэт, вызначаныя канкрэтныя абавязкі для кожнага з патэнцыяльных удзельнікаў "Метафар і метамарфоз-2", колькасць якіх будзе, несумненна, значна большая.

Такія новыя формы творчага яднання сведчаць пра рост прафесійнай салідарнасці, пра, так бы мовіць, высокую "тэкстыльную свядомасць" беларускіх мастакоў розных пакаленняў. І ў гэтым бачыцца зарука таго, што яскравы самабытны напрамак нацыянальнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва стане больш пашыраным і ўплывовым у фарміраванні эстэтычных дамінантаў не толькі традыцыйна вясковага, але і нашага сучаснага гарадскога асяроддзя.

# Лірыка наваколля

**Пейзаж для такіх мастакоў — не проста жанр, а творчая доля. Прызванне. Лёс надзяляе іх асаблівай назіральнасцю, тонкім адчуваннем прыгожага ў рэаліях звыклага наваколля, трапяткім успрыманнем прыроды. З маленства іх захапленне роднымі краявідамі настолькі глыбокае, што выклікае непераадольнае жаданне прадоўжыць сваё пачуццё, перадаць яго праз рукатворны маляўнічы люструнак.**



Юрый Козел "Вязынка".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Настаўнікі вясковай школы, у якой вучыўся Іван Козел, заўважылі: гэты хлопчык любіць маляваць не дзеля забавы, у яго — мастацкі талент. Іван паступіў у знанае Бабруйскае ДПТВ № 15, каб набыць спецыяльную адукацыю і працаваць у сферы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — асвоіць, скажам, роспіс па дрэве. А крыху пазней, калі ўжо адслужыў у войску і задумаўся пра далейшае самастойнае жыццё, не змог уявіць сваю будучыню без прафесійных занядкаў жывапісам. Скончыўшы ў 1996 г. Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, дзе яго педагогамі былі М. Данцыг ды А. Марачкін, удасканальваў свой прафесійны досвед пад кіраўніцтвам М. Савіцкага ў Творчых акадэмічных майстэрнях жывапісу, графікі і скульптуры.

Яго жанравыя прыярытэты сфарміраваліся самі сабой: ураджэнец маляўнічай і рамантычнай Навагрудчыны, замілаваны беларускімі краявідамі, І. Козел аддае перавагу пейзажу, хаця піша і партрэты, і нацюрморты. Называе сябе пераканаым рэалістам, падзяляе мастацкія погляды калег па суполцы "Традыцыя" і свае творчыя прынцыпы імкнецца перадаць моладзі, выкладаючы ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы імя І. Ахрэмчыка малюнак, жывапіс, кампазіцыю.



Іван Козел "Вясковы матыў".

Аднойчы Іван Козел зайшоў у рэдакцыю, каб запрасіць на персанальную выстаўку. Тады і разгаварыліся. Мастак расказаў пра творчую практыку сваіх вучняў, да якой і сам прычыняецца з радасцю, бо любіць маляваць на пленэры, успамінаючы ўласнае маленства: "Угледаючыся ў прыроду Беларусі, мы спасцігаем і яе гісторыю. Робім шмат замалёвак, эцюдаў, над якімі потым разам з дзецьмі працуем, удасканальваем вобраз. Нараджаецца лірычны або эпічны пейзаж, але абавязкова звязаны з архітэктурай". Іван кажа: "Люблю пісаць з натуры, бо прырода натхняе. Люблю паназіраць за станам прыроды, убачыць, як змяняюць адно аднае раніца, дзень, вечар. Адчуць сувязь з гісторыяй праз архітэктуру, якая да нас дайшла. Што наконт рэалізму... Гэта не значыць вокамгненнае замалёўванне з натуры. Гэта — бачанне, якое ўзнікае ад асабістага адчування прыроды і ведання законаў класікі".

Ёсць у мастака паслядоўнік і аднадумца з вельмі падобнай творчай біяграфіяй — брат Юрый. На шэсць гадоў ён маладзейшы за Івана, якому нядаўна споўнілася пяцьдзясят, ды той лічыць малодшага брата сваім галоўным дарадцам, "першым суддзёй". Бачацца яны не так і часта, бо Юрый жыве ў Дзятлаўскім раёне, куды пераехалі бацькі, дапамагае самым родным людзям. Але хто як не браты-мастакі могуць шчыра абмеркаваць творы адзін аднаго, памарыць пра стварэнне найлепшай карціны! Іван ды Юрый разам сочаць за ўсімі значнымі выстаўкамі ў краіне, пры нагодзе наведваюць расійскія музеі. Ды няма нічога даражэйшага за сустрэчу ў бацькоўскім доме. А вось маляваць на радзіме, як мяркуе І. Козел, — асаблівая адказнасць, тым больш калі бярэшся за партрэты блізкіх, знаёмых, дзяцей. Сумесныя вернісажы братоў Козелаў праходзілі ў Музеі гісторыі беларускага кіно, галерэі "ЛаСандр-арт", у Дзятлаўскім краязнаўчым музеі. Побач размяшчаліся іх работы і на вялікай калектыўнай выстаўцы ў сталічным Палацы мастацтва.

Іван Козел — удзельнік многіх праектаў Беларускага саюза мастакоў, а ўзоры яго жывапісу знаходзяцца ў Домемузеі А. Міцкевіча ў Навагрудку, у Літаратурным музеі М. Багдановіча, іншых зборах, у тым ліку ў прыватных калекцыях за мяжой. Распавядаць пра свае работы ён, што называецца, "не мастак". Красамоўства — у яго пейзажах, дзе квітнее вясна, шчыруе ракуцёўскае лета, бароняць і лекуюць душу жыровіцкія святыні, абуджаюць памяць пра легенды роднай зямлі волаты-дрэвы, адгукаюцца рэхам вялікай гісторыі слынныя мясціны Навагрудчыны, віддзе праніклівы дыялог з

# Час для вяртання... плакатаў

**Беларусь — краіна на адвечным памежжы рэлігій, культур еўрапейскага свету. Не было стагоддзя, каб менавіта на гэтым памежжы не ўзнікалі новыя ідэі, не адбываліся падзеі, уплывовыя для жыцця ўсёй Еўропы. Беларусь была і ў эпіцэнтры вялікіх рэвалюцыйных пераўтварэнняў, што пачыналіся амаль стагоддзе таму. У часы тых напружаных і далекасяжных перамен поруч з палымяным словам сваю выключную ролю адыграла і мастацтва рэвалюцыйна-агітацыйнага плаката. У 1920-х гадах ён перажыў на тэрыторыі Беларусі свой эпахальны ўзлёт.**




*Г. Змудзінскі, 1921, г. Мінск.*

Людміла НАЛІВАЙКА,
Яўген ШУНЕЙКА

Нават сёння плакаты 1920-х нясуць такую моц пераканання і вобразнага ўздзеяння, што іх творчае вырашэнне надоўга застаецца ў памяці. Аўтарам гэтых работ удавалася дасягнуць галоўнага: беспамылкова вызначыць вобраз героя-сучасніка і тыя праблемы, якія неабходна вырашаць, каб жыццё рухалася ў бок новых сацыяльных ідэалаў.

Пра значнасць плакатаў, створаных у Беларусі, сведчыць іх знаходжанне ў найбуйнейшых, былых усесаюзных музейных калекцыях: музея правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі У. Леніна, музея Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, Бібліятэкі У. Леніна, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына. У пошуках беларускага плаката 1920-х гадоў нам давялося перагледзець і фонды музеяў ды архіваў Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Смаленска, Вільнюса. Вядома, што ў перайменаваных цяпер музеях Масквы і Санкт-Пецярбурга трактуюць савецкую эпоху як адзін з перыядаў гісторыі XX стагоддзя і не ставяцца да колішняй рэвалюцыйнай спадчыны як да прыярытэтаў. Таму многія сапраўдныя і непаўторныя мастацкія шэдэўры знаходзяцца ў падземных сховішчах. Зразумела, гэта не самае лепшае месца для плакатаў, якія прызначаны не для сутарэнняў, а перш за ўсё для панавання ў сацыяльным асяроддзі, на вуліцах і плошчах, у шматлюдных грамадскіх установах! А хіба можна пагадзіцца з тым, што на сённяшні дзень у беларускіх музеях знаходзіцца толькі тры тагачасныя плакаты, а за межамі нашай краіны — іх сотні, вывезеных і прыхаваных без асаблівай патрэбы?




*Ф. Іванчук, 1921, г. Магілёў.*

Перад беларускім грамадствам стаіць прынцыповая задача: вярнуць нацыянальную рэвалюцыйную спадчыну на радзіму, бо дасягненні нашых плакатыстаў заслугоўваюць пачэснага месца ў даступнай для гледачоў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

Калісьці на перадавой рэвалюцыйнай барацьбы знаходзіліся творы Эль Лісіцкага, А. Быхоўскага, А. Гефтэра, П. Гуткоўскага, Я. Драздовіча, А. Ахола-Вало, Г. Змудзінскага, Я. Целяшэўскага, Б. Ульпі ды іншых мастакоў. Аднак, думаецца, класічныя для 1920-х гадоў тэмы плакатаў надзвычай актуальныя і для сённяшніх дзён: дапамога хворым, пакутнікам ад сацыяльнай несправядлівасці ў свеце, яднанне ўсіх працоўных для абароны сваіх правоў; ачышчэнне жыцця ад рознага бюракратычнага смецця, амаральнасці, алкагольнай залежнасці ды іншых праяў бесперспектыўнага ладу існавання; заклік да адукацыі, асветы, да патрыятычнай сувязі з Радзімай і г. д. Цікавасць сучаснага гледача выкліча і выяўленчая мова беларускага рэвалюцыйнага плаката — фенаменальна выразная, даведзеная да знакавай дасканаласці. Фармальная кампазіцыя, пабудаваная на спалучэннях напружаных геаметрычных форм, выдатна стасуецца з сюжэтнай сутнасцю, з сімвалічным вобразам героя, атрыбутыкай рэвалюцыйнай дзейнасці. А на пярэднім плане плакатаў — тэксты: заўсёды змястоўныя, эмацыянальна жывыя, пранікнёныя.

Станаўленню мастацтва масавай агітацыі ды прапаганды як новага віду савецкага выяўленчага мастацтва садзейнічалі Чырвоная Армія і яе структуры пры Палітаддзеле Заходняга фронту (Смаленск), а таксама аддзяленні “Окон РОСТА” ў Віцебску, Гомелі, Мінску, Магілёве з афармленча-агітацыйнымі творчымі майстэрнямі накшталт УНОВИСа ў Віцебску, індустрыяльнага мастацтва ў Смаленску, Гомельскай мастацкай студыі імя М. Урубеля з праграмай акадэмічнай школы... Творы палітычнай агітацыі мелі свае прыкметы ў выглядзе адпаведных штампаў і лагатыпаў: “УНОВИС”, “РОСТА”, “Политотдел Западного фронта”, “Политотдел 16 армии” ды інш. Цікава, што менавіта ў інструкцыях палітаддзелаў пазначалася: “Агітпункты — гэта прапаганда мастацкімі формамі і вобразамі ідэй сацыялістычнага будаўніцтва і папулярызацыя пралетарскага выяўленчага мастацтва”. Нават існавала інструкцыя “працаваць больш спрошчаным метадам, а не ў складанай буржуазнай манеры”. Дарэчы, аўтар кнігі “Адвечным шляхам” (Вільня, 1921) Ігнат Абдзіраловіч канстатаваў наступнае: “На нашых вачох вырастае дзіўная сіла палітычных лёзунгаў, таксама незразумелых, а часам пазбаўленых зместу, характару, як самага рэакцыйнага, так і ультрарадыкальнага, якія маса сустракала дружнымі воплескамі”.

Усю гэтую спадчыну нам неабходна яшчэ даследаваць — даследаваць як сваю гістарычную памяць, захаваную ў архіўных матэрыялах. Такая праца будзе спрыяць новаму абуджэнню навуковай цікавасці да шмат якіх пытанняў гісторыі і мастацтва, а таксама дапаможа ліквідаваць у гэтых сферах куткі невядомасці, цьмянасці, неакрэсленасці. Словам, надышоў спрыяльны час для рашучых дзеянняў (вядома, існуе ўжо і “альтэрнатыва вяртання” — сучасныя тэхналогіі стварэння друкаваных копій, цалкам адпаведных выгляду арыгінала).

Пра арганізацыю выстаўкі “Беларускі плакат 1920 — 1930-х гадоў” сёння клапоціцца дырэктар НММ Уладзімір Пракапцоў і яго намеснік Надзея Усава. Вядома, што задачу вяртання беларускіх плакатаў на радзіму паставіла перад сабой Міністэрства культуры Беларусі, якое звярнулася па гэтым пытанні ў адпаведнае міністэрства Расійскай Федэрацыі, перадаўшы спісы плакатаў з дакладным паказаннем месца іх знаходжання. Прыемна адзначыць, што першы адказ аднаго з музеяў Масквы наконт захаванасці і магчымасці выкарыстання калекцыі ўжо атрыманы.

# Летні вернісаж у сталіцы

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

Больш як 300 работ, выкананых у розных відах, тэхніках і жанрах выяўленчага мастацтва, прывезлі ў Мінск мастакі Гомельшчыны. Іх папярэдні калектыўны вернісаж ладзіўся тут 12 гадоў таму. І вось — новая справаздача ў сталічным Палацы мастацтва, удзел у якой узялі больш як 70 аўтараў — прадстаўнікоў розных творчых пакаленняў. Выстаўка “Мастакі Гомельшчыны-2012” не толькі нагадала пра традыцыі самабытнай школы, звязаныя з імёнамі Барыса Звінагродскага, Віктара Казачэнкі, Валянціна Крылова, Акіма Шаўчэнкі, Роберта Ландарскага, Анатоля Отчыка, Валянціна Пакаташкіна. Яна прадэманстравала новыя дасягненні жывапісцаў, скульптараў, керамістаў, майстроў акварэлі, габелена, сцэнаграфіі... Творчасць Уладзіміра Андрыянава, Віктара Баранава, Валянціны Дземянчук, Міколы Дубровы, Пятра Захарава, Андрэя Крылова, Віктара Ландарскага, Зміцера Папова, Пятра Фея, Аляксандра Фядотава ды іншых сталых і маладых талентаў годна прадстаўляе выяўленчае мастацтва гомельскай зямлі, якая дала свету многіх выдатных майстроў. У іх ліку — славутыя Язэп Майсеенка, Віталь Цвірка, Гаўрыла Вашчанка.

Трэці месяц прымае наведвальнікаў III Мінская міжнародная біенале сучаснага жывапісу “Colorfest”. Экспазіцыя, што працуе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, складаецца з работ мастакоў Венесуэлы (гэтая краіна — ганаровы госць выстаўкі), Латвіі, Літвы, Малдовы, Палесціны, Украіны, Эстоніі, нашых творцаў. Арганізатары праекта — Міжнародная гільдыя жывапісцаў на чале з Фёдарам Ястрабам ды НББ Беларусі. Яны ладзяць “Colorfest” з мэтай стварэння станоўчага іміджу Беларусі на еўрапейскай артпрасторы, падтрымкі сучаснага выяўленчага мастацтва і аўтараў, чые работы вылучаюцца пазітыўнымі інавацыйнымі якасцямі, а таксама — умацавання міжнароднага аўтарытэту нашай краіны, развіцця творчых і сяброўскіх сувязей.

Скульптар Валерый Малахаў і графік Андрэй Ярашэвіч ужо даўно ў полі зроку артграмадскасці. Таленавітыя прафесіяналы, яны далучыліся да маладзёжнай секцыі Беларускага саюза мастакоў, актыўна ўдзельнічаюць у выстаўках. Нядаўна сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва наладзіў іх “Дыялог” — супольны праект двух індывідуальнасцей, створаны з інсталяцый, артаб’ектаў, графічных работ. А затым на тэрыторыі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля адкрылася персанальная выстаўка Валерыя Малахава “Трансфармацыя. (Сучаснае мастацтва металічнага лому)”. Сотні гледачоў упершыню атрымалі магчымасць падзівіцца на вытанчаныя артаб’екты, у якіх мастак увасабляе вобразы прыродных стыхій, міфалагічных істот, казачных персанажаў, эстэтычна “ўтылізуючы” старыя аўтазапчасткі, вінцікі, трубы, іншы металалом, які часам камбінуе са шклянымі, каменнымі, драўлянымі элементамі.

# Каб павучыцца і ўзбагаціцца духоўна

**На тыдзень сталіцай культурнага жыцця Століншчыны стала вёска Гарадная, дзе ў трэці раз праводзіўся Гараднянскі кірмаш рамёстваў, падчас якога свае майстэрствa прадэманстравалі ганчары як з Беларусі, так і з іншых краін свету. Праходзілі дні керамікі краін-удзельніц, праводзіліся майстар-класы, працавала выстаўка работ пленэрыстаў. У якасці адпачынку — пазнавальныя экскурсіі ў мастацкую галерэю Сяргея Місюна, Цэнтр драўлянай скульптуры народнага майстра Беларусі Івана Супрунчыка, заказнік рэспубліканскага значэння "Сярэдняя Прыпяць", а па вечарах — святы нацыянальнай кухні. Завяршылася творчая сустрэча "круглым сталом".**

**Галіна ГАШЧУК,**
**фота аўтара**

## Гудзеў кірмаш, звінела песня

Больш як 50 майстроў народнай творчасці Брэсцкай вобласці прадставілі работы на Гараднянскім кірмашы рамёстваў. А паабапал дарогі да Дома культуры свае калекцыі прэзентавалі ўдзельнікі пленэру — ганчары і керамісты з Беларусі і Расіі, Малдовы, Украіны, Грузіі, Арменіі, Літвы, Польшчы і Швецыі. Насупраць пад вялікім капелюшом-парасонам на фоне драўляных скульптур, якія адлюстроўваюць працэс ганчарства, яны праводзілі майстар-клас.

Уздоўж цвінтара да галоўнай пляцоўкі святкавання размясціліся сталы з вырабамі майстроў народнай творчасці. Жывапіс, батык, арыгамі, разьба па дрэве, салома- і бісерапляценне, аплікацыя саломкай, шыццё з абрэзкаў і вышыўка крыжыкам, шматлікая кераміка — ад традыцыйных гараднянскіх гаршкоў і місак да мініяцюрных сувенірных вырабаў розных школ і напрамкаў. Усё гэта можна было набыць. Сярод майстроў са Століншчыны — мастакі Аляксандр Харашун і ВалянцінаЦіхан з Давыд-Гарадка, бондар Антон Даневіч з Адвержыч, Марына Каспяровіч з Відзібора, Святлана Гунько, Святлана Цітко і Васіль Пархомаў з Фядор і інш.

## «Брацкая свяча»

На наступны дзень у Доме культуры вёскі Гарадная прайшлі прэзентацыя дакументальнай кінастужкі "Брацкая свяча" і творчая сустрэча з яе стваральнікамі. У дзеючых асобах вяскоўцы пазнавалі сябе і сваіх родных, галоўнага героя Мікалая Пешку, жыхара вёскі Лука, дзе захаваўся звычай вырабу агульнай свячы-ахвяры на Шчадрэц — Новы год па старым стылі. Калісьці гэты звычай быў шырока распаўсюджаны ў мясцінах, дзе людзі займаліся пчалярствам. Сёння толькі ў адным кутку Беларусі можна пабачыць, як мужчыны ўсе разам робяць з воску брацкую свячу, якую потым ахвяруюць храму. Мясцовыя жыхары кажуць, што гэта дар Богу ад людзей.

Такі звычай, з аднаго боку, звязаны з царкоўнымі брацтвамі — аб'яднаннямі міран вакол Царквы, якія вядомы ў Беларусі з XVI стагоддзя. А з другога — мае значна больш глыбокія карані. Ён паходзіць ад радавых брацтваў, ад сябрыны, дзе практыкавалася агульнае валоданне членаў аднаго роду пчоламі.

Пчалярскія веды традыцыйна перадаваліся па мужчынскай лініі. Магчыма, з гэтай нагоды ў вёсцы Лука мужчыны ў адзін з калядных вечароў збіраюцца разам, размінаюць воск у далонях і, далучаючы кавалак да кавалка, ствараюць вялікую свечку-ахвяру. У фільме паказаны ўсе этапы гэтага традыцыйнага абраду: збор грошай, набыццё воску, працэс вырабу і асвячэння свечак.

Мясцовыя жыхары ў большасці сваёй ужо не займаюцца пчалярствам, але паранейшаму выконваюць старажытную традыцыю — са шчырай верою, што іх ахвяра паспрыяе дабрабыту ўсіх вяскоўцаў.

Фільм зняты студыяй у імя святога Іаана Воіна — творчай майстэрняй Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра ў г. Мінску. Рэжысёр — Ірына Волах, аўтар шматлікіх дакументальных стужак этнаграфічнай тэматыкі. А сцэнарый да "Брацкай свячы" напісала Вольга Лабачэўская — кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.



*Малады ганчар з Лідскага цэнтра рамёстваў і традыцыйнай культуры Андрэй Канцавы дэманструе музычны інструмент з гліны — выраб вопытнага майстра з Валожынскага раёна Дзям'яна Каптура.*

## Каб круціўся ганчарны круг

"Круглы стол" прайшоў на трэці дзень свята. Яго ўдзельнікі выказалі шмат цікавых прапаноў і меркаванняў.

— У вас маюцца ўсе магчымасці для пераўтварэння Гараднай у экалагічна-турыстычны цэнтр, — звярнуўся да сталінцаў Пётр Скіба, настаўнік з Любліна, член Асацыяцыі майстроў народнай творчасці (Польшча). — Галоўнае — удасканальваць ганчарнае мастацтва і пашыраць магчымасці для прадпрымальніцтва. Можна зрабіць акцэнт на стварэнні студыі, дзе вучылі б дзяцей працаваць з глінай. Прырода, царква, кірмаш, побач цікавыя гарады, нацыянальная кухня — ёсць усё для прыцягнення турыстаў, для дасягнення поспеху ў гэтай справе.

У гэтым жа кірунку разважала і Элізабет Халгрэн, выкладчыца Універсітэцкага каледжа мастацтваў, рамёстваў і дызайну ў Стакгольме (Швецыя):

— Я пабывала ў розных краінах свету. У Беларусі — упершыню. Было вельмі цікава сустрэцца з носьбітамі ганчарнага промыслу. Ёсць у вас і маладыя майстры. Таму вельмі важна падрыхтаваць будучыню, што дасць развіццё Цэнтру ганчарства, старажытнаму промыслу. Цудоўна, што захоўваюцца народныя традыцыі. Але захаванне традыцый — гэта не толькі канцэнтрацыя, утрыманне ведаў, а і дабаўленне новага. Таму варта выкарыстоўваць сучасныя падыходы ў рабоце з глінай.

— Ад пленэру я болей узяў, чым аддаў, — зазначыў Мікалай Падрэзаў (Расія), удзельнік міжнародных канферэнцый, выставак і фестываляў, дыпламант IV Міжнароднага фестывалю керамістаў (г. Скапін, 2010 г.). — Першыя тры дні хадзілі па вёсцы, гутарылі з майстрамі, дзецьмі. Уражаны іх прыязнасцю і гасціннасцю. Было б добра, каб вы пакінулі драўляную архітэктуру дамоў, захавалі домік, у якім жыў унікальны чалавек — ганчар Мацвей Пячонка. Увогуле, старайцеся захаваць нават кавалачкі ганчарных вырабаў і вучыце дзяцей рабоце з глінай. Бо, як гаворыцца, "няма горшай смерці, чым ад смагі ля крыніцы".

Выказваліся слушныя прапановы і па развіцці Цэнтра ганчарства і захаванні ганчарнага промыслу, пашырэнні музея ганчарнай справы, стварэнні спецыяльнай праграмы развіцця Цэнтра ганчарства, якая ўключала б адкрыццё цэха вырабу сувеніраў, лаўкі для продажу традыцыйнай керамікі.



*У юных пакупніц вочы разбягаюцца ад глінянага і саламянага хараства.*

## Афарызм

*Як для света грае лета*
*Песню спеўную быцця;*
*Бласлаўленне небам, хлебам*
*Шле сам бог, сама зямля.*

**Янка КУПАЛА**

## З глыбінкі

### Чвэрць стагоддзя — з музыкай

Дваццаць пяць гадоў прайшло з часу, калі ў пасёлку Фаніпаль быў створаны калектыў, які сёння з задавальненнем прымаюць не толькі па ўсёй Дзяржыншчыне, але і далёка за яе межамі — народны ансамбль інструментальнай музыкі "Экспромт". Ён аб'ядноўвае людзей, для якіх музыка — неад'емная частка жыцця. Большасць з іх — прафесійныя музыканты, а значыць, творы ў іх выкананні адрозніваюцца высокім майстэрствам.

Кожныя год-два калектыў накіроўваецца ў паездкі па блізкім замежжы. Гэта — цудоўная магчымасць прадставіць сябе. Вось і мінулым летам музыкі пабывалі ў Польшчы, на фестывалі славянскіх культур "Дні Крынак".

Дарэчы, калектыў даволі плённа супрацоўнічае і з сучасным беларускім кампазітарам Уладзімірам Друктам, музыка якога дае магчымасць як найлепш прадставіць слухачу творчую індывідуальнасць выканаўцаў.

Кожны год прыносіць новыя поспехі. Яны — вынік вялікай працы, сумесных намаганняў удзельнікаў ансамбля. У 2006 годзе на рэспубліканскім фестывалі "Напеў зямлі маёй" фаніпальскія музыкі атрымалі дыплом другой ступені. У 2010-м перамаглі ў рэгіянальным конкурсе творчых калектываў памяці Анатоля Новікава, які праводзіўся ў Жодзіне. Летась заваявалі гран-пры на рэспубліканскім фестывалі-конкурсе беларускіх культур "Спадчына". І трэба спадзявацца, наперадзе ў калектыву будзе шмат перамог.

**Юлія ДАВІДОЎСКАЯ,**
**Дзяржынскі раён**

### "Залатыя рукі Кругляншчыны"

Гэтак землякі кажуць пра майстрыху Ларысу Лямцаву. Яе работамі немагчыма не захапляцца. І нездарма ж Ларыса Міхайлаўна ўвайшла ў чацвёрку майстроў Магілёўскай вобласці, якія былі ўганараваны званнем "Народны майстар Рэспублікі Беларусь".

Варта адзначыць, што крыху раней, у 2010 годзе, Л. Лямцава стала членам Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці.

З'яўляючыся метадыстам раённага Дома рамёстваў, Ларыса Міхайлаўна многае робіць дзеля захавання такога традыцыйнага віду народнай творчасці, як выраб беларускай лялькі. У яе калекцыі — лялькі-абярэгі і дэкаратыўныя лялькі, кожная з якіх непаўторная. Тут і лялькі-"анёлкі", лялькі вясковыя, лялькі шляхетныя, вясёлыя і сумныя, са старанна падкрэсленымі рысамі твараў і зусім, здаецца, схематычныя.

Аднаўляючы вобразы традыцыйнай беларускай лялькі, Ларыса Лямцава дорыць магчымасць не толькі кожнаму дзіцяці, але і кожнаму даросламу дакрануцца да вытокаў народных традыцый і культуры.

**Святлана ПРАКАПЕНКА,**
**г. п. Круглае**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Святлана Берасцень, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікола Станкевіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2715
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 09.08.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 3514

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686